*Лістападаўскае прыроды,*
*Свет зняверыўся і ў сабе.*
*Што ўжо рэчкі, стагі і долы*
*І прадзьмуты вятрамі лес*
*У задумнасці невясёлай*
*Пакарыліся восені спрэс, —*
*Хоць ад замеці ліставея*
*Скразнякамі святло ў барах,*
*Хоць і ў сэрцы трымціць падзея,*
*Як лісток на тугіх вятрах...*
*Гэта ўсё так табе знаёма!*
*Не надумаю я з тугой,*
*Што ты бліжай цяпер да дома,*
*Чым я дома да дома свайго, —*
*Проста гэту асеннюю замяць,*
*Гэты лес у асеннім агні*
*Пасылаю табе на памяць:*
*Мне веснoю яго вярні!*[1]
*<...>„*

Той ліст з „падарункам” я таксама атрымала яшчэ ў Дубултах. А перад тым быў вось такі.

„Дзень добры, Ала!

— А таечка мая, а слухай-ка ты сюды-ы, — як любіла выражоўвацца адна вясковая кабетка, — ляжу гэта я на казённым ложку, пятою збэрсаўшы казённае прасцірадла, вырачыўшы вочы і ўталопіўшы іх у столь (цьфу, — зноў слоўца бессмяротнага У.!), дык ляжу гэта я і думаю: а што было б, каб, скажам, Д. раней за Х. стаў акадэмікам і што сказаў бы на гэта Саша Яскевіч? Га?

І тут мне прыносяць нешта падобнае да пісьма. Гм! Почырк, скажу я, востранькі такі, але і завітушачкі ёсць, — ну, не раўнуючы, — колючая ружа! Эге, — думаю і ўспамінаю, што казаў у такіх выпадках мой сусед — „Эх, Мяндоза, тут няйначай нейкая Мяндоза!” — Гэта ён некалі шэкспіраўскі спектакль па тэлевізары бачыў, і класіка яго праняла. Гляджу далей: Гвадалупа не Гваделупа, Ганалулу не Ганалулу, Ганалес не Ганалес — Паланга нейкая. А самае дзіўнае: там, дзе подпіс павінен быць, ці то вензель, ці то адмысловая пячатка. Падобная і да жука скарабея і да кітайскага ці японскага знаку. Ну,

[1] Падаю той варыянт, які быў у лісце.

думаю, тут без М. Ф. Фядоранкі (ці Федарэнкі?) не разбярэш. Ці то хіба кавабату на дапамогу паклікаць.

Але ўсё-такі, таечка ты мая, сэнсу я даўмеўся, і дапяў, і дапаў, і насалоду, як Караткевіч ужо кажа, тым часам меў. Дзякуй.

Ну, дык вось. Хмаркі, дзякуй Богу, плывуць і тут, а куды і з якім намерам, нават на КПП (кантрольна-прапускны пункт) не ведаюць. А сосны тут таксама ёсць, і над імі музыка пад вечар да знямогі грае, запрашаючы праімчацца на аленях ранкам раннім, а бывае, што над безабаронным птаствам і сімфонія грыміць. Невядома навошта, так сабе. Хочаш вершык пра гэта?

*Вось гэта музыка сама*
*Сабе гучыць...”*

Далей ішоў цалкам верш. Ён ёсць у яго кнігах.

Лісты былі розныя: паштоўкі-віншаванні, часцей — вялікія, часам на некалькі старонак яго спорнага, сціслага почырку. Я была акуратным рэспандэнтам. Яму быў патрэбны такі.

...Яго лісты. Не толькі ў мяне, вядома. А я, перагортваючы — перакладзеных паперай бібулковай, — баюся дакрануцца: лісткі клёна, пялёсткі браткаў, бэзу, яшчэ нейкіх кветак, — яны рассыпаюцца ад дотыку. І застаецца бэзавы попел. Бэзавы попел... Тут свой патаемны сэнс. Той, які ўкладваў у яго Барыс Пастарнак.

...Некалі я адпісала Міхасю ў Мазыр, што не маю права адна валодаць такой раскошай — яго вершамі. Ён надрукаваў іх.

То і гэтымі лістамі я адна не маю права валодаць... Пэўна.

Мабыць, было б больш этычна — і разумна! — дачакацца моманту, калі цвярозы рэалізм прыроды нават усіх эўдэманістаў прыводзіць да той рысы, што неаспрэчна дае права на думку — mors Ultima ratio. І трэба было б, прыгожа-традыцыйна ўклаўшы свой рукапіс і арыгіналы лістоў Міхася Стральцова ў тэстамент, — пакінуць нашчадкам гэтую турботу. Але — што будзе пэўным, калі ўжо і мая воля захлынецца зямлёю ці попелам крэматорыя? Таму і пазначыла я сабе публікацыю як права. Не — як абавязак. Хаця б таму ўжо, што ў лісце сваім, без даты (на канверце — 19.IV.82 г.), Міхась Стральцоў пазначаў: „Гэтым разам я не буду такім увішным, як мінулы раз, — не назнарок, а таму, што ўчора, у чацвер, ніяк не здолеў табе адпісаць, і тое пісьмо, ненапісанае, не пайшло раніцай сёння, а раніцай быў апошні тэрмін: пошту цяпер забяруць толькі ў панядзелак. Два дні, калі не болей, для нас з табой прападуць.

Але ўсё роўна пішу вось у пятніцу, суцяшаючы сябе тым, што калі захачу, магу прадоўжыць і заўтра, і паслязаўтра — *нешта накшталт дзённіка распачаць можна*"[1].

А ў лісце ад 30.VI таго ж года зноў даводзіў: „Пра жыццё-быццё сваё *„дыярыуш"*, так сказаць, свой я табе так ці інакш *выкладаю*"[2]. То, мабыць, усё ж — абавязак ёсць. Перад Стрельцовым. Перад яго памяццю. І ў абарону таго, што яго пяро не згубіла свае здольнасці — мне даводзілася чуць, што празаік Стральцоў „все, что мог, уже совершил"[3]. І — таму, што драма жыцця Міхася Стральцова — у нечым і драма пакалення. І даючы фрагменты, эпізоды, абразкі гэтай драмы, я хачу даць штрышкі, пункціры існавання яго як выразніка нашага пакалення. Пакалення — маючы на ўвазе людзей, якім блізкія былі менталітэт, светапогляд Міхася Стральцова. Яго настрой. Яго свет.

Аповед гэты — і пра экзістэнцыю чалавечых адносін, першаіснасную самоту чалавека, пра падзею быцця, падзею існавання ў нейкіх важных сваіх выявах. Пра незалежную субстанцыю духу. Пра тое, як чалавек імкнецца дастасаваць сябе да людства і адначасова ўнікаць яго...

### „Раніцай яснага мая..."

Фотаздымак (Міхась Стральцоў аддаў мне яго і іншыя здымкі пасля перадачы па тэлебачанні, дзе яны былі скарыстаныя), на якім малады, нават малы яшчэ, раскудлачаны Міхась, — заспеў нейкае гарэзлівае, імклівае імгненне. Нібыта бег ён з вясёлае гульні — і на хвіліну спыніўся, задыхаўшыся: каб бегчы некуды зноў. Каб адчуць „шумліва-порсткі, роспачна вясёлы" вецер, паслухаць „лапатлівых" вераб'ёў, падпільнаваць птушак на лясоўцы. Як герой ягонай аповесці „Адзін лапаць, адзін чунь". І, мабыць, як ён, быў у атопках пасляваеннай пары. І, верагодна, ягоны дзед Міхась, як дзед Міхалка з тае аповесці, прасіў пана Бога за ўнука: „Пашлі выпрабаванні яму па сіле". Дзеда з матчынага боку, Міхала Ігнатавіча Кузьміцкага, Міхась Стральцоў згадваў неяк у лісце: „...дзед памёр надта рана для ягоных год, але першапачатковым выхавацелем маім, калі гэта, вядома, можна было называць на той час і ў тых умовах выхаваннем, займаўся ён".

---

[1] Курсіў мой. — А.С.
[2] Курсіў мой. — А.С.
[3] Каб не абцяжарваць тэкст, каментар падаецца толькі там, дзе ёсць разыходжанні з цытуемай крыніцай ці тлумачэнне неабходна.

Дык прыехаў гэты хлопец — Міхась Стральцоў — у сталіцу парой, якую пазначаюць „хрушчоўскай адлігай". У сярэдзіне 50-х гадоў. У пару ашаламляльнага сацыяльна-грамадскага прарыву. Было вернута натуральнае права на ўспрыняцце сапраўднай, існуючай рэальнасці, а не фантомнага сёння дзеля светазарнага заўтра. Праўда, неўзабаве нам паабяцалі, што мы будзем жыць пры камунізме. Аднак скептычнае наша пакаленне (рамантызм спакойна суседнічаў з самаіроніяй і скепсісам) успрыняла гэтую дэкларацыю як дэкларацыю — не больш. Затое мы займелі права на самавыяўленне. На сумніва. „Нас вырастил Сталин..." — догма нашага дзяцінства была абвержана, мы вярнуліся да натуральнай высновы, што гадавалі нас бацькі, больш маці (таты нашага пакалення ці не праз аднаго загінулі на вайне), бабкі, дзяды, цёткі. Дзіцячыя дамы... „Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек..." — гэтая прыемная ілюзія таксама знікла пасля першых афіцыйных звестак пра рэпрэсіі. Неаспрэчнае веданне пра тое, што ў нас усё — самае лепшае, руйнавалася самой рэчаіснасцю. Нашы паркалёвыя „футболкі" пэўна не маглі канкурыраваць нават з немудрагелістымі світэрамі якога шатландскага вырабу — з'явіліся першыя пасылкі „адтуль", з-за кардону. Пачаў аказвацца „імпарт", слова, што даўно, мабыць, не было ў абыходку. Лаліта Торэз спявала з экранаў пра цудоўны горад Паімбру таксама не ў лахманах, а Ліз Тэйлар то і ўвогуле ў „Рапсодыі" не так выконвала ролю і іграла на фартэпіяне (па ролі — яна піяністка), як дэманстравала сваю бездакорную постаць у недасягальна-шыкоўных строях. Надавалі сацыяльнай самаўпэўненасці хіба што італьянскія неарэалісты — ваша галеча на нашу галечу: хто, так бы мовіць, перасягне.

Галоўнае ж — пасля пасляваенных гаротных нашых пайкоў: і ў прамым, і ў пераносным сэнсе, было чым жывіцца. Стаўся ўжо нейкі харч, наедак, і — хлеб духоўны: пасля ўсіх „Кавалераў залатой зоркі", „Кубанскіх казакоў", усіх класных і пазакласных „вольналюбівых і патрыятычных матываў", пасля рэпрадуцыраваных „шэдэўраў" выяўленчага мастацтва накшталт „Ленін і Сталін у Горках", пасля па-сутнасці суцэльнай забароны жывога слова і жывой думкі — Хемінгуэй і Рэмарк, Олдзінгтон і Дос-Пасас, Салжаніцын і Залыгін, Брыль і Быкаў, займелі зноў літаратурныя і чалавечыя правы Уладзімір Дубоўка і Ян Скрыган, Анна Ахматава і Марына Цвятаева... Пачалі з'яўляцца і згадвацца творы Сент-Экзюперы, Сартра, Камю, Ануя, Гамсуна, Както... З'явіліся фільмы Де Сіка, Феліні, Уайлера, Фішэра, Стэнлі Крэмера, Марселя Карнэ, Лукіна Вісконці... З цэлым гуртам зорак: Жан Габэн, Ален Дэлон, Жэрар Філіп, Жан Марэ, Сімона Сіньярэ, Бэт

Дэвіс, Анук Эмэ, Марлен Дзітрых, Марына Уладзі, Віўен Лі, Одры Хэпбёрн, Грэгары Пэк, Максіміліян Шэл...

Мы глядзелі „Ляцяць журавы” Р.Калатозава і „Баладу пра салдата” Р.Чухрая, „Гамлета” Р.Козінцава і „Звычайны фашызм” М.Рома. З'явіліся новыя творы А.Твардоўскага. Усіх скалануў „Адзін дзень Івана Дзянісавіча” А.Салжаніцына. Пачалі друкаваць І.Буніна... Пісаў сваю новую прозу В.Катаеў: „Святы калодзеж”, „Трава забыцця”...

Пасля бясконцых рэпрадукцый „Раніцы ў сасновым лесе” (на ўзроўні клішэ на цукерачных абгортках) мы захлыналіся „Гісторыяй імпрэсіянізму”, кнігай Ліянела Вентуры „Ад Манэ да Латрэка”, публікацыямі пра Пабла Пікаса і Сальваторэ Далі... Хапалі, як гарачыя піражкі, польскую прэсу, пільнавалі „Иностранную литературу” і „Новый мир”.

У Саюзе візытавалі замежныя зоркі Іў Мантан і Жэрар Філіп... А Гелена Лаўбалава ў Менску, у атракцыйнай чырвонай сукенцы, фацэтна какетавала галаском з мілым акцэнтам: „Кръасную ръозочъку, кръасную ръозочъку я тебье дарью...” На рэнтгенаўскую плёнку запісвалі Булата Акуджаву і Уладзіміра Высоцкага... Зачытваліся Максімам Багдановічам, адкрываючы сабе наноў гэтага „хрэстаматыйнага” паэта. Даведваліся пра тое, што ў беларускай культуры былі Браніслаў Тарашкевіч, Мікола Шчакаціхін, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Ядвіга Ш., Зоська Верас... Антон Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік... Але тут дзверы зачыняліся. Нельга, не дазволена, не пажадана.

Канец 50-х — пачатак 60-х... Ілюзіі, надзеі, спадзявапні...

Было вернута права на лірыка-філасофскую прозу. На інтымную тэму. На камернае, так бы мовіць, светаўспрыманне. Хаця ўвесь час афіцыйная перавага аддавалася эпахальнаму, маштабнаму, падкрэслена сацыялагічнаму. І ўсё ж... З'явіліся новыя творы Янкі Брыля, Юрыя Нагібіна, Валянціна Катаева. Пачыналі пісаць Юры Казакоў, Георгі Сямёнаў, Алег Бітаў, Міхась Стральцоў, Уладзімір Караткевіч.

Падавалі — упэўнена і па-ранішняму свежа — галасы Рыгор Барадулін і Анатоль Вярцінскі, Яўген Еўтушэнка і Андрэй Вазнясенскі... Бэла Ахмадуліна, Вера Вярба. (Славутых сёння Іосіфа Бродскага, Уладзіміра Сакалова мы прачыталі пазней.)

Было вернута права на скепсіс. На іронію. На парадаксальнае мысленне. Абнаўлялася рэчаіснасць. рабілася іншай літаратура. Дарэчы, не толькі ў разварушаным ідэёвымі віхурамі Савецкім Саюзе. І там, на Захадзе, з'явілася так званае раз'юшанае пакаленне: Джон Уэйн, Джон Осбарн, Джон Портэр. Там быў абвешчаны антыраман: Наталі Сарот, Алан Роб-Грые, Мішэль Бютор. Зноў па ўсім свеце

пайшла мода на парадоксы Бернарда Шоў і Оскара Уайльда, усе сцэны былога сёння Soviet Union бралі ў палон „Варшаўская мелодыя” В.Зорына (пра нешчаслівае каханне полькі і рускага) і „Двое на арэлях” У.Гібсана (таксама — гісторыя кахання), праўда, гэта крыху пазней.

А ў сярэдзіне 50-х юнака са Слаўгарадчыны, з вёскі Сычын, у горадзе Менску сустрэлі сінкопы яшчэ мала дазволенага ў нас джаза, хаця рытмы класічнага дыксілэнда паўсюдна ўжо рваў на часткі пераможны рок-н-рол. На пляцоўцы ж паміж інтэрнатамі універсітэта на Бабруйскай і хім- і фізічным карпусамі акуратна вальсавалі „шэрачка з машэрачкай” учарашнія дзесяцікласніцы, смела пратоптвалі падэшвы вальс-бастонамі спрактыкаваныя танцоры, старанна-зухавата пераміналіся з нагі на нагу урбанізаваныя „элементы”, рытмічна млелі ў танга парачкі. „Домино, домино, будь веселым, не надо печали”, — гнаў распеўна радкі ўзмацняльнік. „Ты ходишь в галстуке, ты куришь сигареты”, — вясёла ці то папракаў, ці то канстатаваў нехта борздзенькім рытмам; пераможна-няголасна грымела: „Мишка, Мишка, где твоя улыбка...” А на юрфаку, дзе месціўся з канца 50-х і філфак (журналісты былі ў яго складзе), адбывалася нешта і зусім па тым часе забароненае: мясцовы аркестрык жвава „выдаваў” рэпертуар Элвіса Прэслі і Дзіна Рыда. І энергічна куляліся, скакалі юрысты, філалагіні і журналісты — ажно да вялікага гневу мясцовых камсамольскіх уладаў. Якія, дарэчы, у суполцы з рознымі актывістамі вялі цяжкія „ідэалагічныя” баі: якую шырыню павінны мець штаны ў савецкага маладзёна і як гэная шырыня адбіваецца на ягоным інтэлектуальным узроўні і патрыятычных пачуццях.

А насупраць філалагічна-юрыдычнага корпуса была наша сапраўдная Alma mater[1] — Ленінка[2]. Дзе мы і набывалі: па праграмах, а больш самапасам — адукацыю. Чыталі класікаў і някласікаў. Здаецца, Міхась Стральцоў Ленінку не вельмі наведваў, любіў спасцігаць мудрасць у больш камфортных хатніх умовах. Як і не быў зацятым танцорам. Але... і ён, і яго героі жылі ў тым часе. Дзе былі тыя ж захапленні, тыя ж гукі, тыя ж кнігі. (Наўмысна не цытую выказванняў Стрельцова з даведніка „Пра час і пра сябе” — яны ўсім вядомыя). А магчыма, больш нояк згадваецца ягоны „Свет Іванавіч, былы донжуан”, яго герой-равеснік: „Недзе на трэцім курсе я адпусціў доўгія валасы — тады гэта было можна. І падняў каўнер курткі — гэта таксама, здаецца, лічылася, што няблага. Тады катастрафічна, ува-

[1] Літаратурна кормячая маці (лац.): — сапраўдная студэнцкая назва універсітэта, установы, што дае духоўны пажытак.
[2] Сённяшняя Нацыянальная бібліятэка.

чавідкі вузілі ў хлопцаў штаны, затое так прасторна было плячам пад шырачэзнымі пінжакамі. Праўда, гэта ўжо мяне не датычыла. Доўгія валасы — няблага. І падняць каўнер — таксама. Я чытаў тады французкія раманы. Эміль Бландэ, Люсьен Рубампрэ... Галантны век, дасціпнасць. І скепсіс".

У кожнага з нас быў свой час спасціжэння „Страчаных ілюзій". Я праглынула 13 тамоў Бальзака, якія толькі што выйшлі з друку, карычневыя асобнічкі, адзін да аднаго, недзе ў 9 класе, — прыблізна тады ж Стэндаля, Уайльда, Шоў, герой Міхася Стрельцова — на трэцім курсе. Некалі прачытаў іх і сам Стральцоў. Наша пакаленне адкарасквалася аб бабаеўскіх і кочатавых, мы мелі інтарэс да замежных раманаў: Рамэна Ралана, Томаса Мана, Ражэ Мартэна дзю Гара, Джона Голсуорсі... І тыя самыя раманы Філдзінга, Дзікенса, дзе „шматпакутныя героі пад эпілог сыходзіліся на ласкавы агонь камінка. За апушчанымі шторамі выў халодны восеньскі вецер. Камінак быў узнагародай. Цаной былой неўладкаванасці і нягод". Ва ўніверсітэцкі і пазнейшы час пра ўсё гэта мы, як і герой Міхася Стрельцова, згадвалі з іроніяй. Самаіронія рабілася зброяй самаабароны, пафас быў „прыладай" састарэлай і штучнай.

У польскай перыёдыцы мы чыталі Пруста і Кафку. Тата Хэм, Олдзінгтон, Эрых-Марыя Рэмарк, Фіцджэральд Скот, — іх героі нішчылі ўсе ўяўленні пра свет і пра нас. Адчынялі старонку кнігі і чыталі: „А потым што мы рабілі? — спытаў ён". Ніякіх табе тлумачэнняў, апісанняў, прэамбул. Мы адчувалі на сабе ўздзеянне таго самага таямнічага падтэксту, разуменне якога пазней зацягалі, заштампавалі, а ў нас, на Беларусі, так і не ўспрынялі, беручы пад увагу як адзіна магчымую, так бы мовіць, нацыянальную школу — апісальна-крытычны рэалізм, падрабязны, непаспешлівы, грунтоўны. Так, і толькі, усё астатняе ад нячыстага. Праўда, Міхасю Стральцову непадобнасць яго неяк даравалі. Ён пачынаў, не „расцякаючыся думкаю па дрэву": „У тэлефоннай будцы былі двое, і я ненавідзеў іх". Вы не знойдзеце такога пачатку ні ў кога з ягоных літаратурных равеснікаў. Хаця да ўсіх прыйшла літаратура, якую даўно ці наогул не друкавалі ў Саюзе. Хаця ўсе былі „дзецьмі XX з'езду", „дзецьмі вайны", амаль усе — „з хат".

Але вось гэта было канкрэтнай і агульнай рэаліяй для ўсіх: партрэт „бацькі ўсіх народаў" пыліўся ў інтэрнацкай шафе-кладоўцы. Рэаліяй, што давала, аднак, магчымасць думаць па-рознаму, успрымаць па-рознаму. Было такое ўяўленне пад час чытання Стральцова — у нечым гэта аб'ектыўная, а ў нечым суб'ектыўная рэальнасць. Таму што час, палітычныя абставіны Стральцоў пазначаў толькі штрыш-

ком. Яны прысутнічалі, і досыць відавочна — скажам, адзін лапаць, адзін чунь з яго аднайменнай аповесці: рэаліі і ваеннага, пасляваеннага часу. Але яны — толькі штуршок для аповеду. Ён экзістэнцыяльна ўспрымаў свет і падзеі — у яго ў цэнтры ўвагі асоба, чалавек. Астатняе фон: гістарычны, сацыяльны, падзейны. Абставіны рэчаіснасці. Якія ён умеў пазначыць кароценька і трапна. Не любіў сумнасумленна расцягваць на безліч старонак. „Я — малафарматнік", — гаварыў ён. Крыху пацвельваючыся.

Хлопец з вёскі Сычын меў прыроджаны тонкі, дыхтоўны густ. Адразу займеў арыентацыю на сучасны ўзровень мыслення і пісьма. Хаця любіў і ведаў і „гудлівыя строфы" Эсхіла і Піндара, і „літургійна суладнае і прыгожае" сярэднявечча, і высілкі „нястрымнага розуму" новага часу. І, дарэчы, нейкую асаблівую зваблівасць мелі для яго паэты пушкінскай пары, і сам „абраннік сонечнага Феба", і „усадебная культура" XIX стагодзя. З XX стагоддзем адносіны ў яго былі ўважлівасклаланыя. Ён падоўгу трымаў кніжкі, што браў у мяне: Ж.П.Сартра („Экзістэнцыялізм — гэта гуманізм", „Словы", „П'есы"), Тэяра дэ Шардэна („Феномен чалавека"), Бертрана Расела („Гісторыя заходняй філасофіі"), Ражэ Гарадзі („Рэалізм без межаў"), Самарыя Вялікоўскага („Канты „няшчаснай свядомасці").

Гэта, праўда, было ўжо ў 70-я, 80-я гады. А на тую маладую пару яго не абмінулі, здаецца, усеагульныя „ідалы". Згадаем хаця б у „Дні ў шэсцьдзесят сутак" — „Сцеражыцеся рыбы-лоцмана!". Назва раздзела „паўночнага дзённіка", увесь гэты раздзельчык, „адступленне літаратурнае" — пра Хемінгуэя. Пра рыбаў-лоцманаў, што цікавалі і за Хемінгуэем, і за Чэхавым (Стральцоў прыгадвае тут яго). Мы, мабыць, можам дадаць — за самім Стрельцовым. І пра тое, што „літаратура была для яго, Хемінгуэя, адным з даступных чалавеку сродкаў сцвярджаць сваю годнасць", і пра тое, як яго „брала ў палон даведзеная да самай звычайнай рэальнасці ілюзія перададзенага словам жыцця". І..., і... Стральцоў меў жыццёвыя і літаратурныя прыхільнасці свайго пакалення: той яго часткі, для якой ён пісаў. Ці чытала яна яго? Пытанне не простае. І пра гэта крыху пазней. А тады, мабыць, і Стрельцова, як усіх нас, вабіла нязвычнасць, нязмушанасць, нетуральнасць герояў Хемінгуэя, інтрыгаваў стыль іх жыцця. Жалезная заслона толькі-толькі, скрогатна і цяжка, адчынялася. А героі Хемінгуэя сёння — у Парыжы, заўтра на боі быкоў у Памплоне, песлязаўтра — на сафары ў Афрыцы. І на вайну глядзелі інакш — не так просталінейна, як большасць нашых суайчыннікаў. І стаўленне да высноў жыцця ў іх было іншае. Іх светаўспрыманне было для нас навіной, адкрыццём.

Для пакаленняў старэйшых гэта сталася, так бы мовіць, магчыма, чарговай модай, паўторам трыццатых гадоў (шмат што друкавалася ў „Интернациональной литературе” — Хемінгуэй, Дос-Пасас). Для нас — не тое каб сталася найноўшым катэхізісам, аднак вельмі ж успрымальным ракурсам рэчаіснасці. Яны так выйгравалі ў параўнанні з пастулатамі сталінскага афіцыёзу. Мы ўзбройваліся скепсісам Генрыха Бёля і Эрыха Марыі Рэмарка: „... бліскуча замілаванае нішто, уталентаванае ў сваёй нікчэмнасці”; „Хто ні на што не спадзяецца, той не будзе расчараваны”; „Толькі не прымаць нічога блізка де сэрца. Тое, што прымеш, маеш намер утрымаць, а ўтрымаць нельга нічога”. Мы адпрэчвалі плакатна-пустазвоннае ўчора і сёння. Мы прагнулі адкаснуцца ад стэрэатыпаў рэжыму.

Вызваляліся ад пафасу бацькоў і дзядоў, ад ілжэідэалогіі, ад ілжэідэалаў: пагарджалі наменклатурнымі чыноўнікамі, іранічна-скептычна ставіліся да афіцыёза. Мы вышэй за ўсё лічылі звычайныя чалавечыя адносіны, шанавалі перавагу інтэлекту і таленту, але не перавагу пасады. Не мелі пашаны да маёмасці. Пра грошы гаварыць не было завядзёнкі. Спытаць — колькі зарабляеш? — было пачварна ганебным тонам.

Адкуль жа ўзяліся чыноўнікі? Што вы рабілі пад час застою — як пазначылі дваццацігоддзе ад сярэдзіны 60-х да сярэдзіны 80-х — такія пытанні давялося пачуць нам у другой палове 80-х.

Дарэчы сказаць, высокія чыны і ўвогуле мала хто займаў з нашага пакалення. Калі займалі — досыць позна. Напачатку лічылася — занадта маладыя, „сталінская гвардыя” моцна трымала пазіцыі, сядзелі ва ўсіх чыноўніцкіх крэслах гэтак жа цвёрда, як у крамлёўскіх. „Не магу без працы” — гэта было праўдай, гэта было і трагедыяй. Было трагедыяй таго пакалення — і наступных. Ці не ў першую чаргу — нашага. Бо калі прыйшоў да ўлады Гарбачоў, было пазначана спачатку неаспрэчна: старыя — у архіў. Хаця крыху пазней наша пакаленне аказала сябе вельмі актыўным, вырашаюча актыўным — і пад час так званай перабудовы, і пад час пазнейшых падзей. Але гэта ўсё рэплікі „ўбок”, як пазначаюць драматургі. Большасць — не імкнулася да пасад. „Не прымяраў мундзіраў”, — гэта пра сябе мог сказаць не толькі Рыгор Барадулін (яго словы), а і Уладзімір Караткевіч, і Васіль Сёмуха, і Арсень Ліс, і, безумоўна, Міхась Стральцоў. „Для пісьменніка няма іншай кар'еры, акрамя творчай”, — словы таго ж Хемінгуэя. І яно заўсёды было так, ва ўсе часы. Але на нашу пару — пачынаючы ад 30-Х гадоў — адукаваныя мецэнаты зніклі, за кіраўнічыя сталы траплялі вельмі рэдка людзі дасведчаныя і талерантныя, а звычайна з трафарэтным і ваяўніча выпрастаным уяўленнем. Хаця — літаратур-

наму пакаленню Стральцова пашанцавала: у „Полымі” на пачатку іх літаратурных спроб быў Максім Танк, у „Маладосці” — Пімен Панчанка. Прозу Стральцова бласлаўляў Янка Брыль. Аднак — у выдавецтве, што выпускала мастацкую літаратуру, тады рабілі дырэктарамі К. Майхровіч і З.Матузаў. Гэта пры іх грамілі і рассыпалі набор твораў Уладзіміра Караткевіча. Гэта пры іх рассылаліся загады і вердыкты — што можна, што трэба і што не трэба пісаць.

Міхась Стральцоў выбраў сабе шлях, які ў 60-я, 70-я гады ніхто не забараняў і ніхто асабліва не заахвочваў. Не лаялі, а так, пашкрэбвалі словам: немаштабна, камерна, неактуальна. Лірычна-філасофская проза. Крытычная проза. Пазней — паэзія. Тут было выратаванне. Тут была трагедыя.

Наша пакаленне ў відавочныя маразы пасля „адлігі” „залегла” ў рамантычна-аналітычны дрэйф. „А я еду, а я еду за туманом, за туманом, за туманом и за запахом тайги”, — гэтую немудрагелістую мудрасць — хай даруюць мне таўталогію — падхапілі невыпадкова. Бегчы — было яшчэ магчыма. І не толькі за мяжу (гэта было досыць складана, між іншым). Хаця, зразумела, выяўлялася, што ў тайзе або каля праліва Лаперуза тое ж самае, што ў роднай Беларусі ці дзе-небудзь у так званай сярэдняй паласе нашай былой неабсяжнай. „Вясёлую планету” Калыму, здаецца, так актыўна ўжо не асвойвалі, аднак трапіць у псіхушку ці проста ў спісы неблаганадзейных было вельмі проста. Узварухнулася, абудзілася было надзея на ўзнаўленне, калі не Адраджэнне, беларускасці — і пайшла пад лёд пасля „адлігі”. Адлучэнне ад беларускага ішло неўпрыкметку нібыта, але запланавана, няўхільна. Паводле прадпісанняў і тэорый пра адміранне нацый. З'явіліся „ліберальныя” паслабленні: хочаш — вучы: не хочаш — не вучы. У навучальных установах знікала мова. На ўсіх узроўнях. Забываліся на мову тыя, хто яе ведаў: нашы равеснікі. Які ж інжынер, якая лекарка мелі нармальную магчымасць гаварыць па-беларуску? Пісалі пра нашу мову Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, даводзілі выдатныя ўзоры літаратурнага існавання яе Вячэслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Анатоль Кудравец. Пакутна раздумваў пра „загадку Шаміссо” Міхась Стральцоў у „Загадцы Багдановіча”. Тут было выратаванне. Тут была трагедыя. У канцы 80-х гэтае пакаленне папракалі. Шмат. Жылі ў застоі. У турму не ішлі. Штандар нязгоды не выкідвалі. На мітынгі не выходзілі (далёка не зайшлі б, між іншым). Адным словам, мелі нахабсгва — існавалі. Паслухмяна запісвалі ў анкеты: „Не быў”, „Не ўдзельнічаў”, „Не маю”... Так.

І захоўвалі свабодны дух. Хаця „ламаліся” нашы равеснікі, тыя, хто нарадзіўся ў канцы 30-х — пачатку 40-х, часцей, як больш ста-

рэйшыя ці маладзейшыя. Адны, старэйшыя, набылі жыццёвага вопыту і маўклівага скепсісу яшчэ пры „правадыру ўсіх народаў". Маладзейшыя — набывалі імунітэт самазахавання ў брэжнеўскія часы. Мы, загартаваныя ў дзяцінстве лозунгам і накшталт „За справу Леніна — Сталіна будзьце гатовы!" — „Заўжды гатовы!", у гады сталення і ўзроставага максімалізму паверылі „назаўсёды": культу асобы не будзе, таталітарызму не будзе, хлусні не будзе... Рамантызм, высокія ідэалы, іронія, скепсіс, вера і нявер'е — усё перакруцілася ў няпросты скрутак. А тут пачалося — інверсіі, эўфемізмы: „быў рэпрэсіраваны", праз пару гадоў — „трагічна загінуў", яшчэ праз нейкі час — дабрачынна „памёр". Пра ўсіх ахвяр 30-х гадоў. Прывучаныя да аскетызму як да нормы жыцця, існавання, мы бачылі, што гэтыя прынцыпы ў пару „развітога сацыялізма" не маюць цаны, увогуле пачаліся масавыя „абмены" — купля-продаж на масавым, прымітыўным, і нейкім бессаромна-танным узроўні.

Праўда, можна было цешыць сябе „маленькімі радасцямі": чытаць кнігі (яны былі досыць таннымі, і з'яўлялася многа цікавага), хадзіць у тэатр (у 60-я гады быў сапраўдны тэатральны бум), слухаць музыку (сур'ёзныя, класічныя творы былі не толькі ў пашане, былі ў модзе — неблагая мода), хадзіць у кіно (а глядзець было што — фільмы Бергмана, Антаніёні, Арсенія Таркоўскага). Дарэчы, напрыканцы 50-х, у 60-70-я гады мы слухалі Святаслава Рыхтэра, Эміля Гілельса, Давіда і Ігара Ойстрахаў, Віктара Траццякова — білеты былі недарагія, а пазнейшага абавязковага блату было не трэба: білеты набываліся проста ў касах. Мы слухалі Баха, Моцарта, Шапэна, Шумана, Паганіні, Вівальдзі... А Брамса і Ліста выконваў выдатна наш менскі філарманічны аркестр. Дырыжыраваў — як дырыжыраваў! — Віктар Дуброўскі.

Можна было прыдбаць новыя туфлі, з'есці смачных цукерак, паспрабаваць паехаць за мяжу, дыхануць „пылам стагоддзяў" (гэта было досыць складана, але магчыма), Пайсці ў кавярню, выпіць кубачак кавы, келіх віна. Адчыняліся сімпатычныя кавярні, якіх раней не было (на тую пару, калі я пішу — у 1991-1992 годдзе — кавярні робяцца прытулкам для... не, не для эліты, для абраннікаў, так бы мовіць, Мідаса — праўда, модны сучасны Мідас мае палёгку: можа ператвараць і наадварот: золата ў рэчы і рэчывы).

Шмат было дробязных і менш дробязных і вызначальных — „прывілеяў", што былі даступныя кожнаму. На побытавым узроўні. На свядомасным.

Можна было колькі хочаш раздумваць пра лёс свой. Лёс народа. Шляхі чалавецтва. Тут было выратаванне. Тут была трагедыя.

Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, вельмі модна выдаваць сябе за ахвяру рэжыму, пакутніка. Нават тым, хто няблага ўладкоўваўся ў розныя часы. Не быў ані бедным, ані ніцым.

Міхась Стральцоў не выдаваў сябе за пакутніка. Не адчуваў сябе ім. Не быў ніколі прыстасаванцам. Жыў у рэчаіснасці. І ў свеце, створаным ім самім. У той рэальнасці, што ён назваў — „Мой свеце ясны". Беларускае слова для яго было натуральным, сваім, нязмушаным. Ён не змагаўся за яго. Ён жыў ім. Душу свайго народа адчуваў глыбінна, сутнасна. Першаіснасна. Выславіў гэта. Непасрэдна — больш у „Загадцы Багдановіча", апасродкавана — ва ўсіх сваіх творах. Ці адчуваў трагедыю беларускага слова? Безумоўна. Як змагаўся за яго? Адпаведна з прыродай свайго таленту і чалавечай натуры.

Пра творчасць, пра творчую асобу думаў заўсёды. Не толькі пра літаратараў.

## Загадка „назскіх" натур

Вось і ў адным з тых лістоў, пазначыўшы з сумнаватай іроніяй абставіны свайго быцця: „...дзяліцца асабліва няма чым: тое, што акаляе ці стаецца ўтокам быцця, — аднастайнае, як расклад, а ў нутро сваё, сказаць праўду, заглядваць не хочацца: няхай там мірна спяць і анёлы, калі яшчэ кволяцца трохі, і другія, інфернальныя, так сказаць, істоціны і стварэнні", ён працягваў адказ на мой ліст:

„Толькі вось твая згадка пра Шапэна ўзварушыла трохі мяне, і успомніліся свае хвіліны з панам Фрэдэрыкам — кніжка, здаецца, Яструна [так. — А.С.], пра яго, між іншым, неблагая — ёсць і яшчэ нейкая адна, не яго, „Воблік любві" — (Брашкевіч? ці як?) [так. — А.С.] праглядаў некалі — не спадабалася. Пра Шапэна цікавае ёсць у артыкулах Метнера, таго, які сябраваў з Рахманінавым, быў сам неблагім кампазітарам, але [нечытальна] быў, па-мойму, цікавым тэарэтыкам гармоніі.

Праз Шапэна добра адчуваеш назскую натуру — не ў той іпастасі, у якой, скажам, гэта вонкава (часта) падаецца ў Веняўскага ці ў куды як слабога, залюблёнага абывагалем Агінскага. У Шапэна амаль намёку няма на рамантычныя транты — каласальная логіка імправізацыі пры ўсіх нерастрачаных „расё і пылку" (водару) успамнення пра пачуццё, — і геніяльная наструненасць, аркестроўка (на фартэпіяна) [мабыць, ён меў на ўвазе — аранжыроўка.] сугуба назскага ладу рэфлексіі (гэта ў іх ёсць), — і гэта ўжо як бы іхняя нейкая загадка. Адна са славянскіх загадак так званых, а назская — асаблівая".

Увогуле Міхась Стральцоў быў з тых, для каго існасць рэчаў і падзей і свет літаратурны, мастацкі былі заўсёды відавочнай рэальнасцю, неад'емнай. Не ў рэчышчы дурной літаратуршчыны, а ў тым неад'емным сэнсе, які дае існаванню чалавека высокая культура. Калі свет ужо не ўяўляецца без Дантэ і Скарыны, без Рафаэля і Моцарта, без Блока і Багдановіча...

Не, жыццё не было для яго толькі літаратурным матэрыялам. Першая і другая рэальнасць суіснавалі ў яго ўсведамленні. Ён вельмі тонка адчуваў код узаемаадносін паміж існасцю — мастацтвам, паміж „перадмастацтвам" і ўласна творчасцю. Паміж шэрай звычаёвасцю і таямніцай. Таямніцай чалавека, асобы, творцы. Жанчыны. Раздумваў над тым. Меціў задумамі. Згадваў пра няспраўджанае. Можа, у эпісталярным жанры гэта ўсё не мела той эстэтычнай крышталёвай завершанасці, як, скажам, у „Смаленні вепрука", але мела сваю стыхію дакладнасці, сваю дысцыпліну родзуму і пачуццяў. Прырода яго чалавечага таленту змяшчала ў сабе непадзельнасць роздуму і ацэнак, плыні жыцця і ўсведамленне яго. Як і таленту пісьменніцкага:

„Во — хацеў я аднойчы напісаць апавяданне пра танцпляцоўку (даўно), і задума, здавалася, цікавая была: нябожчыку Рылько [Алесь (Аляксей Іванавіч) Рылько (1923-1967) — празаік, публіцыст, драматург] нападпітку неяк расказваў, а ён уталопіў вочы ў мяне, доўга глядзеў, неяк тужліва-хітравата, як гэта ён умеў, а потым кажа нешта накшталт гэткага: а ты даўно, хлопча, каровы пасвіў, касіў ці дровы пілаваў? І пра Дастаеўскага нешта сказаў, і пра ягоную „хромоножку" са Стаўрогіным — маўляў, вывіх і выбрык. Разумны быў чалавек, і мы, гадамі розныя, сябравалі, можа, па-сапраўднаму, а больш ён нібы бацька мне быў. А пра Даст[аеўскага] ён сказаў нездарма: у мяне ў той задуме нейкім саматужным Фрэйдам патыхала, ён гэта неяк адразу зразумеў. А задума ці не забылася, памятаю толькі і цяпер чамусьці ўпэўнены, што, далібог, неблагая была. Калі-небудзь, можа, успомню: нечага з другога вопыту дадам і, дадаўшы, можа, напішу. Бо начытаешся, як У. з В. „живописуют" жанчын і каля, дык не па сабе неяк робіцца: і тэмы шкада, і праўды шкада, той праўды, пра якую стары Талстой (у адносінах да жаноча-мужч[ынскай] прабл[емы]) выказаўся неяк так: я пра тое голас падам, калі адной нагой у труне буду і выкажуся, шасну ў труну і векам накроюся. Так, здаецца, Горкі перадае — чалавек, які выдумаў сябе і выдумляў другіх, страшная ў яго гэтая ўласная выдуманасць, упэўненасць дзяка ці царкоўнага начотчыка. Можа, адзіны з рускіх літаратараў вёску не разумеў і не любіў. Яно дык любіць, канечне, мала за што можна, але... ягоная яўная, а

часцей схаваная, варожасць да інтэлігенцыі даказвае толькі тое, што ён самавук і тое, што інтэлігентам трэба нарадзіцца. Прапаведваць веды, з аднаго боку, услаўляць волю і нейкага чалавека, паднаўляючы зноў жа саматужна Ніцшэ, і забыць пра Акакія Акакіевіча, як гэта было ў Горкага, — гэта і не па-руску неяк, і не па-асветніцку нават. Пану грамата цяжка даецца, а калі даецца, дык прымаўкай робіцца нездарма.

А наогул, самавукі небяспечныя людзі — гэта можна убачыць, напрыклад, і на нашым S. Прыгледзьцеся.

Надвор'е у нас даўно ўжо сапсавалася — сырасць, макрэча — не ведаю, як у вас. Радыё я не слухаю, ды і ўключаюць яго прапары цэнтралізавана, так сказаць, калі захочуць. Футбол я не гляджу. Вось пішу табе (гэта раніцай, палова восьмай, да паверкі) — дождж шастае, а ў мяне круцяцца рубцоўскія радкі:

*Седьмые сутки дождь не умолкает —*
*И некому его остановить!*
*Все чаще мысль угрюмая мелькает,*
*Что может всю деревню затопить.*

[Цытавана дакладна.]

Цытую па памяці, таму і сумняваюся. Неяк так. Там яшчэ, здаецца, ёсць радкі: „на кладбище, как будто крокодилы, ворочаются, спятивши, гробы”[1].

Бр! Мальчишка. Часто „смешной и милый”, кажется, у него эта страсть пугать и легкомысленничать. Вроде:

*Прозрачно небо голубое,*
*Прозрачен воздух голубой.*
*Какое место вам? — Любое!*
*Любое время, край любой.*[2]

Ах ты, божа мой!

Як яму ў тым абраным ім ці некім другім краі цяпер, адзін бог ведае. Напрадракаўся: „Я умру в крещенские морозы”. Так, здаецца, і было. Някрасаўскі пейзаж нейкі над намі, да Кальцова не дараслі ці

---

[1] У Рубцова:

*На кладбище затоплены могилы,*
*Видны еще оградные столбы,*
*Ворочаются, словно крокодилы,*
*Меж зарослей затопленных гробы...*

(Н.Рубцов. Подорожники. М” 1976. С.43)

[2] У Рубцова:

*Прекрасно небо голубое!*
*Прекрасен поезд голубой! —*
*Какое место Вам? — любое.*
*Любое место, край любой.*

(Н.Рубцов. Подорожники. С. 138).

перараслі, — паспяшаліся. Але нешта я сумнае пад дождж пачаў — не буду. Вось табе зноў славянская рыса” (5.VI.82).

Засталося ненапісаным і тое апавяданне, і іншыя апавяданні, эсэ. Стральцоў не любіў ні саматужнай нудоты прымусу і самапрымусу, не апускаўся да хуткапісу важных праблем. Увогуле ж — задумваючыся над безданню і вышынямі чалавечых пачуццяў і розуму, выяў жыцця, існавання, заўсёды ўсё ж заставаўся ў, так бы мовіць, арэале Быцця, не пацвельваючыся з Небыццём, за тым, што па-за рысай нашага існавання.

Загадка ж творчасці і творцы заўсёды, мабыць, займала яго. Заўсёды меціла яго думку. Часам і перашкаджаючы. Не даючы спраўдзіцца намерам. Ці, можа, нават замінаючы першаадчуванню, ці што, жыцця. І — прыходзілі вось такія згрызотныя думкі. Думкі ягоныя — І наконт свайго занятку, і наконт маласпрыяльнай нашай глебы для сапраўднага таленту. А дзе, дарэчы, для таленту — спрыяльная глеба?

„А *толькі* літаратурай займаюцца ў нас ці адпетыя дурні, накшталт мяне (ды каб жа яшчэ займацца было можна, седзячы за айчынным дротам) (ЛПП — лякарска-працоўны прафілакторый), ці чыноўнікі, якім здаецца, што без іх літаратура загінула б, і тут ужо яны аддаюцца ёй цалкам, няўхільна шнуруючы яе пад ранжыр, — хоць тут ужо можа не літаратура, а нейкая кітайская плантацыя. А С. і D. стаяць над гэтай плантацыяй і ў калатушкі б'юць — адпужваюць вераб'ёў. Ну іх!”

„Кінуць бы ўсё гэта, ды вось бяда — позна, нічога другога не ўмею, а вучыцца другой навуцы калі? Ды і ранейшае такое-сякое ўмельства, напраўдзе, растрачана ўжо...” (На канверце дата 29.5.82.)

Думка гэтая, пра тое, што ўжо ўсё растрачана і Стральцоў „адпісаўся”, была вельмі ж папулярнай у так званым Аппаратурным атачэнні. Я нездарма згадваю яе.

Міхась Стральцоў часам, не толькі са мною, уголас даводзіў думкі свае, асабліва ў якую роспачную хвіліну. У лістах ён пісаў нават такое: „Усе мае (амаль усе — бо не паверыш) кволыя літздольнасці і скупыя вольныя хвіліны забіраеш ты...” (12.VI.82). (Маюцца на ўвазе лісты.) Я тады не паверыла і зараз не даю веры. Былі шматлікія абставіны, былі своеасаблівасці характару, была, здаецца, калі не лянота, дык хісткая самадысцыпліна. Было і такое: „А каму гэта трэба?” Сапраўды, талент тонкі, ламлівы, элітарны. Не з тых, якім захапляюцца хатнія гаспадыні і дзяўчаткі з універмага. Ці хлопцы з ПТВ. Я не збіраюся прынізіць ні тых дзяўчатак, ні тых хлопцаў. Там таксама, між іншым, ёсць выключэнні. Але ж каб слухаць Баха, трэба мець хаця б прыродную схільнасць да гэтага. Сякую-такую падрыхтоўку,

накіраванасць Менталітэту — пачуццяў. Ну, і ўсё ж нейкія ўмовы і перадумовы. І Гегеля не ўхопіш, прызвычаіўшыся чытаць выключна дэтэктывы. І Поля Валеры наўрад ці агораеш, калі вока і розум шукаюць адно: хто каго любіў, хто каго забіў. Патрэбны чытач, што ўмее размежаваць побытавую і пазазвычаёвую свядомасць.

Чытаць Міхася Стральцова — таксама трэба мець і пэўныя схільнасці, і пэўныя ўмовы. Гэта пісьменнік для людзей падрыхтаваных. Разумова і духоўна. Пісьменнік вытанчанай, празрыстай умельствам сваім мовы. Беларускай мовы. На рускай мове, хай не пакрыўдзяцца ягоныя перакладчыкі, таго Стральцова, якога ведалі мы, ужо не было. І Міхась Стральцоў фатальна рабіўся пісьменнікам для вельмі вузкага кола людзей. Хто ведае? Хто чытае? Была, мне здаецца, і яшчэ „стрэмка". Ці, хутчэй, стрыжнявая „зацыкленасць". Натура, якая міласцю сваёй вялікай, Боскай, дорыць талент, „выдае" да яго і бясконцага сумніву, і нездаволенасці сабою і іншымі, і прагу абсалюту. Абсалюту ва ўсім. У стасунках высокага розуму і пачуццяў. У звычайных побытавых з'явах. У адносінах з людзьмі — увогуле. З сябрамі. З жанчынамі. Абраннікі Боскія ствараюць вобразы. Прагнуць гармоніі. А рэчаіснасць падсоўвае мітусню і сурагаты. Замест сапраўдных пачуццяў. Высокіх ідэяў. Бездакорных адносін.

І поўзае чыноўнае вока па выпакутаваных радах, дзе словы — выяўленыя ў фразах, у літарах: і міласць, і дараванне, і дабро, і зло, і пакуты, і шчаслівы крок лёсу. Расчыненая Кніга Быцця. І чалавечае „я" сціскаецца ад гэтых позіркаў, ад чужой знешняй сілы, бунтуе супраць ахвяравання, супраць парушэння існасных сувязей. І супраць мітуслівага нібыта клопату тых, хто побач, хто перашкаджае існаванню на ўзроўні вышэйшых сутнасцяў. І Чалавек, Творца бяжыць ад усяго, і недзе знікаюць, раструшчваюцца думкі, праекты, ідэі.

Няпростыя адносіны звычайна складваюцца ў творцаў з уладамі (не будзем лічыць „лукавых царедворцев" стваральнікамі сапраўднага). Невыпадкова, мабыць, Міхась Стральцоў меў тую сталую схільнасць да рускай „усадебной культуры". Яму патрэбны былі незалежная адстароненасць, магчымасць разmysліць, быць вольным. Мастакі ці не заўважаюць уладароў, ці бягуць ад іх — калі гэта магчыма. Ці ўваходзяць у канфлікт. Ці адкрыта змагаюцца. Але не будзем перабольшваць. Безліч — тых, хто пакутаваў, хто загінуў, хто пісаў у пекле ці пасля пекла, хто меў творчасць як зямны крыж і як зямное збавенне, хто зведаў здраду і ўціск. Але „спісваць" усё на сацыяльныя варункі — ці то ў часы Мікалая I, ці то пад час сталыпінскіх рэформаў, ці то ў часы сталінізму, ці ў часы так званага застою — таксама вульгарызатарства і спрошчанасць. Прыгонны лад, царскія

сатрапы, паўстанні, перавароты і рэвалюцыі, сталінскі ГУЛАГ, брэжнеўскія „ўшчыльніцелі духу” — было. Усё гэта некага змусіла да подзвігаў пяра, некаму прысудам зрабіла духоўную смерць, некаму — зрабіла прымусам немату. Але — былі і заўсёды застануцца — пры ўсіх уладах: і ў самым росквіце эканамічным і палітычным — і чалавечая зайздрасць (досыць заўсёды акуратна і абмежавана здольных Сальеры, і так мала таленавітых, ад Бога — Моцартаў), і пэўныя абставіны лёсу, і цяжкае ўжыванне ў свет чалавека, для якога норма — адыход ад нормы, а ўзлёты мяжуюць з наканаванасцю бездані, урэшце — чалавек — гэта не толькі прыродна-грамадскае існаванне, гэта існаванне самога з сабой, рознага, добрага і злога, высокага і нікчэмнага, прыгожага і страхотлівага, У сваёй неад'емнай залежнасці ад людзей і ў сваёй суцэльнай экзістэнцыі, калі ў самыя роспачныя, цяжкія хвіліны чалавек застаецца сам-насам, і ніхто не можа яму дапамагчы: ні спрыяльныя сацыяльныя абставіны, ні каханне жанчыны, ні прыязнасць сяброў, ні прывілеі службовыя, ні дарункі фартуны. Лёсу. Ні усмешка дзіцяці. Ён сам-насам у сваёй Ладдзі Роспачы (паводле Караткевіча), сам сабе прысуд, сам сабе суддзя, сам сабе выратавальнік. Праз што? Праз вялікае ўзрушэнне. Праз якую драбязу. Праз нейкі патаемны імпульс. Праз... Тут у кожнага сваё. Мне так, прынамсі, здаецца. Але ад гэтага залежыць — здзейсніліся задумы ці не. Спраўдзілася дараванае Богам ці не.

Загадкі. Загадкі... Загадка Багдановіча. Загадка Купалы. Загадка Стральцова.

Ад людзей розных даводзілася чуць — чаму Міхась Стральцоў напісаў мала? Чаму не пісаў апошнім часам?

Загадку гэтую Міхась Стральцоў панёс з сабой. Але ён збіраўся пісаць. Згадваў. Прыкідваў. Не згубіў ключы ад Сезама. Яго лісты — сведчанне таго. Яго эпісталярная проза. Хаця сумніву, самазнішчэння ў іх — хапае. І роздуму — пра творчасць, пра іншых, пра сябе...

...Неяк Міхась даслаў мне ў Каралішчавічы, у стары Дом творчасці такі ліст. Датаваны 12.08.82.

„Гм, гм!.. Каралішчавічы. Усе мы праходзілі праз іх, як праз эдэмскія вароты, у сваім паляванні па забаронна-салодкую садавіну-пладавіну, якой спакушае нас здзеклівы змій творчасці. І мы, надаткусіў, грашым, а хітры змей-спакушальнік, асляпіўшы і азяліўшы, адно падсоўвае нам яблычкі-зелянухі замест райскіх пладоў ды воўчую ягаду замест блаславёнай смоквы.

Творчага палявання я табе, вядома, вунь як жадаю, а так, у вольны час, бязлітасна спаганяю аброк з матухны-прыроды ў выглядзе звычайных грыбоў, ягад, дажджоў, вятроў і азону, прагульвай веча-

рам і ранкам розных там Джэры і Джульбарсаў, мо не peравяліся яшчэ? (І барані цябе бог сябраваць з літаратарамі-п'яніцамі (нават для Сцяпана Задсаравіча [Гаўрусёва] выключэння не рабі, выключэнне — для Мяне), не ўваходзь у кантакты з прыезджымі інжынерамі і забеспячэнцамі з Менскага трактарнага і аўтамабільнага, якія чамусьці маюць звычку там у гэты час адпачываць, успамінай лепш іншым часам мяне, а дзеля гэтага паглядзі, хто жыве ў 14, здаецца, пакоі з верандай (на першым паверсе) — там апошнім часам заўсёды жыў я. Але заходзіць туды не заходзь — крый божа! Духу майго там усё роўна даўно няма, таму і сцены цябе могуць не прызнаць. Не заходзь, каб там нават жыў і настойліва запрашаў Міх[аіл] Навум[авіч] Герчык, празаік — чалавек прыкладны ва ўсіх адносінах і велькі працаўнік.

У Каралішчавічах, гэтым патрыярхальным месцейку, вядома, можна і жыць-пажываць, і працаваць, як, урэшце, у любым месцы, якое не паспела апрыкрацць. Мне, напрыклад, не тое што апрыкрала, а звыклася, і адзінае, чым я займаўся ў апошні наезд, гэта шастанне па лесе, а занятак гэты я люблю. Нават калі не знаходзіў грыбоў, дык знаходзіў у якім-небудзь нечаканым месцы ўспамін пра тое пра сёе. <...>

Але, сказаць праўду, калі-нікалі працавалася — са смяшком душэўным з тых, хто гнаў кожны дзень „норму”, я самога сябе, што рашыўся-заахвоціўся, і, дасць бог, якое-небудзь апавяданнейка дагоніш да канца.

Наогул жа, — не люблю я працаваць; вось абдумваць, бывае, падабаецца, бывае, што думаецца нішто, што як бы расхінаецца на момант далеч, нешта вабіць і зырчыць, — о, гэта харошыя хвіліны! Тут пастка, эйфарыя, ці што, і небяспека палюбіць гэты працэс „парения” больш за пакутлівае „рабочае” набліжэнне да яго: а інакш, без работы, як яго ўтрымаць? Утрымаць можна ў памяці (ці надоўга?) або на паперы. Апошняе — і цяжэй, і ўдзячней, ці не так?

Аповесцейку сваю я колькі разоў губіў тым, што, загарэўшыся ёю, ужо як бы адчуўшы цалкам, не садзіўся ў час за стол — і перагараў. Вось яшчэ чаму самадысцыпліна ў працы — усё ж вялікая рэч. І справа тут нават не ў тым, можа, каб кожны дзень, як сцвярджаюць каторыя, пісаць, — па-мойму, гэта лухта. Танк, напр[ыклад], кажуць, праклямуе: страляй і галку, і варону — мо — і ў каршука ці арла патрапіш. Можа. Але качак і варон неабавязкова страляць „на паперы” і неабавязкова ўсенародна прад'яўляць справаздачу аб гэтай стралянше сваёй. Іншая справа змарнаваць па-сапраўднаму творчую хвіліну (а як ты да яе рыхтуешся, справа твая), тут ужо нешта падобна за злачынства перад сабой і на здраду сабе. У мяне, на жаль,

многа такіх здрад. Справа, канечне, непадсудная, але, ведаеш, часамі бывае прыкра. Толькі хопіць пра гэта. Пра ўсё гэта мы мала што ведаем, бо ўсё, сапраўды, у руцэ і волі божай, і нават сказаўшы слова, „нам не дано предугадать…” і г.д.

Можа, адзінае, што вартае, — старацца жыць і рабіць так, каб патрохі „расла душа”. Гэта словы, здаецца, Буніна, і сказаны яны, калі не памыляюся, пра Чэхава — пры ўсіх раўнівых па-свойму адносінах першага да другога. Карацей, варта дбаць пра „душу жыву”, і калі, скажам, слова памагае гэтаму — хвала слову! Праўда, і слова памагае не заўсёды, і слова можа быць (а яшчэ як усё, што звязана з ім) ворагам нашым, асабліва калі паверыш занадта ў сваю ўладу над ім. Крайні прыклад — графаманія. Вось яшчэ чаму я мала веру ў розныя афішкі накшталт „ні дня без радка”. Можна сказаць і па-другому (другое), і вось М.Ушакоў сказаў нешта наконт маўчання-крызісу: „чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь” — паводле формы і энергіі Цютчаў — спачатку і зблытаць можна, палічыўшы за цытату з „Silentium!”[1] Можа, гэта і сапраўды адтуль — генезісам, генетычна, так сказаць. Няхай усім гэтым займаецца Саша Яскевіч, ён любіць рознае шаманства, а мы будзем думаць пра ўсё гэта „па-хатняму”, а за работу ўзяўшыся, калі не перахрысцімся на вобразы, дык на пальцы паплюем.

Нагаварыў я табе многа, мо пара і канчаць.

А ўсяму віной — Каралішчавічы. Папраўдзе, мне дык нечага спакайней, што ты тут, недзе адносна блізка, а не лётаеш па замежжу ці яшчэ дзе. Дальбог, каб тваім мужам быў, прывучыў бы сядзець побач перад камінком і варушыць на подзе агонь ці вуголле. Гэта — зімой. А летам ты б у мяне ў агародзе да цыпак на нагах корпалася, я капаў бы міжкалгасны ці міжсаўгасны магістральны канал, а надвечар, сабраўшыся ў хату, мы выхадзілі б пасядзець на ганак і мо лагодна гаварылі б пра нешта — пад мяккае вечаровае шасценне кажановых крыл ці пад лугавое дорганне дзяркача, — калі іх яшчэ не атруцілі прадукцыяй Мазырскага нафтаперагонпага ці Салігорскага калійнага, тых мясцін, блізка якіх ёсць, дарэчы, установы, у якіх вучыцца правільным поглядам на жыццё наш брат. Я ў тым ліку, вядома, і заслугоўваю так ідылію, пра якую табе пішу, а ты гэта ацані — калі не ідылію, дык мару маю. Зразумела?

Толькі цяпер вось скажу, што твая карацелька-пісьмо здалася мне чамусьці мілай, заклапочана-пахаплíва-мілай, і я, канечне, удзячны табе, у тым ліку, і за прысланы „ЛіМ”. Два твае вершыкі не сы-

---

[1] Маўчанне (лац.).

шліся чамусьці разам. Я засмуціўся спачатку быў, але, падумаўшы, суцешыўся тым, што ты іх ведаеш, а надрукаваць — надрукуецца ў свой час. Памылачак друк[аваных] трохі нарабілі, але без гэтага „ЛіМ" не быў бы ім: там бязбожна правяць аўтараў ці так „давяраюць" ім, што не вычытваюць здадзенага ў друк.

А я ніводнай рэцэнзійкі нават не напішу, мусіць, тут — не даходзяць рукі ды і часу няма. Можа, наастачу ўсё ж ірвану, дзеля ўласнага супакаення, хаця б і дзеля скасавання рэдакцыйнай запазычанасці. Праслаўлю, скажам..., N.?...

У „ЛіМе" неблагая рэц[энзія] на Гаўр[усёва]. Парадаваўся за яго. Ён варты разумнага і добрага слова. І справа, урэшце, не ў ім, а ў паэзіі сапраўднай: робім з розных Т.-аў ледзь не нац[ыянальных] Іванаў Франко ці Сімеонаў Полацкіх новых, а літаратару воляй боскай трэба радавацца, як манцы нябеснай, успаміну ўласнага прозвішчу ў друку. І тое, што хлопец малады [аўтар рэцэнзіі — паэт Алесь Пісьмянкоў] пра яго напісаў, і тое, што не дзеля службовай нейкай выгады ці „ласкацельства", — даказвае, што зерне не заўсёды падае на камень, што напісанае, можа, і застаецца.

Адным словам, за Сцяп[ана] Зах[аравіча] я рады. Ён моцны чалавек, але і моцнаму трэба тады-сяды расслабіцца і перадыхнуць — „пусть благосклонная рука потреплет лавры старины".

Ну, добра, Даражэнькая, ты таксама перадыхні: плюнь на рукапісы, адно мне колькі слоў напішы. А так — гуляй па лесе, вершыкі мармычы, а то і без іх абыходзься — ці толькі тая праўда ў адных вершах?"

Інтанацыя гэтага ліста вельмі характэрная для Міхася Стральцова. Як і змест. І мне шкада, шкада, што ў мяне захавалася толькі некалькі маіх лістоў — тыя, дзе былі чарнавікі, ці, праўду кажучы, проста накрэмзана было, дык давялося перапісваць. Не таму, што я збіраюся друкаваць свае лісты, а таму, што ліст заўсёды мае тую перавагу, што ты імкнешся трапіць калі не на хвалю свайго адрасата, дык трымацца ў рэчышчы яго думак і настрояў, нават калі ідзеш супраць плыні. А супраць плыні я ішла часта. Часам — і „посуху", кінуўшы човен і вёслы.

...Зараз, паспрабаваўшы „пазначыць" асобна, „праблемна" тое, што датычыць Міхася Стральцова, так бы мовіць, у нечым свядомым, сацыяльным, „тэматычным", я адчула, што знікае ў цытатах своеасаблівасць эпісталярнага стылю Стральцова, стылю, у жанравай эклектыцы якога ёсць свой шарм, свой водар, непадробны імпэт, і таму вяртаюся зноў да лістоў Міхася Стральцова — у парадку ханалагічным.

Ліст, датаваны 24.XI.81 г.

„Дык вось, даражэнькая, дужа ўсцешыла ты мяне сваім пісьмом, і акрыяў я, і, хораша думаючы пра цябе, і пра сябе чамусьці лепш думаць пачаў, і пражэкты розныя пачалі роіцца у маёй галаве — накшталт таго, што вось выкую я ў маіх змрочных сутарэннях на ўзнагароду чалавекалюбству твайму сталёвы „дзекабрысцкі" пярсцёнак і некалі ўручу яго табе і адбяру ў У. сваё пяро. Можа, і пазнавата будзе тое, бо рукатворны Збор твораў ён у выдавецтва, мусіць, ужо зацёг, аде ж мне на нейкі ЭСТ, як жартуе Н.Н., тое пяро яшчэ можа прыдацца.

А далей, далей... Якім садам-вінаградам духоўным падражнілася ты перада мной, прасцёр я насустрач яму свае дрыготкія рукі і вось мушу сказаць, што зелен, зелен вінаград!

*Не, не дражніся!*

*Прозы, прозы!*

К. я атрымаў. Дзякуй. Проза ягоная ніколі, сказаць праўду, не захапляла мяне, да таго ж стаўка Р. у спрэчцы (пазавугольнай) аб уплывах „сярэдняга" пакалення празаікаў (R., Y., L. і г.д.) на дастойную змену прыспешнікаў і аружаносцаў. Мяне усё гэта датычыць мала, я прачытаю ўважліва і, можа, разварушуся на што-небудзь хаця б „з нагоды". Так?

<...>

Адмяняй О., адмяняй! Пра яго я ў лепшыя часы напішу, хоць старыя, я разумею, чамусьці асабліва прагнуць як найхутчэй газетнага ці часопіснага пустазвонства вакол сваіх імёнаў. Няўжо і мы дарасцем да гэтага?

Што яшчэ? Ага, я не адбыў яшчэ раты вершыкам. Тады слухай".

І цалкам ішоў верш „Хто гадаваўся ў цішы дрэў...".

А ў наступным лісце ён даваў мне такога дыхту, што варта нейкія кавалкі з маіх крымзоляў (захаваліся якраз) падаць:

„Строгий юноша Міхась!

Прывітанне табе з тых мясцін, дзе нават пераспелы вінаград бывае зело зелен. Дзе ж іх узяць тых гатункаў, якія нават у „эскізах" будучага ўраджаю маюць імпэтны колер таго „золотого, как небо, аи". І ўвогуле, не ў нас, а „на Венере, ах, на Венере, солнце пламенней и золотистей, на Венере, ах, на Венере, на Венере синие листья". Мабыць, тыя, самы-самы з сімвалістаў і добра рафінаваны акмеіст, яны ведалі сакрэт колераў. Нават і выпрабаваная зялёная фарба („Глядзіце на траву, хай на зеляніне адпачнуць вашы вочы") не так

каб у цане. Больш ва ўжытку канструктыўна шэры і той колер, у якім вельмі ж смачна акрэсліваюцца толькі фарбы асігнацый будучага ганарару. І, як гавораць мае любімыя французы: „Chaque sot trouve un plus sot qui 1'admire”[1]. Я зусім не навязваю табе гэту ролю. Лепш падзякую табе за каралеўскія дарункі вершамі. А я не ведаю, якія словы і „деяния” прыдумаць. Тут не выратуюць салонныя рэверансы ў стылі m-me Рэкам'е. Ах, зноў французы. Гэта з тых часоў калі быў у галаве такі прыемны літаратурны тлум, змяшаны з утульным ліпеньскім дажджом ці хрусткім свежым снегам, пабітай цэглай таямнічых руін. Тых самых „чароўных паветраных замкаў”, ад якіх „хапіла б і рэштаў”. Божа, ратуй мяне. І цябе. Зноў французы”.

Вось тут Міхась і аказаў свой нораў. І за таго К., што я прапанавала ў адным перыядычным выданні даць яму на рэцэнзію, і за маіх французаў. Гэта быў, праўда, повад, прычына была ў тым, што нешта зацягвалася з выданнем ягонай кніжкі ў серыі „Бібліятэка беларускай паэзіі”, прапанавалі не той памер і г.д.

Ліст пачынаўся без усякага звароту:

„Благодушествуете, почтеннейшая, ох, благодушествуете! Ну, добры дзень!

У адказ на твой цудоўны „quilich”[2] мне застаецца толькі ўнутрана сцяцца, а пасля выдыхнуць з сябе грубавата-нямецкае „Unmöglich”[3]. І спытаць, хто гэта мяне там у вашым цудоўнейшым выдавецтве так паслядоўна і даўно мае за дурня, за вочы, можа, і хвалячы, як дурня, за сціпласць?

<...>

Цяпер жа я ўспамінаю, што ў заяўцы на вершы я прасіў 4 арк., прэтэндуючы на мінімум і стандарт. Мне, зазірнуўшы, мусіць, папярэдне ў мой пісьмовы стол, а яшчэ раней, мусіць, вызначыўшы мае месца у паэтычнай іерархіі, прапануюць 3 арк., замест чатырох. Шанцуе на тройцу!

Дык вось, калі я прэтэндую на серыю, дык значыць, што я прэтэндую на стандарт. Ні вышэй, ні ніжэй каго-небудзь я стаяць не згодны і катэгарычна патрабую тлумачэнняў. Не люблю жанру скаргаў, але, дальбог, гэта зраблю, калі шаноўныя выдаўцы не ўтаймуюцца. Я даволі паблажлівы да жыццёвых абраз, адзе ў літаратуры таптацца па сабе ўсё ж не дазволю. І я абавязкова спытаюся: „А судьи кто?”

---

[1] Кожны дурань знаходзіць яшчэ большага дурня, які ім захапляецца (фр.).
[2] Падман, хітрасць, каварнасць (ням.).
[3] Немагчыма (ням.).

Перагаворы пра гэта з Барадуліным — ён жа працуе там, і грэх яму не заступіцца".

Вось яны, „арэлі" Стральцова, „кволыя літздольнасці" — і „ў літаратуры таптацца па сабе ўсё ж не дазволю". І роспач, і годнасць, і гонар. І адно, і другое, і трэцяе ўласцівае яму.

Кніжка ж выйшла — у 83-м годзе. Памерам 3,91 аркуша. Па сутнасці — чатыры. Рэдактарам быў Барадулін. Барадулін увогуле спрыяў як мог выданням Стральцова. І калі той быў у Мазыры, і пасля звароту. Міхась Стральцоў спадзяваўся — і меў рацыю — на надзейнае высакародства сябра.

Неўзабаве Міхась усцешна згадваў: „Барадулін ліст прыслаў. Шчодры, як сам гаспадар. Але добра, што азваўся. Вершы новыя абяцае ўключыць. [У кнігах са згаданай серыі звычайна друкавалася ўжо вядомае па ранейшых публікацыях.] Адсутнасцю дат папікае. ... На назве раіць спыніцца: „Яшчэ і заўтра". Гэтым ён палесціў мне. Мне самому пакрыёма падабалася з усіх. Пакідайце, калі можна. <...>

Хочаш ведаць, які вершык прыслаў мне Барадулін?

*Лёг спакой*
*На халадок атавы,*
*Вытрасшы трывогі з рукаўцоў.*
*Маладзік прарэзаўся*
*Танклявы,*
*Быццам малады Міхась Стральцоў.*

Во дае! Во ў каго ты дыпламатыі вучышся! Ведаю цяпер!"

Міхась умеў быць вось такім — ціха ўзрадаваным. Спакойна-разважлівым. Далікатным. Высакародным. Шляхетным. І раптам, як у папярэднім лісце, выбухаў гневам. Так, ён жорстка і бязлітасна судзіў сябе сам. Але не дазваляў гэтай раскошы іншым. Тым больш тым, чый суд быў для яго толькі абразай. Ці заўсёды быў справядлівы — Стральцоў? Па-мойму, не. Нават безумоўна — не. І ў лістах. І пазней, калі напрыканцы 86-га — пачатку 87-га нам давялося паўгода рабіць разам, і мы з ім часам не тое што спрачаліся, але больш трымалі маналогі: кожны — свой. Кожны як быў, так і меўся застацца са сваімі меркаваннымі. Асабліва калі браць пад увагу беларускіх сённяшніх празаікаў.

Міхась Стральцоў не любіў шматслоўе, а нават і дакладную падрабязнасць „не жаловал". Ведаў цану мастацкаму слову, выснаванаму пачуццём і высокай думкай. Максім Багдановіч, Янка Купала, Кузьма Чорны, Янка Брыль... Астатняе — не тое каб ад нячыстага, але — не

для яго. Было, магчыма, патаемнае жаданне: не ніжэй за іх. Ці так, ці ніяк. Тут таксама, на маю думку, загадка „малапрадукцыйнасці” Міхася Стральцова. У канцы 1981 года я выслала Міхасю Лявонцьевічу часопіс з ягонымі надрукаванымі вершамі.

„Дзякуй за часопіс. Пакутлівая гэта справа — бачыць надрукаванымі свае радкі. Купрын недзе пісаў, што той час, калі адзін пагляд на друкаваную старонку з тваім тэкстам і хвалюе і кідае ў прыемныя дрыжыкі, мінаецца скора і што ён цяпер раўнадушным позіркам абягае друкаваныя калонкі і спакойна запісвае ў гросбух сумы прыбыткаў і даўгоў... Максімаліст Брыль з гэтае нагоды нават недзе абураўся, а па-мойму, дарэмна. Не продается вдохновенье... Але вось бяда, дзе тое натхненне возьмеш? І знаўцы творчай псіхалогіі паслужліва адказваюць ужо, что чалавечыя здольнасці на 90% — пот. А Танк, наш мнагадумны і мнагатомны Танк, кажуць, сцвярджае і такі прынцып: бі сароку і варону — можа, і ў сокала патрапіш! Правільна, але навошта чакаць надворных індыкоў? — як ён гэта часцяком і, можа, з прынцыпу робіць. На індыка і лазіна, прабач, любая свіння справіцца з ім.

Адным словам, вершы мне здаліся і халоднымі і прымітыўнымі нават, а на часопіснай старонцы ўся лірыка вытхлася з іх ушчэнт. Але... будзем падлічваць радкі. Пра гэта і пойдзе далей гамонка.

Ці не засталося яшчэ ў Вялюгіна [Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч — паэт, на тую пару — рэдактар (загадчык) адзела паэзіі і часопіса „Полымя”][1] колькі маіх вершаў? Адзін ці два я прыпомніў — не тэкст, а тое, што такія вершы, здаецца, былі. Пасля: летась я даваў гэтыя вершы (не ўсе, вядома) Макарэвічу на радыё. Передача была, але нешта, мусіць, і засталося. Як даведацца пра гэга? Справа ў тым, што вершы спатрэбяцца для кніжкі ці для друку ў тых жа часопісах нават. Не хочацца, каб згубіліся. А дома — не памятаю, ці ёсць яны ў мяне. А калі ёсць — іх можа не стаць. А ўзнавіць іх я ўжо не здолею...

Уяўляю, якія цябе скора дрыжыкі будуць браць пры адным намёку на вершы — не толькі мае!

А я ж табе тут новых нарыхтаваў цэлы стос!

Вось слухай:

*А будзе час, калі і без нагоды,*
*А проста так, ад шчодрасці быцця,*
*Успомняцца ранейшыя нягоды*
*Раней нязнанай мерай пачуцця.*

---

[1] Заўвагі дадзены толькі ў выпадках, калі таго вымагае канкрэтны змест.

*І тое ўсё, што некалі болела*
*І што гняло варожай варажбой,*
*Падасца смуткам — скрухай пераспелай,*
*А ўвогуле — харошаю журбой*

*Па тым усім, што гэтым шляхам Млечным*
*Сплыве ракой — шумліваю слязой —*
*Не ў залаты век, не ў сярэднявечча,*
*Не ў мезазой або палезазой,*

*Туды, дзе, па праверанып прыкметах,*
*Для ўсіх з другога свету прыбышоў*
*Цвітуць сады і неба ў дыяментах,*
*А ля вады — эфірны скавышок".*

Ліст быў датаваны 18.XII.81 г.

А мне кінулася ў лісце тое, што ён не памятае пэўна, што, калі і каму занёс да друку — не вельмі дбаў пра „бессмяротнасць". І — „іх можа не стаць". Апошняе — як канстатацыя. Каменціраваць гэты момант я не бяруся. Прынамсі, не лічу магчымым. Адно відавочна — дом не быў надзейным сховішчам для ягоных вершаў. І не з матываў палітычных.

Тым часам надыходзіў Новы, 1982-гі год. Не ведаю, як яго сустракаў Міхась Стральцоў. Але мне ён даслаў сімпатычную жартаўлівую паштоўку:

*„Віншую з Навагоднім*
*святам, з іскрыстым*
*зімовым сонцам,*
*з ружовым ранішнім*
*і вечаровым шаравікам,*
*з уздыхамі па вясковай*
*грубцы ці камінку,*
*па гарбузіках і вяндліне,*
*па дабрадушным кампліменце*
*грукача-механізатара*
*ці шыкоўнага кіншчыка..."*

А я, меўшы нейкую вольную хвіліну, перагледзела ягоныя лісты і адпісала, што гэта злачынства — толькі я чытаю адна яго вершы. Трэба друкаваць. І Міхась даслаў перапісаныя для публікацыі вершы (усе яны былі ў лістах):

*„Хто гадаваўся ў цішы дрэў..."*

*„Не сумую сягоння, навошта?..”*
*„Яшчэ не ўшчаліся вятры...”*
*„Вось гэта музыка сама...”*
*„І рытмы тыя, ды ўжо лад...”*
*„КПП. Там круціцца пласцінка...”*
*„Пад шоргат кропель дажджавы...”*
*„А фотаздымак на стале...”*
*„Развагай сталае пары...”*
*„А будзе час, калі і без нагоды...”*
*„Я не скажу, нібыта... „*

Вершы я перадрукавала і занесла па згаданых Міхасём адрасах. Між іншым, перадрукоўваць папрасіла адну сімпатычную душу — сама я друкую пасрэдна. А была тая сімпатычная душа і знешне вельмі прывабная, і мела вышэйшую адукацыю, і была машыністкай экстракласу. Да таго ж мела тонкі літаратурны густ. І давяла на маю спробу разлічыцца: „За такія вершы грошы не бяруць”. Святлана Кухарчык (у замужжы — Рэсенчук), яна і зараз робіць у „Мастацкай літаратуры”, на другім службовым месцы. Згадваю тое нездарма — да сакавіка 1982 года Міхась Стральцоў пісаў мне на выдавецтва — і добра памятаю, з якім грэблівым і пагардлівым выглядам прыносіла мне лісты Стральцова другая службовая істота. Усім было вядома, што Міхась Стральцоў не ў Арганізацыві Аб'яднаных Нацый і не ў творчай камандзіроўцы ў якім прэстыжным месцы планеты Зямля. І жанчына ў канцылярыі — таксама з вышэйшай адукацыяй, з вялікімі амбіцыямі — ледзь не ў хірургічных пальчатках несла той ліст. І глядзела на мяне, як на стварэнне ніжэйшага парадку. Не ведаю, ці чытала яна Міхася Стральцова. Празаіка, паэта, крытыка, філософа... Можа, толькі бачыла — і не ў самыя лепшыя яго хвіліны... Ці проста мела звесткі — трапіў чалавек ва ўстанову не турэмную, але паднявольную...

Я заўсёды ведала Міхася Стральцова з лепшага боку. І ў лепшыя хвіліны. Больш здалёк. На той самай дыстанцыі. Хаця — для мяне не было таямніцай... Хто не ведаў пра яго відавочную слабасць? Якую ён не хаваў.

Ці спрабавала ў нечым яго пераканаць? Не. Грэшная. Не спрабавала. Хіба можа чалавек спасцігнуць чужую душу? І трагедыю яе? І таямніцу яе, душы?

Грэшная. Грэшная. Я ніколі не адмаўляла, калі Міхась Стральцоў прасіў пазычыць грошы. Звычайна нейкіх 5-10 рублёў. Зразумела, для чаго. (Гэта былі грошы па цэнах 70-х — пачатку 80-х гадоў.) Кажуць, разумныя і цвярозыя людзі не пазычалі яму. Мабыць, яны былі правыя. Я ж не пачувала сябе выратавальніцай. І ніколі не ведала, дзе

яно — выратаванне для яго. І адкуль туга? Адкуль пакуты? „Надзея марная...”

Фаталісткай я, здаецца, не была. Але ролю суддзі не прымервала для сябе. „Дзе яны? дзе твае мудрацы?” „Кожная мудрасць — ад Госпада і з ім трывае адвеку” Я не адчувала сябе валадаркай, ахоўніцай той мудрасці.

Лісты ж... Тут я — чым далей, тым болей — разумела: яны яму патрэбныя. Хаця часам і зацягвала трохі, адказваючы: „хуткая дапамога” была у нас сталым госцем, ці госцяй. Мы ведалі ўсе кардыялагічныя і так званыя тромбаэмбаліцыйныя (ТЭБ) брыгады. Цяжка хварэла маці — і гэтая машына (здзек лёсу — бел-чырвона-белая) часцяком прыязджала да нас і ўночы, ды разы са тры на ноч. Маё здароўе на той момант таксама не адпавядала, так бы мовіць, агульнапрынятым стандартам. Вось і пісаў Міхась 31.1.82 г.:

„Дарагая Ала Іванаўна!

Даўнавата нешта не чуваць ад цябе нічога: а я табе цэлых два канверты з вершыкамі паслаў і не ведаю, ці атрымала. Папраўдзе, не так вершыкі мяне турбуюць, як тваё маўчанне. У мяне такое ўражанне, што я занадта назаляю табе, а табе даць зразумець мне гэта няёмка — вось і рыпіць, каўдобіцца воз перапіскі нашай.

Адным словам, адгукніся. Тады і напішу, калі будзе цікава (табе), падрабязней”.

Той год быў цяжкі. У студзені памёр мой свёкар, добразычлівы, лагодны чалавек. Да скону веку гаварыў, як і яго землякі з вёскі Лявонцавічы з-пад Менска — на роднай беларускай мове. Не падлабуньваўся пад „сталічнага” жыхара.

Быццё вышнуроўвалася ў вузенечкую шчыліну: аптэкі, шпіталі, крамы, могілкі... Хварэла маці. Увесь час „пасклізвалася” я сама. Праца — якой не было аніякай цікавасці да маіх згрызот. Графік, якасць. „Давесці, зрабіць, выцягнуць...”

Зразумела, пра тое я магла весці аповед толькі пункцірамі: прычыны майго маўчання. Затое я блазнавала, як магла, апісваючы, як я дасылала яму пасылку. Надыходзіў яго дзень нараджэння — 14 лютага. І я нешта купіла, нешта спякла — і рушыла на Галоўпаштамт.

„Варыянт” дзядзькі ў Вільні”. Прыходзіць такая порсткая цётачка. У кажуху. Адстаяла ў адной чарзе, у другой, у трэцяй — а тут кажуць: выкідай паўтара кіло. Аказваецца — 5 кг брута, хай яно гарыць. Стыхійная ньютанава сіла. Тым часам набліжаецца перапыпак на абед, а тут робіцца відавочна, што кажух — не самая спрыяльная

адзежына для загортвання пакункаў. Адчуванне — ці то ты па патэльні, ці то ў самы полудзень з візытам у якога племені мумба-юмба, на самым экватары. Дык вось — кацяцца тыя аўчыны з плечукоў, што сайкі з горкі, і іх падымаюць з падлогі то нейкія спагадлівыя салдацікі, то презрительные дамы, то ўсмешлівыя дзяўчынкі.

Але ж... Нядбайліц і недарэкаў Бог беражэ. І пасылае ім у самы кульмінацыйны момант кожнага трагіфарсу фею-чараўніцу. Фея мая была памерам з кафлянку ў нашым наваградскім РДК (раённы Дом культуры), бурчэла, як дзесяць свякрух перад велікоднымі прыборамі, але ж хуценька выкінула скрыню, змайстравала нейкую торбу, адпрэчыла мой пірог („Даражэнькая, наедак на паўгадзіны"), з панагай паставілася да сала і кіўбасаў, гмыкнула на сыр і цукеркі, але выкідваць не стала — няхай сабе, какава пакінула, а каву адпрэчыла".

Яшчэ нешта ўсмешлівае спрабавала я з сябе выціснуць, хаця адпраўленне пасылкі — малюначак з натуры, і усё выглядала сапраўды вельмі пацешна, мабыць, збоку.

Адказ Міхася падатаваны днём яго нараджэння: 14.02.82 г.

„Mesdames, — ці правільна напісаў я па гэтай тваёй мудрагелістай мове, пра якую ведаю толькі, што слова bistro яна запазычыла ад платаўскіх п'янтосаў-казакоў, што не міналі ніводнай парыжскай забягалаўкі, а таму і прыспешвалі розных гам мусью энергічным: быстро, быстро!

Адным словам, коман ву порто ву?"[1]

Між іншым, захаваўся чарнавік пачатку майго адказу:

„Светлы княжа, Міхась!

Вымушана расчараваць цябе. Excuser-moi[2] (Гэта то ж, што excuse me[3]). Калі я чытаю каго лацініцай, дык гэта тых, хто карыстаецца мовай лорда, якога хто лычыў паэтам, хто — дэндзі з Чэлсі, а хто проста п'янтосам — спакуснікам бедных дачок Евы. І яшчэ — дзівакоў з крэсаў, якія ўсё пэўняць свет, што nie zginęły[4]. А тую грывуазна-куртуазнуто мову люблю, у маім „малым джэнтльменскім наборы" (не ведаю, як тут зручна высловіцца пар „лэдзі") з яе затрымалася найбольш. У знанай ніжнегародскай (гародзенскай? наваградскай?) інтэрпрэтацыі. Ну, а ў астатніх мовах знакамітая людаедка Элачка дала

---

[1] Як жывяце? (фр.).
[2] Даруйце (фр.).
[3] Даруйце (анг.)
[4] Не загінулі (пол.). Словы з польская патрыятычнай песні.

б мне фору. Дольчэ віта і о-ля-ля! (Адчуваеш, які дыяпазон?) Муэртэ і но пасаран. Варум і данке тон. Ну, а сакраментальнее Гамлетава to be or not to be[1] для мяне зараз існуе ў адным амаль што варыянце. Выклікаць „хуткую” ці не?

Вось дапісваю праз два дні... Тут, паміж іншым, у нас адбывалася мерапрыемства мясцовага маштабу. Усе, паважаныя і шаноўныя, заклікалі да прынцыповасці і смеласці. Цытавалі толькі што адкрытых імі даўно вядомых (нешта накшталт таго мальераўскага героя, які высветліў, што ўсё жыццё гаварыў прозай). Палымнелі пафасам, нечуванай прагай справядлівасці, але ж прозвішчаў тых, каго анафемавалі і нішчылі, так ніхто і не пачуў. Затое быў пазней Выпадак — не прынялі ў СП хлопца, што некалі паспрабаваў паказытаць імя сёння слыннага і знанага і прызнанага, а галоўнае — таго, хто сёння ўладу мае. Ну, але... Кінем іх на волю ўладнага лёсу. Хай раскашуюцца мітуслівымі прывідамі свету звычаёвага. А вось я лепш некалькі афарызмаў Уайльда табе перакіну:

„Люди воспитанные противоречат другим. Люди умные противоречат себе.

Полюбите себя, и у вас начнется роман, который будет длиться всю жизнь.

Вопросы никогда не бывают нескромными. Нескромными бывают ответы”.

Некалі, у студэнцтве, мне страшэнна падабаліся гэтыя ігрыскі розуму, гэтыя кульбіты думкі. Зараз я паспакайнела да іх, але цікавасць не згубіла. Мабыць, ты абыякава ставішся да гэтай не вельмі глыбокай натуры, занадта нарцыстычнай, каб быць натуральнай.

А як табе Сальватор Роза? Жыў мастак у XVII стагоддзі, прынамсі, 10 год быў у Фларэнцыі, каля Медычы. І ўвогуле большасць з таго, што ён рабіў, не выходзіла за межы прынятага на тую пару. Маю на ўвазе стыль пісьма. Але ёсць у яго карціна „Смерць Эмпедокла ў бездані”. То кратэр вулкана, у які кінуўся знакаміты праўдалюбца, і ўвогуле няпэўнасць, мройлівасць малюнка — нібыта недзе напярэдадні з'яўлення імпрэсіяністаў. І — аўтапартрэт. Чалавек відавочна не эпохі Сеічэнта, эпохі барока — такі скепсіс, такая хранічная стомленасць душэўная... Хаця... Адраджэнне саступала месца arte nuova[2], барока. Здаецца, менавіта тады кавалер Марына прамаўляў, што калі паэт не здатны нікога здзівіць, дык можа ўзяць скрабло і выпраўляцца ў стайню. Arte nuova XX стагоддзя, здаецца, тое ж самае вызначала.

---

[1] Быць альбо не быць (англ.).
[2] Новае мастацтва (італ.)

Занесла мяне ў далечыні. То пакуль не даімчалася да якога Сент-Эўрэмона, буду заканчваць. А ўвогуле люблю такія „вандроўкі" — шкада, што пасля студэнцтва толькі зрэдзьчасу даводзілася выпраўляцца ў іх".

„Я жывы, здаровы, сілкуюся і ласуюся тваімі дарункамі і з жахам перажываю твае пакуты на баслаўлёных нашых поштах, дзеля нейкага дня нараджэння! А як было б пачувацца мне, каб які вастравокі і быстраногі жыгун ірвануў падручку з тваім паўкажушком? Га? Я і за пяць бы гадоў, седзячы тут, за яго не расплаціўся б! Во жах!

Але я рады, усцешана-расслаблены і адчуваю сябе бадай што замужнім чалавекам — што гэта я? — жанатым. А ты пра тое і не падумала? Вось табе!

Наведалі мяне тут два чалавекі: аднакурснік мой Іван Шуцік (рэд[актар] „Железн[одорожника] Белор[уссии]") и Анат[оль] Аўруцін. Апошні перад тым у выдавецтве быў і прывёз мне аж тры цыдулы — ад Барадуліна, Паўлава і Эд. Валасевіча. І вось, развітаўшыся з ім, успамінаю цябе і ваш калідор, які хоць не стаў для мяне ні калідорам славы, ні ўлады, затое стаўся сцяжынай да аднаго-двух чалавекаў, і няхай бы не зарастала яна, гэтая сцяжына!

Рыгор піша пра кніжку — там ім патрэбны нейкія даты пад вершам, а дзе я іх вазьму? Калі ўжо так абавяз[кова] трэба, выдумляйце з галавы — па мне усё роўна дысерт[ацый] ніхто не будзе абараняць і нікога мо ў зман не ўвядзём. Ды і наогул гэта несур'ёзна, як кажа Dt., га? Гэта Максім стаўляе даты пад кожным вершам — чатыры вершы на дзень, га? Па-мойму, мнагавата, га? Я пішу на дзень чатыры старонкі, га?

Праз пяць хвілін у мяне адбой. Хачу кінуць пісьмо ў скрыню, каб заўтра ранічкай пайшло".

Міхась Стральцоў не вылічваў сваю бессмяротнасць, не распіхваў натоўп па дарозе на Парнас — узнёсся туды лёгка — вольна (можа, у гэтым таксама адна з прычын яго грагедыі?), не вельмі дбаў пра дакладнасць, акуратнасць — калі не тычылася непасрэдна твора. Пра гэта даводзіць можна адстаронена і з пэўнай доляй літаратурнай сур'ёзнасці. Ёсць тут у лісце іншы аспект — досыць далікатны, пра які весці размову цяжка: „адчуваю сябе бадай што... жанатым". На тую пару другая яго жонка Алена Дзмітраўна афіцыйна скасавала з ім шлюб. Пра яго асабістае жыццё (як і пра маё) мы з ім ніколі не вялі размовы. Ні ў апошнія гады яго жыцця, ні ў даўнія гады, на пачатку 70-х, калі ён яшчэ не пабраў другі шлюб, але быў разведзены з пер-

шаю жонкай. Якія гэта былі адносіны паміж ім і Аленай Дзмітраўнай, якія прычыны ладу і бязладдзя — таямніца, пра якую ведалі толькі яны. Адно — што было відавочна — Міхась Стральцоў пакутліва, зноў і зноў, вяртаўся да ўзаемаадносін творцы і жанчыны, мужчыны і жанчыны. Была ў тым, мабыць, не толькі пісьменніцкая прага спасцігнуць адну з самых вялікіх таямніц. Была і горыч уласнага вопыту. І — магу здагадвацца, горыч была не толькі ў яго, а і ў тых, хто быў злучаны з ім лёсам.

...Каб спраўдзіць свой талент, трэба ахвяраваць шмат чым. І не толькі самому творцу. А і тым, хто побач. Полюсы настрояў, без дай прычыны скруха ці радасць. Нялёгка мець нават аддаленыя стасункі з чалавекам таленавітым. А дзяліць штодзённы лад жыцця... Дараваць крыўды. Дараваць недахопы, заганы, звады... Таксама патрэбны талент. Мала каму дадзены.

Да таго ж, кожны заўсёды меў ці мае нейкі вобраз, што вызначае ўяўленне аб Прыгажосці, аб Каханні. Ці не таму так часта гэты Вобраз у жыцці бывае шматаблічным, персаніфікаваным у мностве канкрэтных асоб? Ці адпавядае гэта чалавечым, прынятым канонам, хрысціянскім запаветам нарэшце? Не ведаю. Ведаю толькі, што гэта заўсёды складана. Для Паэта. Для тых жанчын, што — кожная! — вырашылі, што менавіта яна! — адпавядае ягоным ідэальным уяўленням, Вобразу, створанаму ім. Пра тое пісаў сам Стральцоў, гаворачы пра Багдановіча. Пра тое думаў многа, пакутліва. Прагнучы абсалюту.

Лісты, дзе я была канкрэтным, персаніфікаваным адрэсатам, таксама зварот больш да вобраза, які быў створаны Стральцовым. У нейкім сэнсе прапанаваная імпрэза, ігрыска. Хаця часам, як акцёр „натуральнага” складу, ён уваходзіў у ролю і патрабаваў „полной гибели всерьез”. На пісьме, на пісьме. Даючы волю фантазіям-пачуццям. Разгортваючы сюжэт ліставання. Сюжэт, у які ўваходзілі — чакана і нечакана — зломы лесу, накладваючы свой адбітак на эпісталярны сюжэт.

### „Вада асенняе крыніцы...”

„Адчуў я за радкамі твайго пісьма, як турбатліва і нясоладка зараз табе самой, і сорамна мне крыху стала за сваю дакуку і пісьмовы імпэт. Ты, калі ласка, даруй.

Будзем спадзявацца, што ўсё неяк уладзіцца, улагодзіцца і пацішае: клопаты, вядома, застануцца, але, можа, дадуць перадых і сабе, і нам. Хоць трохі палёгкі.

У нас тут бадай што вясна, і надоечы, колькі дзён таму, выдарылася нейкая асаблівая прасветлінка ў прыродзе, і так зранку ўзялася нясмела-соладка, з прыхапкам журбы, торгацца сэрца, такая надзея нейкая, па-маладому дурная, патрэпала крыла, што я аж спалохаўся і тут жа сцяўся ўнутрана: баюся я такіх хвілін! Баюся суровчыць тыя харошыя хвіліны, якія, можа, яшчэ наканаваны недзе пасля. А страпянуўся, паляцеў душою насустрач шчымліваму падману — пішы прапала! Не далей як праз дзень-два тыцнецца да цябе жытуха з такою абразай-прозай, што закаешся „возлетать"! Далібог. Са мной заўсёды так, праверана гэта — і тут я забабонны.

Таму і душу „прекрасные порывы". Пераймаць мяне ў гэтым не трэба, вядома, гэта мая ўласная містыка, але ж ці не занадта мы танкаскурымі сталі — вось пра тое я думаю іншы раз. S.I. у такіх выпадках раіць пакутаваць, ледзь не свядома, — браткі-славяне на ўсё і дзеля ўсяго прыдумаюць [нечытальна] — куды там якому-небудзь біццю па левай і па правай шчацэ! Мы уже и ногу попирающую лобызать считаем превеликой милостью, и корни и акриды кажутся нам пищей райской, а зловоние подземелий — дуновением райских крыл! Абрыдлі мне гэтыя прапаведнікі пакут, як і розныя Т. и F. Да сокрушится царствие их! Але калі — о боже!

Добра. Хопіць. Пішы мне, што надарыцца і калі выпадзе час — я палагоднею на тую пару і табе што-небудзь лірычнае напішу.

Што ў вас там за пленум? Абмалюй.

Прывітанне вашаму крытычнаму цэху — небось воскуряете самодельными зажигалками фимиамы, а як наконт прыкурыць?

Ну, добра, добра.

Бывай здарова — пішы.

5.03.82.

P.S. Яшчэ раз віншую са святам. МЛ

У мяне, аднак, свята не адбылося. Кожны з нас спазнаў пакаранне пана Бога. Ён — за свае згрызоты, я — за свае. Мае можна было б пазначыць так, як гэта акрэсліў геній Лермантава: „Законы мудрыя природы он равнодушно пренебрег". І нейкім днём я апынулася на мяжы быцця і небыцця, перадусім згадаўшы ў лісце да Міхася вядомае, з Высоцкага: „И что там ангелы поют такими злыми голосами". І калі яшчэ адным днём я расшчапіла вочы, дык зразумела: „Жывая". Сонца было такое яркае, як ніколі ў жыцці. Блакіт неба быў па-святочнаму ясны. Пакой быў поўны нарцысаў і цюльпанаў. Ляжалі яблыкі — не па-сакавіцкаму ружовыя, празрыстыя, нібыта з садоў Эдэма. Былі запіскі. І ліст ад Міхася.

„Пішу табе на выдавецтва ў надзеі, што пісьмо неяк перададуць. Сказаць, што ты мяне засмуціла, мала: мне пачало здавацца немаведама што, і вялікая крыўда ўзнялася на пана Бога, маўляў, калі ён бэсціць і карае мяне, можа, і не надта вернага свайго халопа, дык навошта яшчэ і людзей, якіх я шчыра люблю і за якіх малюся? А любая, па-мойму, са шчырых малітваў павінна даходзіць да яго, калі ў ягонай нябеснай канцылярыі вядзецца правільна іх улік і талкова складаюцца дайджэсты. А мо не чытае, а мо не перадаюць?

Я і тут скажу табе, што рабіць. Ты з ангеламі, з душкамі іх нечапанымі, гаворку вядзі. Калі ангельчык сумны трохі, пёрка з крыльца выскубі і пёркам яму так лагодненька за вушкам павядзі — за жывоцік адразу і схопіцца. А ты яго казычы, казычы. Запросіць пардону — ты яму просьбу сваю. І тут ён табе паабяцае, як Барадулін, усяго, а ты ўжо яму, як Асіпенка: не, ты абажджы, цяперыцька я цябе як у зерькалі, панімаеш, бачу — што ў цябе ў думках праваліруе, правабладае, га? Не падзяляеш?

З імі трэба толькі так.

Смешкі смешкамі, а я як найхутчэй чакаю весткі ад цябе — і харошай. Вясна ж ідзе! Мне, чалавеку, што зарокся, можа, і радасці, і то на душы шчымліва-хораша бывае, як вясновы ветрык шыбане ў наздру, як у вушах палошча, як перавярне някепскіх успамінаў адну-другую скібу — душа тарганецца весела, а чарвячка сумненняў тут жа склюе, падскочыўшы паслужліва і ў добры час, непаседа-грак. Мацуйся і кінь дурное, як нехта казаў, зрабі ласку мне і людзям, якім ты патрэбна, — ачуньвай хутчэй і мне пішы.

Я табе кветачак пасылаю. Пазаўчора праклюналася ў мяне на акне. Будуць і яшчэ. Сіняя кветачка, харошая. А на сонейка сама часцей глядзі.

У наступны раз я табе вершык напішу, калі хочаш. Даўно ўжо не пісаў, а табе напішу.

Здаравейшай будзь, пішы.

Міхась.

14.03.82”.

Я адпісала яшчэ з бальніцы.

„Пішу, мабыць, існую. Праўда, пакуль са мноствам забаронаў. Гэта — нельга, гэта — непажадана, гэта — пакінь надзею назаўсёды. Але — існую. Па волі Провидения и пана Бога. Мабыць, твае словы дайшлі ў тую высокую інстанцыю. Хіба можна тваё слова пакінуць без увагі?

Наладзілі невялікі дэсант з анёлаў-ахоўнікоў і анёлаў-выратавальнікаў. Праўда, з-за лянотнай сваёй натуры ці з-за сціпласці ні пра што іх не прасіла, не люблю я неяк прасіць. Але яны зразумелі акалічнасці і далікатненька зрабілі сваю справу. А нейкі дзень, пагледзеўшы на акно, сама зразумела, што за ім вясна і ў нябеснай канцылярыі ліміты ў маштабах сезона на блакіт і золата выдадзены падвышаныя. І вясновае птаства атрымала шырокія паўнамоцтвы і карыстаецца імі, як той выпускнік музвучылішча. Практыкуюцца з самай раніцы, якіх толькі экзерсісаў не навыдумляюць — ніякія ноты не вытрываюць. Нават уявіла сабе той вясновы лес, які я, даўжнік твой, павінна вярнуць гэтай парою. [Трэці ліст Стральцова, з вершам: „Не сумую сягоння, навошта?..”] Лес талы, пахучы, празрысты, з першымі пралескамі. Не магу, праўда, кінуць у канверт праleску, лес пакуль што толькі ўяўляць магу. Але — наяве ці ў сне — падарунак той Боскі вяртаю з прыемнасцю.

Ой, нешта я ледзь не таю ў сентыментальным захапленні вясновым харaством.

Ты пытаўся ў папярэднім лісце, што за пленум. Я на ім, зразумела, не была. І нават „ЛіМа” справаздачнага не бачыла. Пленум быў па публіцыстыцы. Быў Чарнічэнка — выступаў. Нехта з нашых дробненька пырскаў памыямі. Усё гэта са слоў — спарадычна, суб'ектыўна, фрагментарна”.

Тры месяцы я пісала Міхасю Стральцову акуратна — у свой бюлетэнны час. І з імпэтам чалавека, якому было даравана наноў жыццё. Дарэчы, пазней, у апошнія месяцы Міхася, я, пры кожнай сустрэчы ў бальніцах, згадвала свае эмпірычныя стасункі. Ён слухаў уважліва. А я нешта мармытала пра тое, што магутная валадарніца, сусветная ахмістрыня Натура карае нас, але дае нам пасля хваробы радасць свайго спазнання, вяртае вясну, водар паветра, шчасце існавання.

“І лёс вяртае нам сяброў...” І ўлюбёныя мелодыі, і кнігі. Я слухала і слухала Шапэна. Давёўшы гэта Міхасю.

„Дзень добры, Міхась!

Калі пачынаеш з той міжнароднай папулярнай тэмы, аднолькава прыдатнай каля вясковага калодзежа і ў вытанчанага густу гасцінай, дык сёння ў нас такі стракаты-паласаты дзень, — паўгадзіны снегавей, як у лютым, паўгадзіны — натуральнае красавіцкае сонца, а самая пара б яму ачомацца і папрацаваць: вялікдзень неўзабаве, а Wielkanoc дык і праз колькі гадзін. Вось табе — вселенская гармония.

Я лайдакую — немаведама чаму гартаю старыя і менш старыя ангельскія раманы. Таўшчэзныя. Закалыхваюць мяне ўтульныя інтэр'еры і экстэр'еры Old England[1]. Можа, даімчуся ў сваім апрашчэнні да дэтэктываў. А можа, выратуюць тыя абраннікі, у якіх і печаль была светла. Сёння нешта пачалі іх радкі тоўпіцца ў галаве з раніцы. І ўзнікла банальная ідэя банальна параскашавацца, ну, скажам, Шапэнам... Дзякуй Богу, магу яе спраўдзіць.

*Опять Шопен не ищет выгод,*
*Но, окрыляясь на лету,*
*Один прокладывает выход*
*Из вероятья в правоту.*

А гэта ўжо зусім далёка ад таго абранніка сонечнага Феба. Але блізка шляхціцу з Жалязовай Волі.

Вось зноў з'явілася сонца — прыемна-цёплае, нават праз аконную шыбу. І так захацелася тыцнуцца носам у паветра. Вясновае, дзе нешта няўлоўнае і няўмольнае. Хоць ты гаўкні на неспазнаны струмень немаведама чаго.

Якраз атрымала ад цябе ліст, то і пребываю ў кампаніі з табой, панам Кузьміцкім. А яшчэ Пітэрам Усцінавым, Гюнтэрам дэ Бройнам і Андрэ Мальро. Праглядаю „Иностранную литературу" — сёе-тое з мінулага года — „Крамнэгел": шкада, Вера Сямёнаўна [Палтаран] „зачытала" першую частку, самую цікавую; і сёлетняе. Шкада, што Андрэ Мальро — ўсё ўрыўкі (былі ў „Вопросах литературы" ў 1979 годзе, ты, мабыць, чытаў). І вось зараз. „Бренный человек и литература". Як ты пераклаў бы? Хаця — як яно па-французску? Між іншым, там ёсць такое: „... у Індыі з-за процьмы багоў нельга было ставіць помнікі зямным валадарам". Можа, у тым была свая праўда? І яшчэ згадаю адно: „Мір-Свецкае ўяўленне дасягае вышыні рэлігінага ўяўлення толькі тады, калі літаратура будзе роўнай выяўленчаму мастацтву. Пераемнікамі Мікеланджэла і Тыцыяна будуць не мастакі, але Шэкспір, Монтэвердзі, Карнэль". Увогуле там шмат цікавых думак, адно не люблю нашу дурную заангажаванасць, зацыкленасць на адмаўленні і маргіналіях. Невялічкі кавалачак тэксту, але ж каментар — удвая большы за яго. Як у нас любяць каментары, тлумачэнні! Каб, не дай Божа! — не падумалі не так, як трэба, не зразумелі ў інакшым ракурсе. Ну, і калі каментар робіць Самарый Велікоўскі, то гэта каментар: ён неяк умее абыходзіцца без спрашчэнняў, а калі Зоніна, як тут, дык чытаць і сумна, і ўвогуле нецікава.

---

[1] Старасвецкая Англія (англ.)

А чытаючы, прыгадваю чамусьці ліставанне Канецкага — з кім бы ты думаў? — са Шклоўскім. Ці наадварот — дзівіць ліставанне Шклоўскага з Канецкім, хаця супраць Канецкага я нічога не маю: нават часам гэты марскі воўк з ягонай жорсткай іроніяй мне і падабаецца. Там ёсць і такое: „Мы плывём сваёй дарогай, праз прыбрэжную праталіну паўз берага і усё ж наперад”. „Рукапісы разумнейшыя за аўтараў. Магчыма, рукапіс Шэкспіра нават не схацеў бы размаўляць з аўтарам”. Але гэта я паціху сунуся да галоўнага: „Чытаць вас абавязкова трэба з пяром у руцэ і паперай: вельмі многа з'яўляецца ў галаве рознага. ...бег Вашай думкі — парывісты і лукаваты, як у салдатаў пад агнём, — прыносячы мне асалоду і ўзбудзіўшы падскакванне маіх мазгоў, нясе ўзнікшыя геніяльныя думкі за бачны далягляд або ў струмені „зэфіра”. Калі я чытаю цябе — у кожнай іпастасі — думаю прыблізна тое ж. Не магу згадаць, што ў мяне ўзнікаюць геніяльныя думкі, але што недзе за небасхілам разыходзяцца ў нябыт і тыя, што ёсць, ператвараюцца ў нешта цьмянае і невыразнае — факт. І какецтва, якое мне не зашкодзіла б мець, як неабходную жаночую зброю, таксама сплывае некуды у эфіры, стратасферы. А я, дурніца, і не лаўлю яго — плыве і хай сабе плыве. Але на той плыннай хвалі, можа, нешта і застаецца аб нічым не растлумачаных захадаў чапкоўскіх, зорычаў, чугуеўскіх (маю да іх самае блізкае генетычна і радаводна пазначанае дачыненне). Выхоўваць мяне нікому з іх нават на самай постэмбрыянальнай стадыі не давялося. Але стракацца — стракаліся. А яны мецілі ў сваю пару свае жыццёвыя сцежкі так, што шляхі кіраваліся больш у Сібір. А сёння адзін чын, важны, як некалі тыя афіцыйныя чыны, што выпраўлялі іх за Урал, супіць бровы: маўляў, непатрыятычна, як гэта чалавек мог мець дурасць нарадзіцца так далёка ад межаў родных, на Камчатцы.

Ну, ды хай сабе той чын хмарыцца і выціскае з сябе шэдэўры. А мы згадаем яшчэ літоўскія хутары, якіх непадалёк ад Гародні яшчэ ладна засталося. З нашага боку хутароў мала. А ў Летуве ёсць. Акраса краю. Мара ўсіх антыўрбаністаў. І нават рэальны прытулак для прыхільнікаў НТР. І вольных людзей. Але хто з нас вольны? Ці мы самі выбіраем свае крыжы і ланцугі? Ці яны нас?

Бывай.

А.С.”.

І прыйшоў той самы ліст Міхася Лявонцьевіча, дзе ён згадаў пра „загадку назскіх натур”, дзе былі развагі на тую тэму, што, мабыць, заўсёды хвалявала яго: „Недзе чытаў, як білася (псіхалагічна) з Джоз. Конрадам жонка, не могучы ніяк зразумець усе абертоны яго ўчынкаў

і душэўных рэакцый, і вось, думаю, раззлаваўшыся, неадноечны крычала нешта накшталт: „Пракляты пшэк!” Нешта падобнае, мусіць, было з Апалінэрам і той, якой прысвяціў ён сваё „Sorry”[1]. Гэтыя кажанеўскія, кастравіцкія [сапраўдныя прозвішчы Дж. Конрада і Апалінэра] — не цацы, адным словам. Майго дзеда, Міхаіла Ігнатавіча Кузьміцкага, па маці, таксама, памятаю, за натуру не хваліла бабка Хрысця, але дзед быў, на мае сённяшняе разуменне, не ябы-які чалавек — дай Бог мне б ад яго трохі. <...>

Але нешта, даражэнькая, я не ў тыя аглоблі падахвоціўся запрэгчыся і стаць. Ды яшчэ ўздыхнуў і закусіў цуглі. Даруй. Але амаль разгаварыўся, толькі не вершыкам. Вершыкі, ведаеш, апошнім часам нешта не пішуцца, душэўна аслабнуў, саслабеў, а на прозу — часу няма. Рэцэнзіі на мне нейкія вісяць, ніяк падступіцца не магу. А трэ было б, дзеля хрумсткіх паперак: калі вырвуся калі-небудзь адсюль, уцяку куды-небудзь на хутар, да літоўцаў. Колю Старшынава адшукаю ці каго яшчэ, — няхай раяць, ях схавацца. (Старшынаў некалі жыў на нейкім хутары ў Літве, ажаніўшыся ці прыжаніўшыся там, — і некалі мяне падбіваў прыехаць. Даўно гэта, праўда, было. Я і Старшынава таго пасля таго, можа, адзін раз і бачыў. Наогул, адасобіўся я ад усяго. Але ж „шапачны” стрыкулізм твайго любімага St. цяпер не даспадобы, — не па мне. Хоць St. і хітры — не давяраецца „сябрам” і душэўна не прыляпляецца да іх — мае рацыю, га? Толькі гэта таксама не выхад.)

Ну, мусіць, пара закругляцца — пакаціўся я, як таварняк з сартыровачнай горкі.

А ты мне пішы, як і што хочаш. Калі-некалі лірыкі якой падпусці, па галоўцы пагладзь. Я ўжо супакоіўся трохі, не кідаюся ўжо, пальчык не адкушу.

P.S. А на літоўскія хутары з'ездзіць трэба будзе калі. Вось толькі дабрацца да Гародні — таксама даўно там не быў, але Ласасянку ўспамінаю калі-некалі. Ад Гародні да тых хутароў блізка, завітваў некалі”.

На канверце дата — 19.IV.82 г., у лісце не прастаўлена. Увогуле Стральцоў акуратна датаваў свае лісты. Можа, гэтая думка — „адасобіўся я ад усяго”, можа, яшчэ нешта адвяло ўвагу, магчыма, вось тыя літоўскія хутары — марыў ён пра хату, пра свойскае жытло, так бы мовіць, „на пленэры”. Пра хутар, пра хату дзе на ўскрайку вёскі — адасобленую, негаманкую. Не пра дачу — менавіта хату. Мара ягоная так і не збылася. Хаця нават у апошнія ўжо месяцы жыцця, калі з'я-

[1] Прабач (англ.)

віліся нейкія грошы, і пасля аперацыі ў Бараўлянах пачынала цепліцца надзея, ён выпраўляў сваю сярэднюю дачку Вераніку (малодшую дачку ад першага шлюбу) паглядзець які пляц з будынінай.

Пра гэта многа будзе весціся гаворкі ў нашых лістах: напаўжартаўлівай, з узаемным пакепліваннем. Мне таксама мроілася хата дзенебудзь у лесе, на адзіноце. І таксама мроя гэтая застанецца мрояй. І ўвесь маёмасны набытак — кааператыўная кватэра і некалькі „дачаў": лапікі зямлі на могілках маці, бацькі, маёй хроснай пані Магды... І яшчэ, і ячшэ... Для мяне самой гэты лапік у пазажыццёвым існаванні — ужо мара. Дай, Божа, каб не крэматорый...

А вось яшчэ ліст-сведчанне: чаму не з'явілася там, у Мазыры, проза Стральцова. Болдзінская восень не выпадала. Прытулак яго высылкі не быў маёнткам, не быў „приютом спокойствия, трудов и вдохновенья". Ці было іншае выйсце з той пасткі лёсу, у я кую ён трапіў, я не ведаю. Відавочна, не ведала яго і другая яго жонка, Алена Дзмітраўна. Здаецца, яна прыязджала да Стральцова ў Мазыр... І наперад таго, мабыць, прыняла на сябе шмат пакут і страт і болю. І ахвяр. Ці разумела яна Стральцова? Не ведаю. І ці легка было яго зразумець? І ці дадзена гэта было ўвогуле некаму? Але— так ці інакш: Стральцоў бытаваў у Мазыры, у атачэнні, не самым, мякка кажучы, спрыяльным для візітаў высокай Музы.

„На адзіноце з сабой і табой мне выпадае заставацца толькі ўвечары, пасля 8 гадзін (да 10) — увесь мой вольны час, бо другога, нажаль, не маю. Іншым разам не без зайздрасці ўспамінаю свае першыя месяцы ў санчасці: хоць і людна, і цесна было, і настрой амаль хаўтурны, але, перамагаючы сябе, пісалася ўсё ж, бо меў нейкі час, а можа, галоўнае — злосць. А ты заўважала, што ў кепскім настроі, бывае, працуецца добра, варта толькі перасіліць сябе. Скруха — страшэнны цяжар, але „так тяжкий млат" і г.д.

А раніца... Харошы час, каб услухоўвацца ў прадчуванні і пацiху, ненатужна давярацца ім і па іх настройвацца. Бываюць, сапраўды, такія хвіліны сцярожкай амаль упэўненасці ў непазбежнасці нейкага бадай што дзіва, неспадзяванкі, узнагароды — нешта падобнае да таго, што прымушае Грын адчуць і перажыць Асоль перад з'яўленнем Грэя. Грын — няроўны пісьменнік (я кажу пра невытрыманасць стылю), але гэтыя мечты, обморочные до яви, па-харошаму здзіўляюць празарлівасцю натхнення, на шчасце дзейснага ў слове. Λ гэта цяжка. Асабліва там, дзе маеш справу з адчуваннямі. Гэта ёсць у гамсунаўскіх „Вікторыі" і „Пане" — вельмі музыкальных рэчах. Падобная аркестроўка прозы не павіна, праўда, пасля Тургенева, скажам, ягонай „Поездки в Полесье". Перачытай як-небудзь — цуд! Умеў ста-

ры! Цяперашнія ўжо, мусіць, так не ўмеюць, хоць у Вітава ў „Армянскім дзённіку” ёсць нешта падобнае на тонкасці і водару: памятаеш там „армянскі дворык”? Хораша.

Я пішу тут без усялякай літаратуразнаўчай навукі, эклектычна, з густаўшчынкай: проста я кажу пра ўмельства падпусціць у рэалізм „смугі”, не забіваючы контур, кантраст і лейтматыў. Вядома, бацькам усяго гэтага трэба лічыць Тургенева, лінія якога даўно ўжо ідзе поруч з лініяй Буніна, жарсткаватай і няўмольнай, як лінія скрыпічнага грыфа. Але, мусіць, хопіць літаратуры. Ці не? Пакінем мо на другі раз. Ці пераключымся на літаратурны быт.

Мне тут нешта піша А. пра маю кніжку, якая лічыцца за Барадуліным. Дазнаўся, думаю, ад D. Прапаноўвае перадрукаваць. Прыслаў мне ,,Ядл[оўцавы] куст”, „Цень ад вясла” — гэта ўжо зажым. Каб расставіць гады напісання. Я хацеў усё гэта, як ты ведаеш, даверыць табе, але, можа, перадай частку клопатаў: і табе будзе лягчэй, і А., думаю, здаволіцца, бо, здагадваюся, нечага хоча ад мяне, нейкай літаратурнай помачы — „хітрая Мяндоза”!

Я не хацеў цябе турбаваць гэтым, ведаючы, што табе зараз не да таго, але калі ачуняла трохі, вазьміся кіраваць А. (во каб Барадуліным!)— можа, кніжку і агораем і паставім таго ж F. перад фактам. <...>

Наконт машыністак (платы) не бянтэжцеся: грошы я тут на машыністку зарабіў, а вершамі зараблю таксама. Адразу ж машыністцы (вам) прышлю. Вы толькі рабіце.

Фу! Пераскочыў гэнае гіблае месца — ну яго! Пісьмо сапсаваў. Ты ўжо даруй...

...Ну, добрай раніцы! Заканчваю пісьмо пры сонейку, пры чырыканні вераб'ёў. Нехта крычыць з вуліцы, што радыё абяцала Менску несусветнае надвор'е — аж да 16° цяпла! Во дзе шоргат на „Брадвей”! [Так у гады нашага юнацтва напаўжартам называлі сённяшні Скарынавы праспект — ягоныя мэтры ад Галоўпаштамта да скверу тэатра Янкі Купалы]. Во дзе віраванне і спакусы! Але нічога — маўчу. У нас недзе свая „першпектива” — уся ў лінейках-палках і надта сур'ёзных шчытах з не менш сур'ёзнымі заклікамі і папярэджаннямі, сентэнцыямі. Тут Бальзак (!), напрыклад, са шчыта вяшчае так: „Товарищ, помни, что один нерадивый заставляет о себе говорить больше, чем семеро примерных”. Як табе гэта падабаецца, гэты таварыш Бальзак? Я прывык. Я ведаю цяпер, напр[ыклад], што думаў Сервантэс (Дон-Кіхот?) наконт ветлівасці, Аміэль наконт марнатраўства, Даламбер (?) наконт выпіўкі. Во! Шмат чаго ведаю: калі-небудзь падзялюся пры нагодзе. Такім багаццем не падзяліцца грэх.

Усё, усё. Бывай здаровенькая, выстаўляйся на сонейка. Успамінай калі-некалі мяне.

Міхась.

27-28.IV.82”.

О, не — гэта не Міхайлаўскае, не Эрменанвіль, не Наан, не Спаскае-Лутавінава. Мазырская „фартэцыя”. А магчыма, каб лёс даў жыццё Стральцову, мы атрымалі б нешта накшталт „Нататкаў з падполля”. Не „Архіпелаг ГУЛАГ” ці „У кругу першым”. Але там была свая трагедыя. Свой побыт. Свае самаўсведамленні, пра якія можна толькі здагадвацца па лістах Міхася Стральцова. „Успамінай калі-некалі мяне”. Яму трэба было ведаць — яго памятаюць. Яму была край патрэбная ягоная кніжка вершаў. Пацверджанне таго, што ён не выкрэслены з літаратуры, з жыцця. Ён у кожным лісце піша пра грошы машыністкам — каб крый Божа не падумалі, што ён жабрак, што ён спадзяецца на нечую міласць. І нават такое, што магло б мне добра палесціць: „Зноў кажу: ты ўладальніца ўсіх маіх опусаў і воль”, — адношу больш да яго крыўды на тых, на каго ён спадзяваўся. „... што яму да тых, у каго не куецца, а плешчацца?” — з горыччу згадваў Стральцоў пра аднаго з літаратараў, дапамога якога недзе крышачку затрымлівалася.

Тым часам з'явіўся ліст, у якім Міхась відавочна скіроўваў эпісталярны сюжэт у ірэальнае рэчышча, з відавочным іранічна-здзеклівым запрашэннем падтрымліваць фабульную нітку. Закруціць яе ў якія карункі ці ў больш шчыльную матэрыю. А самае, можа, галоўнае тут — Стральцоў і Дастаеўскі.

А перад ім быў мой ліст — адказ на той, з цытатамі „маралістаў”.

,,Бач, Міхась, які я ненадзейны элемент. Не толькі не выканала павышаных абавязацельстваў, але і з нормай не справілася. Пішу адказ са спазненнем, не крыўдуй. У мяне таксама бывае, што няма вольнай хвіліны ні ўдзень, ні ўночы. Прыязджае „хуткая” да мамы ў дзве гадзіны ночы, у пяць ад'язджае, а ў восем раніцы выклікаю зноў. Сама яшчэ добра не акрыяла, пакуль на бюлетэні. А тут вясна, і розныя хатнія гаспадарчыя мітрэнгі. Тэмп усюды патрэбны, тэмп, а яго пакуль што няма. Хаця ты правы, у кепскім настроі з'яўляюцца нейкія думкі ў галаве, хай бы нейкі фанограф (?) занатоўваў. Але ж няма такога, дык пакуль схопіць рука пяро, дык усё з галавы вон, рука лена рухаецца і не ў тым кірунку.

А раніца... Харошы час... Ведаеш, люблю зусім сялянскую, на золаку раніцу. Гадзіны ў чатыры-пяць. Няўцямнае ружавенне дня — та-

кі ж прыдатны антураж для мройлівых прадчуванняў і адчуванняў. І для жорсткай канкрэтыкі засваення. І для тых галасоў, што гавораць: „Храни мечты, безумный, не знают умники таких прекрасных снов". Пераклад гумілёўскі трохі саладжавы. Але, чытаючы твой ліст, я адчуваю, чаму ўсё ж такі заўсёды паважала вялікага да знямогі Льва Мікалаевіча. Ён нават у сваіх пошуках і сваіх метаниях солидно-рассудительный, определенный, ён усё пра ўсё ведае, нават калі мае сумніва. Ніякіх згадак і загадак. Усё пэўна, моцна і як, скажам, у „Хаджы-Мураце", так выпісана, што знямець можна ад клічнікаў свайго ўласнага захаплення. Але не цягне, мабыць, „празарлівасцю натхнення" тых, каго прыгадваеш ты, няма той „смугі" ў чыстым рэалізме. Дарэчы, не так даўно перачытвала Буніна. І чытала б яшчэ. І суб'ектыўна лавіла б улоўнае і няўлоўнае за няўмольнай лініяй „скрыпічнага грыфа". Хіба не?

Хаця апошнім часам заўважыла — на набыццё штодзённай раўнавагі патрэбны жорсткі, чэрствы да прагматызму рэалізм, з немалой дозай скепсісу, парадзіравання — па брэхтаўскім метадзе, калі адчуваеш сябе адчужана-недатыкальна збоку і ўсё ж удзельнічаеш у падзеях. Ну, што-небудзь накшталт ужо згаданага „Крамнэгела" Пітэра Усцінава ці Стэйпбекава „Блукаючага аўтобуса" („The wayward bus"). Каб не вяртацца да старожкага юнацкага піэтэту перад лаканізмам таты Хэма, трохі страхоўкі на ўсякі выпадак не перашкодзіць. У пару таго піэтэту лепш было страхавацца антыснабізмам якога Мантэня.

Ну, панесла мяне — з калаўротнага побыту ў вір літаратурны. Без руля и без ветрил.

Пра літаратурны быт. Калі шчыра — тандэмы не вельмі люблю. І А. не ведаю суцэльна. А калі ён хоча літаратурных працэнтаў — не вельмі давяраю. Даведаюся праз тыдзень у Валодзі Паўлава [Уладзімір Андрэевіч Паўлаў — паэт, празаік, на тую пару загадчык рэдакцыі паэзіі) і Рыгора Барадуліна, што да чаго. Не тое каб я анархіст-індывідуаліст, але з эмпірычных рацэй ведаю, калі за што бярэцца некалькі людзей, ці не робіць ніхто, ці ўсе робяць адно і тое ж. Калі хочаш, каб удзельнічаў А., дамоўлюся з ім праз Паўлава і „далажу" табе.

Наконт новых вершаў. Гэта мая віна. Я аддала Рыгору (Барадуліну) тое ж, што ў „Полымя" і на радыё. Пісала табе пра гэта. Па правілах тое, што не друкавалася ў зборніках, не ідзе, здаецца. Але Барадулін гаварыў, што для цябе зробяць выключэнне. А паколькі Юпітару дазволена ўсё, чаму б табе не пабыць Юпітэрам?

А ты як-небудзь, уладкаваўшыся з прыстойнай літоўкай на хутары, не адмовіш у якім закуцце ці мансардзе (папросту — гарышчы) адной кабецiне, што не ўмее ніводнай сялянскай справы — ані жаць,

ані касіць, ані каровы даіць. Аднак паважае пленэр. І ўмее не рабіць клопату.

А за літаратурныя практыкаванні мясцовых педагогаў з дапамогай класікаў — дзякуй. Во распацешыў. Ну, не раскашуйся адзін. Адшкадуй і надалей блізкім.

Якія табе кланяюцца. Хочаш, магу зрабіць старасвецкі рэверанс? А не, дык проста развітаюся да наступнага ліста".

**„Вось і вясна. Каторая? Якая?.."**

„Каб ты ведала, які маршык ірванулі нейкія музыкі на подмасцях маёй душы, калі ўхапіў я аж два твае пісьмы, ты, можа, сумелася б і наперад засцераглася пасылаць мне лекі такога мацунку! Але ўсё абышлося, я застаўся жывы, і высветлілася, што ўвесь мой „состав частей" адрэагаваў на тваю дозу нармальна і як мае быць. Цяпер, наадварот, памяншэнне дозы можа быць згубным: мусіць, я ласы да такіх лекаў, як кот да валяр'янкі.

Жарты жартамі, а я пачаў быў непакоіцца ўжо, нават грызці сам сябе за гіпатэтычныя правіны. Думалася, ненаразуменне якое выйшла і ты пакрыўдзілася чаго, — рознае думалася. І што А. да ўсёй гэтай справы [выданне кнігі] прыліп, і што St., здаецца, не любіць яго, і што — чорт ведае што! Але ты азвалася — і стала лепей у мяне на душы. І ў думках нават пачаў заносіцца высока, на твае вышкі-гарышчы ў літоўскім фальварку, дзе ты будзеш бавіць час ці не на адзіноце з раманамі Ганны Радкліф. А што ж, дарэчы, пакідаеш ты мне? Ідылічнае шчасце з Пульхерыяй Іванаўнай, даруй, прыгожай пейзанкай, валаокай, як Гера? так? А чаму ты надумалася, што мне варта задаволіцца адной гэтай пейзанкай? Шырокі чалавек, казаў стары Дастаеўскі, і дадаваў, што ўкараціць яго было б не лішне. Нехта моліцца, а нехта грашыць? Не, так, паводле Дастаеўскага, не бывае. Ягоны чалавек і другую душу, молящуюся, побач, захоча прымусіць саграшыць — і не інакш як з сабой, і захоча „ачышчацца" разам з ёй. Праўда, перад „пейзанкай", як Раскольнікаў перад Соняй, можа і на каленях калі-нікалі пастаяць, але паляцець душой і іншымі помысламі да „мадонны" і будзе дамагацца, каб яна... Клеапатрай стала. Шырокі чалавек... Матыўчык Клеапатры Даст[аеўскі] у Ал[яксандра] Сярг[еевіча] добра ўчуў, а пасля „па-карамазаўскі" яго развіў — такі ўжо чалавек! Урэшт папсаваны татарскім, польскім, славянскім і Бог ведае якім яшчэ субстратам! А так — да пары да часу раманы Радкліф чытай. Пакуль мяне няма, дазваляю... Папалася, га?

Цяпер пра справы.

Зборнічкі я D. адаслаў, як і варыянты назваў да кніжкі. Туга думалася, наўдалыя яны, назвы, па-мойму, але, можа, адштурхнецеся ад іх і нешта прыдумаеце самі. [Пра гэта было вышэй — рэдактар кнігі Барадулін выбраў загаловак „Яшчэ і заўтра", пад гэтай назвай і выйшла кніга]. З датамі складана. Няўжо ад іх адмовіцца нельга? Калі нельга, стаўляйце любыя, у межах храналогіі дзвюх кніжак, пакінуўшы два гады перад першай. Якая розніца!

D. памагай, я сам у лісце, здаецца, прасіў яго пра гэта. <...>

А D. — апартуніст і цягамоцька. І майстар напускаць на сябе адміністрацыйны ці які яшчэ сур'ёз. Пішу гэта зусім не злосна, бо ведаю гэтую кампанію і не здзіўляюся, і было б дзіўна ёй інакшай быць. Сярод аплявухаў нейкіх, далібог, жывем. Усе яны вартыя І., хоць і прытвараюцца, што лепшыя. Можа, В. там толькі сур'ёзны чалавек, не сапсаваўся яшчэ.

Новыя вершы ім, вядома, пакажы: я хацеў бы, каб узялі што-небудзь адтуль. Не хочацца мне перадрукоўваць запар старое, а каб захаваць аб'ём, давядзецца. А ў ранейшым шмат такога, ад чаго я пазбавіўся б. Тое-сёе я знаў (у кніжках): паглядзіш у D.

Наогул жа, кніжку больш-менш прыстойную хочацца мець, а выд[авецтва] са сваімі фінансавымі ці яшчэ якімі меркаваннямі ў гэтым чамусьці не зацікаўлена. Так у нас бывае.

<...>

Кінуць бы ўсё гэта, ды вось бяда — позна, нічога другога не умею, а вучыцца другой навуцы калі? Ды і ранейшае такое-сякое ўмельтва, папраўдзе, растрачана ўжо, а таму спадзяванне на фальварак <...>: шукай яго на карце, заходзь калі-нікалі на аўтобусную станцыю, пытай у цётак і бабулек.

А пакуль будзем плакацца, як у гэтым вершыку, — ці не пра нас?

*Хоць ад пары, калі мяне*
*З табою вёрсты разлучылі,*
*Тваім паглядам не дый не*
*За мною тыя дні сачылі, —*
*Не, не прысніў табе такой*
*Я долі — сведка Бог ці сам я!*
*Што ж, дні пядружнай талакой*
*Ішлі і для мяне таксама,*
*Ды мне не рупіла, бадай,*
*І незнарок не падалося,*
*Што ўсё, што мог, я не аддаў*
*Твайму няспраўджанаму лёсу.*

*Я думаў проста: мы — сябры,*
*І што адна ты права маеш*
*На ўсе інакшыя дары,*
*І што мяне ты ўспамінаеш*
*З пачуццем лёгкім, як уздых,*
*Зімой па восені ці леце,*
*І што пачуццяў маладых*
*Нам не трымаць ужо на ўмеце,*
*Што разнасцежана акно*
*Табе адно, а мне — другое*
*І што табе з твайго відно*
*Хіба суцешнае адно —*
*І не відно нішто благое.*
*Я памыляўся! Не спяшаў*
*У лістапад і ў месяц квецень.*
*Так размінаецца душа*
*З другой душой — і плача вецер.*
*Як цяжка вымавіць „Люблю!”.*
*Даруй мне ўвечары ці ўранні:*
*Цябе аб гэтым пакаранні,*
*Нібы аб ласцы, я малю”.*

„Так разлучаецца душа з другой душой — і плача вецер” — гэта не так пра нас, як пра няспраўджанасць чалавечага жыцця, якое пачынаецца з крутога наіву, як згадалі б сённяшнія маладзёны, спадзяванняў, мараў. А потым захлынаецца, затоптваецца шэрай будзённшчынай, цягамотным „дзень пры дні”. „Твайго няспраўджанага лёсу” — назіранне жорсткае і справядлівае. Хаця — ці толькі да мяне яно стасуецца? Не так многа людзей, што маглі б, падводзячы папярэднія вынікі, пахваліцца спраўджаным лёсам. Гэта не суцяшэнне, „холодные наблюдения” і „горестные заметы”. І ўвогуле — пазней Міхась напіша: „адрасат праясняецца пазней”. Так што я адразу досыць адстаронена і „літаратурна” ставілася да вершаў у лістах Міхася. Безумоўна, атрымай я такі ліст гадоў у васемнаццаць, я ўсё ці амаль усё (скептыцызм заўсёды быў знішчальна-выратавальнай якасцю маёй натуры) узяла б напавер, але ўзрост даверу даўно адляцеў, як і шмат што ў жыцці.

Ці вабіла мяне пачуваць сябе гераіняй эпісталярнага раману? Былі не тыя абставіны. І ў Міхася Стральцова. І ў мяне. Хаця, мушу яшчэ згадаць, умовы гульні я прымала. І, прыхільніца парадоксаў Уайльда і Шоў, вельмі любіла п'есу Дж.Кілці „Мілы лгун”, паводле ліставання Бернарда Шоў і актрысы Патрык Кэмпбэл, і спектаклі па гэ-

тай п'есе (бачыла ў ім дзве бліскучыя выканаўчыя пары: А.Кторава і А.Сцяпанаву, Р.Плята і Л.Арлову). Напрыканцы 60-х — 70-х гадоў увогуле былі вельмі папулярныя розныя дзействы паводле ліставання: А.Чэхава і Л.Мізінавай, І.Тургенева і М.Савінай і г.д. Усё гэта было ў мяне „на слыху”. Але на тую пару, безумоўна, не думалася, што так недарэчна хутка лісты Міхася Стральцова ператворацца ў спадчыну. І не збіралася адшчыкваць лісце ад яго лаўровага вянка на бутаньерку ці, крый Божа, на літварыва. І зараз не маю такой мэты.

Згадаю яшчэ раз — умоўны, менавіта ўмоўны, не тэатральны, характар перапіскі мы разумелі абодва. І ў гэтым быў свой імпэт. Для кожнага з нас адрасат быў перш за ўсё — вобразам. Для мяне — багатым усім напісаным Міхасём Стральцовым. Для яго — пазначаным яго паэтычнай фантазіяй.

Мая галава была заўсёды тлумна поўная цытатамі. Я ведала — ён зразумее любы парафраз. А тым больш вядомых радкоў. Сваю кніжку крытыкі „Гарачы след таленту”, дзе адным з „герояў” быў Стральцоў, падпісвала яму: „Мы шли дорогой не одною, но... нас обманули те же сны”. Я не збіралася параўноўваць сябе з графіняй Растапчынай. А ў тым лісце мела на ўвазе няспраўджанасць калі не лёсу, дык мараў. Дарэчы, таксама, па-мойму, адна з прычын таго, што я стала адрасаткай ягоных лістоў — адтуль, з Мазыра: яму прасцей было кантактаваць з чалавекам „няспраўджанага лёсу”. Прынамсі — тым часам. Я не мэнчыла яго сваім prosperity.[1] І — гэта ён добра ведаў: мела пашану да зробленага ім. Не бурчэла — патрэбны раман, неабходна шматлогія...

У нас, калі тое не датычыла беларускай літаратуры, пра гэта згадвалася, вельмі часта супадалі густы. І было яшчэ агульнае — пра тое ніколі не распавядалася, але, мабыць, ён угадваў ува мне схільнасць да сузіральніцтва. Ну, а я не магла не ведаць гэтага, чытаючы Стральцова. Яго „русаізм”, яго адчуванне неабходнасці прыроднай аўры, яго „святадзействаў у гонар прыроднага кругазвароту” (С.Велікоўскі). Ёсць у Міхася Стральцова ў „Паўночным дзённіку” такое, памятнае: мы па-рознаму разумеем сябе ў прыродзе і жыцці: чалавек індывідуальны, прырода безасабовая і, да таго ж, абыякавая да нас, у жыцці мы перш за ўсё адчуваем сябе як асобу, усё ідзе ад нас, і ўсё вяртаецца да нас: мы як бы пасылаем сігналы і самі ж прымаем адказы на іх. Калі ж нешта псуецца ў гэтай добра наладжанай сувязі, яна перастае быць зваротнай... Бяжы тады, чалавек, бяжы, хутчэй ідзі да прыроды: яна безупынна шле табе свае сігналы, як сонца праменні...”

---

[1] Працвітанне, росквіт (англ.).

Ці была ў яго магчымасць там пабыць „на прыродзе”? У лесе? Наўрад. Таму, можа, з асаблівым настроем апісвае ён уяўныя падарожжы:

„Субота. Вецер усчаўся, мо на дождж, а ўдзень было цёпла, сонечна, і мне думалася, што за тваім домам ці за тваімі дамамі, на ўзлобіне ўзгорка, ужо дагараюць [у лісце так!], што на працу ты ходзіш паўз возера, памятнае з нейкіх часоў і мне, бо недзе там жыў некалі, што вось чамусьці ніколі не давялося нам з табой пабыць на прыродзе, хаця б у Каралішчавічах, і што як ехаць у Ракаў з нашага гарадского раёна [мы жылі ў адным раёне — за Кальварыяй], а ехаць можна любым самазвалам (у кабіне, вядома, бо з дваццатага кіламетра возяць у горад гравійку і пясок), можна тое-сёе ўбачыць па дарозе і спыніцца, дзе пажадае душа (той дарогай я ездзіў іншым часам па грыбы і нават на дачу да некага з лысагорцаў), што калі, не зварочваючы, дапяць да Ракава (гэта ўжо трэба аўтобусам), а там перасесці ў аўтобус мясцовы, — можна вельмі нават проста трапіць на лясную рэчку Лань, а там ўжо будуецца (мо пабудаваўся?) наш новы Дом творчасці — толькі справа не ў гэтым і не ў гэтым Доме, а ў тым, што там добрыя мясціны (ручаюся, бо неаднойчы там блажаўся і хадзіў), і што ты, каб захацела і каб захацеў перад тым пан Бог (а ён мог бы зрабіць так, што на пачатку восені мой цень слізгануўся б па менскіх тратуарах) — дык справа ў тым, што я мо шукаў бы сам сябра ў падарожжа за горад — мо па грыбы, мо так, дзеля душэўнай акрасы і цішыні — і мо ты паказала б мне такога чалавека, а каб аблегчыць табе задачу, я наперад скажу, што пажадана, каб гэта была жанчына, нечым вельмі падобная на адну тваю знаёмую, якая табе калі-нікалі падабаецца, а найбольш, здаецца, не, хоць ты ўсё роўна, нягледзячы на гэта, неразлучная з ёй, дык вось, гэтая жанчына бадай што спатрэбілася б у падарожжы мне — ты ёй скажы як-небудзь, пры нагодзе, пра гэта, га?

І пра тое, што яна скажа і як яна адкажа, мне адпішы.

А восень я паспрабую заказаць добрую.

Вось што я ўспомніў: у ранейшым пісьме не на ўсе твае дзелавыя пытанні адказаў — так загаварыўся, як цецярук.

Ну, вядома, В. абыдзецца без А., гэта зразумела. Так я і А., калі не памыляюся, пісаў. А з В. вы, думаю, паладзіце.

Яшчэ забыўся папытаць у цябе пра лёс рукапісу В.Івашчанкі. Паспрыяйце яму, як быццам бы мне, калі я хоць трохі ў вашай рэдакцыі чаго варты. Гэта харошы і сур'ёзны чалавек, крытык харошы, ведаеш сама. Ён, па-мойму, трохі баіцца рэдактарскага самаўладства, але гэта, па-мойму, не амбіцыі, а натуральны стан і рэакцыя сум-

леннага і пісьменнага крытыка. Так што не надта гладзьце супраць шчацінкі. Дальбог! Ну зрабіце! Мяне вы ўсё роўна не выдаеце, выдавайце хоць тых, каго прыемна будзе чытаць.

Ага, вось: пакуль той фальварак, дык у мяне, можа, свая хата будзе. Гэта, каб у „прымы" не ісці. А да сябе ўзяць каго хочаш магу. І не буду гаварыць, што гэта мая хата". <...>

Івашчанка — гэта маскоўскі крытык, які на тую пару надаваў вялікую ўвагу беларускім літаратарам, пісаў і пра Стральцова, у прыватнасці, прадмову да зборніка прозы ў перакладзе на рускую мову „Журавлиное небо" (бібліятэка часопіса „Дружба народов"), на тую пару выходзіў ягоны зборнік „Кругі надзеі і дабра". А кніга крытыкі Міхася Стральцова „Пячатка майстра" выйшла ў 1986 годзе. І — што ўтойваць — цягнула я з Міхася Лявонцьевіча гэты рукапіс, і просячы, і молячы, і пагражаючы. Пакуль не прынёс стос газетных і часопісных выцінкаў — і складваць, і аддаваць машыністкам на перадрук, і вычытваць: гэты гонар ён надаў мне, рэдактару. Была, была ў „абранніка сонечнага Феба" гэтая звычка, ён не любіў чорнай працы, чарнавых штудый. Было ў яго літаратурнае сібарыцтва. А хутчэй — яму і сапраўды быў патрэбны сакратар, памочнік, чалавек, які рабіў бы тэхнічную працу. Мабыць, такі чалавек быў яму патрэбны, як і свой, калі не маёнтак і не фальварак, дык ціхі, добраўпарадкаваны закутак. Хата ў цішы. Разуменне. Паразуменне. І — свабода ад заняткаў, так бы мовіць, „не эзатэрычных".

І гэтае, зусім звычайнае для другіх і лёгка спраўджанае для іншых жаданне: мець хату, было таксама, нагадаю зноў, на жаль, толькі ідэяй-фікс. А ён трызніў той хатай. Гасцяваўшы, пасля звароту, на чужых дачах. Дарэчы, калі мы ездзілі ў 1987 годзе ў вёску Сычын, хата яго дзяцінства была пустая. Там ніхто не жыў. Але, мусіць, не ў яго натуры было б месціцца так, каб заўсёды быць на вачах, пад пільнай увагай вяскоўцаў, а падсвядома, можа, хацеў быць бліжэй да Менска. Аднак ці не гэтую хату ён меў на ўвазе ў лісце? Пазней у пісьмах згадваў: і печы б паліў, і дровы б цягаў, і ваду насіў... І глядзеў бы на вясёлы ці роздумны агонь у камінку. Пазіраючы на „ўзор прыгожы пекных зор". На самоце. Так. Але, мне здаецца, самоту ён любіў, але адзінота не была яго марай. Бачыў ён сябе хутчэй — з Ёю. Хто — Яна? Межы асабістых адносін і ўяўнага, прывіднага ён не пазначае. Падзеі жыцця і падзеі ўяўленняў — яны набліжаюцца ў яго і перакрыжоўваюца. Ці — верагодна! — ён пазначае новы твор! Пра ўзаемаадносіны і ўзаемадачыненні жынчыны і мужчыны. Лісты з другога боку — гэта як чытацкі водгук. Даходзіць!

„Дзень добры, даражэнькая!

А ведаеш, мне спадабалася, як ты паказала кіпцюрыкі ці прыняла гэткую фехтавальную пазіцыю перад m-me Vt, і (о, женщины!) характарыстыкі праніклівыя і вычарпальныя, такія, што ад літаратурнай удавы спачатку як бы дух адлятаў, а потым і спружыны ўсе, жаласна бомкнуўшы, вонкі. Ну то няхай! Як я зразумеў, m-me ў Саюзе на кафедру ці амбон узнімалася, а цыганаваты падшыванец за якой парцьерай хаваўся? І Гамлета на гэтага Палонія не знайшлося?

Мне дык трохі, прабач, і смешна. Не ведаю чаму, а У., акрамя смеху, можа, дурнога, чамусьці нічога ніколі не выклікаў у мяне. Нешта, што пнецца раздзьмуцца да памераў вала. І дапяў-такі да параўнання з гэтым боскім стварэннем у працавітасці — нейкай і нуднай, і асуджанай, і знябытай: вол вось так, мусіць, і нудна працуе, і нудна жлукціць ваду.

*Ваду ты пі, ваду ты пі —*
*Да скону века.*
*Ды толькі ў ёй ты не тапі*
*Сучалавека.*

Там у іх, па-мойму, хіба з D. парагатаць ці пагаварыць можна. За адно гэта не шкода і намякнуць яму іншым разам, але „хітра", як бы прымаючы правілы пэўнай гульні, вядомай табе і яму, што ад балярына Льва ён розніцца хіба адсутнасцю мужыцкай барады („Ну, мужыцкае, браце, у нас ёсць — і да барады ягонай ёсць!"), а таксама ж надта таленавітых сыноў („Мая Танька і шамякінскую заткне!"). І, пагладзіць жывот, свіркне акулярамі ў адзін бок, у другі, а потым задзярэ голаў і па-блазенску хапне ротам паветра — і так будзе на цябе глядзець: во мы ім!

<...>

Во ім! Весялей, між іншым, і сама глядзі на свет. Мне дык гэтага пэўна жадаеш, інакш не скіроўвала б нечы позірк і імпэт на Дульцыней і Флор розных. Хто яго ведае. „Мне бы лучше вон ту..." — ці заўсёды гэга апраўдвае сябе, га? У прастаце так званай ёсць нешта, ад чаго можна звар'яцець. Вельмі проста, што там, магчыма, разгадка, я згодзен, але ж чалавека, зноў жа, так нехта згламаздаваў, што ён сам сабе пры гэтым проста не паверыць і ўсё адно будзе шукаць нечага яшчэ на згубу сабе. Чалавек, між іншым, прастаты баіцца, хоць і жадае яе. Я табе гэта спасылкай па строга навуковае вызначэнне жыцця дакажу. Яно вызначаецца (жыццё) таўталагічна: жыццё ёсць жыццё. І не болей. Які-небудзь сэнс ці тым болей ідэал, мэта — крый Божа. Гэта, мусіць, праўда, але паспрабуй перакана́й у гэтым „гуманітарнага" чалавека! Так і я ў Дульцынею, і ў Флору тваю не веру, я ў яе

веру толькі у той момант, можа, калі чалавек „истекает звездными хлопьями”, як сказаў нехта. Прырода тут пастку добрую паставіла, гэта праўда. Але ж гэта толькі імгненне, а мы, каб не звар'яцець ад усведамлення жахлівай „хрупкости” гэтага імгнення, прыдумалі мастацтва, культуру і г.д., і г.д. Каханне само сабой — вось табе! І не вернется адсюль. І таму не палохай мяне ні „разумнасцю”, ні Дульцынеямі не суцяшай. І адкуль ты ведаеш, між іншым, што табе трэба спакой — і прытым такі, а не гэтакі? Кінь, кінь, даражэнькая!

Але ж мы і ў філасофію з табой залезлі! На сёння даволі, можа. Я табе пялёстак „ириса”, калі не намыляюся, прышлю. („Флоренция, ты ирис нежный” — у Блока.) Можа, дойдзе?

Пра справы напішу ў другім лісце, згода?

А ты б мне здымак свой прыслала, ці што? Не смейся. Я хваліцца ім не буду. Тут гэта і не банальна, можа, — не хваліцца, а здымак. Гэта тут толькі, мусіць, можна зразумець. Я табе пасля вярну, калі захочаш. А свой я так ці інакш прышлю да кніжкі: ты на мяне цяперашняга паглядзіш і вырашыш, ці трэба яго даваць (перамелаваць). Хаця там, можа, і другога малююць, хе?

Пішы і паветраныя ванны ці душы (як іх там завуць?) прымай. Патрохі і паступова. І вады не бойся. Каб не баяцца, У. чытай.

3.V1.82

Міхась”.

Дульцынеі і Флоры — мае, усё пра тое ж, згаданыя вышэй, напаўжартам, напаўсур'ёзам, згадкі, як ён кіне ўрэшце сваё вымушанае паселішча і атабарыцца на хутары, на ўлонні прыроды, з якой Чароўнай Дамай будзе ствараць шэдэўры. А я калі-небудзь завітаю да іх, і яны адшкадуюць мне на пару дзён гарышча ці прынадную мансарду, і я буду пацiху піць слодыч вясковага паветру і суцэльнага жыццёвага спакою: nihil habeo, nihil euro[1]. Тым часам я прайшла працэдуру прыёму ў Саюз і „живописала” яму нейкія фрагменты таго „дзейства”. Здымкі мы не адсылалі — яны таксама засталіся ў той, не пазначанай канкрэтнымі рэаліямі ўмоўнай прасторы нашага ліставання. Як у тэатры — калі нехта падносіць шклянку да вуснаў, гэта зусім не азначае, што ён нешта п'е.

Стральцова для кнігі маляваў мастак В.Вецік па старым здымку, я на тую пару не фатаграфалася гадоў сем, а то і дзесяць. Былі выпадковыя, аматарскія адбіткі, больш з нейкімі людзьмі. І ўвогуле я вельмі рэдка прэзентавала здымкі. Ці то ад сціпласці, ці то ад за-

---

[1] Нічога не маю, ні пра што не маю клопату (нічога не баюся) (лац.).

сцярогі. Хто яго ведае — як той здымак будзе глядзецца заўтра? Калі адыдзе вось гэтая неабходнасць — перамаўленне графічна выяўленымі словамі?

А пакуль перамаўленне было звычным, нібыта гаворкай — з некім, а і з самім сабой. Я ўжо пазначала — у яго ўвогуле была такая звычка гаварыць. Так пісаліся лісты: нібыта мне, нібыта, як ён сам пісаў і пра што згадвалася, — дыярыуш ствараўся.

Anno Domini[1] 1982.

„Дзень добры, Ала!

Аж самому няёмка, што так надакучаю табе пісьмамі, — і гэта я, катораму яшчэ нядаўна старонку Дзюма (во дзе кара!) было б алолець лягчэй, чым адказаць каму-небудзь на ліст або напісаць па сваей ахвоце. Таму будзеш думаць, што ўплываеш ты на мяне дабратворна, калі змагла збудзіць ва мне гэтую, я думаю, атавістычную страсць або хэнць. Я, можа, глядзі, і раскалыхаюся душэўна, а ты, значыцца, як гаварыў незабыўны Броўка, а ты пішы, а ты пішы...

І па тэатрах, вядома, хадзі, не надта турбуючыся, што паселіш у маёй душы чорную зайздрасць. Тэатрал я невялікі, мне ўсё роўна, хадзяць больш у тэатр ці кіно — або наадварот. І хто там каго пераможа, якая дзесятая ці адзінаццатая муза — мне справа сапраўды дзесятая. Сучасны тэатр не ведаю, не бачыў, вядома, нічога з рэжысёрскіх феноменаў Грашэўскага (?), панявежцаў якіх-небудзь нават не бачыў, не ведаю, што там выраблял у сваім тэатры Любімаў, а вось з ягоным вучнем Раеўскім (так ён сябе называе) рабіў Купалу, бо тут сапраўды было нешта (у Купалы) ад „паэтычнага" тэатра. І спрэчкі розныя пра дыктат рэжысуры і акцёрскае самавызначэнне неяк абходзяць мяне: я не за надакучнае выдыганне і выкаблучванне аднаго правінцыйнага Рэйнхарда перад другім, я і не за „салонны" нейкі рэжысёрскі стыль, асабліва ў трактоўцы класікі, як і не за аголены мадэрны; а проста ўбогі, т.зв. сучасны. Я быў бы проста, можа, за тэатр, але што гэта такое? Жорсткія псіхачагічныя канструкцыі Раеўскага пры абструганым ці неабструганым дэкоры якога-небудзь Герлавана? Палавінчатасць Луцэнкі? Луцэнка трохі як бы на маіх вачах рабіў „Раскіданае гняздо" — там было тое-сёе, але нейкай лініі, нават рэжысёрскай, ён не дабіўся, што амаль заўсёды робіць Раеўскі, хоць і рацыяналістычна вельмі — так, што глядач бачыць часам адваротнае таму, што ён хацеў.

---

[1] У лета Божае (лац.)

А так, я не ведаю, дзе той сучасны тэатр і дзе той стыль. У макаёнкаўскай „Верачцы" хіба? Даруйце. На санвузле, прабач, і якая-небудзь Пегі сучасная глядзіцца не надта каб, а тут яшчэ Пульхерыя нейкая Іванаўна, чамусьці завецца аж Арынай Радзівонаўнай. Авохці нам!

Гэта, вядома, не значыць, што я не хацеўбы, скажам, пайсці з табой у тэатр — хоць на „Запарожца за Дунаем" — калі ласка! І людзі няхай ходзяць у тэатр і ў кіно і на танцпляцоўкі, ці на „карчы", як іх называюць у парках".

Тэатр і кіно засталіся „незасвоенымі" творцам Стральцовым. Пераклады, кінапарафразы — і ўсё. Апошняй яго вясной вяліся, здаецца, перамовы наконт экранізацыі аповесці „Адзін лапаць, адзін чунь". Ажно нешта не чутно, каб што рабілі. Адышоў майстар? Але ж твор застаўся. Хаця... Можа, і добра? Калі не ўдалася інтэрпрэтатарам Караткевіча данесці Дух яго ўсё ж вострасюжэтных (!) твораў, дык ці ўдалася б каму „падняць",ператварыць у зрокавыя, відовішчныя вобразы найтанчэйшую філасофскую лірыку Міхася Стральцова?

Што да „стылю", пра які згадвае Міхась Лявонцьевіч, дык што памеркаваў бы ён, калі б дажыў да 89-90-91-х гадоў? Калі ўжо рэалізм выйшаў не толькі з берагоў, не кажучы пра каноны, а паставіў за мэту рабіць такія кульбіты з норава і характараў нашага часу, што Нагорная казань прамаўляецца побач са споведдзю — не, не сучасных Магдалін (гэта ўжо занадта высока — было ўсё ж пакаянне), а нейкай сённяшняй пароды дачок Евы, якім не ўласцівыя ні гонар, ні сорам, ні пакаянне. Хаця — прычым тут сучаснасць? Усё гэта было вядома да з'яўлення Нагорнай казані... Проста час ад часу ўсё гэта плыве на паверхню, палонячы жыццё.

Але... Гэта было ў 1982-м...

І ў траўні 1982 года я пісала Стральцову:

„Любите ли вы театр?"

Розныя былі ўражанні тэатральныя. І не толькі... Былі і нейкія памкненні...

На першых курсах у тэатр амаль не хадзіла, складана прыжывалася на асфальце. Затое курса з трэцяга і пазней, у 60-70-я гады, была аматаркай тэатра, і вялікай. Тэатра Мілцініса ў Паневежысе не бачыла, але да „Ванемуйне" ў Тарту дапяла. „Давалі" на тую пару (недзе 76-ты) „Танга" тысячу разоў забароненага тады Славаміра Мрожака. Чытала допісы і самога тартускага жраца Каарэла Ірда. У Маскве, як здаралася наязджаць, хадзіла ў тэатр нават по два разы на дзень,

глядзела ранішнія і вечаровыя спектаклі. У нашых, купалаўскім і горкаўскім, чаўплася бясконца. Дарэчы — чаму ён горкаўскі? А не Буйніцкага? Кумельскага? Кістава?

А гастролі! Гастролі! Акімаўскага, Ленінградскага — „Дон Жуан”, з Варапаевым, „Здань” Я.Шварца, „Дванаццатая ноч” У.Шэкспіра! А тэатр Маякоўскага! У 60-я, пры Ахлопкаве, і адразу пасля яго смерці. А „Мілы лгун” МХАТа з А.Сцяпанавай і А.Кторавым! Ці той жа „Лгун” — у Массавеце — з Арловай і з Плятам!

А ў 1972 годзе я была ў Ленінградзе, у бібліятэцы, ледзь не месяц! І бачыла на свае вочы амаль увесь рэпертуар Тэатра на Таганцы! (Некалі я рабіла добрае ўражанне на тэатральных касірак і адміністратараў і заўсёды не падабалася прадаўшчыцам.) Дык, між іншым, твой улюбёны Раеўскі мне падаецца звычайным плапатарам. У „Лесвіцы славы” ён, як шкаляр, „здзёр” нават усе прыёмы, усе мізансцэны свайго настаўніка Юрыя Любімава (з яго спектакля „Тарцюф”). Але — гэта мне падаецца. Як і Луцэнка здаецца больш прафесійна моцным. Я іх не ведаю асабіста, таму нейкія ўражанні тут не дадаюцца. [Пазней погляды мяняліся — але гэта пазней.]

Былі ў мяне нейкія асабістыя ўяўленні — не ў „рэчышчы” тэатральнай думкі. Памятаю, вельмі спадабаўся „Шакаладны салдацік” паводле Шоў у надта ж на тую пару не модным (сярэдзіна 60-х) тэатры імя Пушкіна (маскоўскім). І таксама — у пастаноўцы Барыса Равенскіх першая дзея „Дзён нашага жыцця” паводле Андрэева. П'еса меладраматычная, такі перафраз „Дамы з камеліямі”. Але першы акт — студэнцкая Масква пачатку XX стагоддзя, быў з такім настроем... Рамансы, песні. „Ах, Москва, Москва, Москва, золотая голова...” Усё залацістае, спеўнае. Не вясёлае — радаснае. Памятаю, пад уражаннем гэтага спектакля я трапіла ўпершыню ў Маскву. Надарыўся выпадак — мужа маёй сяброўкі перавялі туды рабіць, і ён замовіў мне месцейка ў гасцёўні на ВДНХ: ложак у пакоі на 6 чалавек — але ж калі я там была, у тым пакоі! Яшчэ быў жывы стары Арбат, Замаскварэчча, яшчэ тэатральную „браню” выкідвалі дэмакратычна, усім, за паўгадзіны да пачатку спектакля. А з Вераб'ёвых гораў была відаць „златоглавая”. „Галоў” было меней, як у часы Леаніда Андрэева, але ў вераснёва-кастрычніцкую пару яны гарэлі ясным, нейкім светаносным полымем. І хаця маёй каталіцкай душы заўсёды бліжэйшыя вострыя гатычныя шпілі (касцёл святой Ганны ў Вільні, шпілі старой Францыі — памятаеш, дарэчы, Гогалевы „Арабескі”?), імкненне да Боскіх вышыняў — нястрымнае, як лёт стралы, але і гэтае запаволенае, скругленае, нібыта з прыпынкам, узвышэнне да парафій Боскіх, таксама

не чужое мне, і эстэтычна, і духоўна. А тады гэта было першым уражаннем ад Масквы.

Між іншым, каля Масквы таксама ёсць прыгожыя мясціны: Кускова, Архангельскае, Суханава. У Маскву я заўсёды трапляла ўвосень, у верасні — кастрычніку, ці адноечы — увесну, у красавіку. Люблю няпэўнасць, „отточие”, шматкроп'е міжсезоння. Але жыць у Масковії і ў Маскве я ніколі не здолела б. У 1974 годзе трапіла на курсы павышэння кваліфікацыі (так яны зваліся). Між іншым, з лёгкай рукі Міхальчука [Сяргей Апанасавіч Міхальчук — дзіцячы пісьменнік, тады загадчык рэдакцыі літаратуры для дзяцей малодшага ўзросту ў „Мастацкай літаратуры”]: ніхто з загадчыкаў і старшых рэдактараў — а павінны быў быць гэты службовы ўзровень — не меў ахвоты цэлы месяц сядзець у інтэрнаце ў Маскве, без аплаты камандзіроўкі (аплочваўся толькі праезд). Дык вось я зноў бегала па тэатрах і музеях Масквы. Ажно недзе праз тыдзень адчула, як мне на заляла і славутае „округлое” аканне, і рэдукаваныя, і „шаканне”: „Эт, стрелашник, эт, стрелашник, эт, стрелашник винават”. Перадаю табе, так бы мовіць, транскрыбіраваны запіс. Неяк і снабізм маскоўскі — „трэці Рым” — раздражняў, і звышкамунікабельнасць лезла ў вочы і вушы. Адным словам, не хацела б там жыць. Не дай Божа, каб давялося. Не, не маё. Чужое. Няўрокам не кажучы пра гэтыя бясконцыя сцвярджэнні пра абранасць нацыі, пра месіянства, пра звышідэю, якою „осиянные” толькі расейцы.

А ў Пецярбургу была адноечы ў чэрвені (у нябачаную там спёку — 30 градусаў), другім разам — у асеннюю, ужо лістападаўскую слоту. Праўда, у 1972 годзе да гарачыні я ставілася як кіплінгаўскі салдат. Проста канстатавала — 30 градусаў. І ўсё. Не адчувала ніякага дыскамфорту. І ездзіла ў Пецяргоф, у Царскае Сяло. Блукала па вулачках, мастках, вуліцах.

А з тэатрам у мяне яшчэ і курёзны ўспамін ёсць. Пару разоў я падбівалася нейкія рэцэнзійкі тэатральныя пісаць. І вось з'явіўся мой водгук (назаўтра, накрэмзаны за якую гадзіну пасля спектакля, ураніцы надрукаваны машыністкай, сваёй машынкі ў мяне яшчэ не было) і ў дзесяць гадзін пакладзены на стол у рэдакцыі. Рэцэнзійка каму спадабалася, каму — не. А я вырашыла накідаць партрэт аднаго акцёра, больш цікавага як характарнага, хаця цяжкавата імкнуўся ён да хлеба амантаў.

Дамовіліся сустрэцца перад спектаклем. Ён прыходзіць з шыкоўным букетам кветак. Я (капрызліва-звычным тонам свецкай ільвіцы і загартаванай газетнай ваўчыцы): „Здаецца, крытыкам не прынята дарыць кветкі”. Ён чырванее (я, пра сябе: бач ты, як я хвацка яго ча-

панула!) і аддае мне… палову букета. Трошкі здзіўлена, але зюзюкаю яму свае пытаннічкі. Запісваю. Задаволеная — да таго мне неяк толькі аднаечы даводзілася браць дзяжурнае інтэрв'ю ў Барыса Платонава напярэданні гастроляў купалаўцаў (недзе на трэцім курсе бегала на радыё падрабляць — хацела перавесціся на журфак). А тут я ўжо зусім сталы чалавек — неўзабаве павінна стукнуць ажно 22 гады. Акцёр ідзе рыхтавацца да спектакля, я гэтуто гадзіну хаджу чыннаважна па парку. Пры выкананні абавязкаў. Не дзе-небудзь: у тэатры. Гляджу спектакль. З цікавасцю гледача. І ажно нямею ад заклапочанасці. Крытык. Тут усе адпачываюць, а я вось — раблю.

Канец спектакля. Апладысменты. Адзін выхад акцёраў. Другі. Трэці. Мой герой з'яўляецца са знаёмымі кветкамі… і перадае іх інжэню, галоўнай гераіні. Сваёй жонцы, як высвятляецца. Зараз чырванею я. Здаецца, да пятаў. „Крытыкам не прынята дарыць кветкі”. Такі, мабыць, не прынята. Чырвань тая палымнела на мне доўга… Інтэрв'юерка…

Пазней я нават зграмаздала нейкі абразок — апавяданнейка. „Інтэрв'ю”. Але нікому яго не паказвала.

Цяпер я радзей хаджу ў тэатр. Ці гады матчынай хваробы даліся ў знакі, ці што… Але — люблю. Кніжкі да гэтый пары купляю. „Тэатральныя”. Вось нядаўна прыдбала 7 тамоў Станіслаўскага ў букіністаў.

Люблю і так званы рэжысёрскі тэатр. Усе фокусы а ля Пітэр Брук, Меерхолд ці Брэхт. І акцёрскі — таксама. Люблю добрых акцёраў. На сцэне. Інтэрв'ю больш не бяру.

Даўно ўжо трэба спыніцца. Бачыш — старая любоў. Тэатр…

Бывай.

А.С.

P.S. „Актеры, правьте ремесло…”

І Стральцоў на пачатку лета, 7.06. адказваў.

„Пісьмо маё ў адказ на тваё ранейшае, якое так узнепакоіла цябе, ты, мусіць, атрымала і, значыць, ведаеш, што першая прычына непакоіцца адпала… Другая — а ці не сказаць і мне нешта падобнае да твайго? І я табе, можа, нечага нагаварыў, хоць, не ў прыклад табе, раскайвацца ўсё ж не буду — не! Хочаш сячы галаву, хочаш злітуйся. Апошняе, вядома, было б найлепей.

Пішы. І не бойся быць разбэрсанай трохі. Каму ж гэта не дазваляецца, як не жанчыне? <…>„

Ну, вось што я ўжо ўмела — таленавіта, геніяльна — быць разбэрсанай. Можа, таму, што заўсёды была занадта зацугляная працай — за сябе і за іншых. І ўся самадысцыпліна ішла на гэта. Бо той самы ўлюбёнец Міхася Стральцова гаварыў: „Плоды вдохновенного досуга, вдохновенного труда”. „Досуга” — у мяне яго ніколі не было. Служба. Служба. Служба. Абавязкі. Абавязкі. Абавязкі.

Вось і Міхась у адказ на мой ліст пісаў:

„Справы, справы, справы...

Мне тут, па-свойму, дальбог, лепей. І тут ёсць розныя справы, і, можа, нават замнога іх, але ўсе яны ў адным зададзеным рэчышчы. І, значыцца, той, хто прадвызначаў і планаваў іх (не я, вядома), думаў, можа, і аб нейкай карысці ад усяго гэтага, а калі яе няма або не можа быць, дык няхай гэта будзе на ягоным і сумленні, і сумненні. Не на маім жа! Во дзе „апартунізм”, а ты яго бярэш на сябе!

Так, справы... Найпершая мо і найлепшая справа — грызціся за сваё права быць самім сабой, а гэта немагчыма, на жаль, інакш як праз эгаістычнае сцвярджэнне сябе, і гэта зноў жа, не здзіўляйся, найбольш магчыма якраз у мастацтве — гуманным паводле мэт і выніку і эгаістычным паводле спосабу здзяйснення. Гогалі і Чэхавы разумелі гэта, плоцячы за такое разуменне дарагуго цану. Чэхаў, праўда, востра адчуваў гэтую цану во ўсім іншым, “кукарэкнуў” у другім — узяў ды жаніўся. Ма Па [Марыя Паўлаўна — сястра Чэхава], здаецца, не магла яму дараваць. Як адданы і па-жаночы разумны чалавек, яна ведала, што дабром тут не скончыцца — не скончылася, вядома.

З усяго гэтага вынікае, што нам варта калі-нікалі задумвацца, як казаў Прокша, „ці варта было жаніцца”.

Як табе падабаюцца мае развагі?

Гэта яшчэ толькі развагі пра „справы”, а справы, чакай, будуць. Ну, па парадку. В. я, здаецца, пісаў пра некалькі вершаў, якія даслаў у „Лім” — там, здаецца, абяцалі даць. Мусіць, пра гэта ён і ўспомніў. Пачакайце „ЛіМа”. З іх ты, ведаеш, здаецца, адзін той, які я апошнім часам даслаў табе. Іншае — я ўспомніў вершы старыя (яны валяюцца дома недзе) і так-сяк іх узнавіў — не ўсе, імі я не задаволены, але проста хацелася абазвацца неяк, а тваю падборку (заўваж, тваю) я не хацеў разбураць: паглядзім, што зробіць з ёю Вялюгін.

Чакайце „ЛіМа”.

Рэцэнзіі мае ніяк не робяцца. Адбіў усялякую ахвоту К., а можа, раззлуюся і напішу. Цьфу! Перасілю цябе. У „ЛіМе” таксама абяцаў нешта пра Р., бо прасілі. Таксама цяжка будзе пісаць. І прасілі яшчэ ў

мяне ўспаміны, сюды даслалі — Броўчыха і сястра Еўдакіі Лось. Напісаць можна было б, але час... Усе мае (амаль усе — бо не паверш) кволыя літздольнасці і скупыя вольныя хвіліны забіраеш ты — і я рады гэтаму, нягледзячы на тое, што Адэсай ты шкрабанула-такі (не назнарок?) мне па сэрцы. Але я цярплю, хоць адразу ўспомнілася і як ты хацела мяне сплавіць „пейзанцы”.

І гэта я так гавару пра справы!

Ну добра, будзем пра справы.

Вялюгіну паспрабую напісаць — толькі куды, у рэдакцыю?

Хатняга адрасу я не помню. Прышлі.

Вадзіму (Вадзім Браніслававіч Спрынчан — паэт, на тую пару рэдактар аддзела паэзіі выдавецтва „Мастацкая Аппаратура”) пра мяне напамінай. <...>

Івашчанка твой ліст атрымаў — задаволены Калі дазволіш, папрыспешваю яго. Наогул яму памажы.

Вось, слухай: хачу я, калі выберуся адсюль, уцячы у Масковію. Бачу, што фальварка ў нас не агораецца, застаецца нам адной перапіскай жыць і паважацца на адлегласці. Жаніцца там не буду, але, як Крупенька [Яўген Крупенька — паэт], у прымы мо дзе прыстану. Як ты думаеш, ці возьмуць?

Во што такое старасць!

Што табе напісаць яшчэ? Адчуваю, што я нешта сёння „перастарэкаўся”, як кажа Брыль. А пісаць стаў, як У., — ці адчуваеш? Я ўсё ж, як ні кажы, „в затворах”, а ён, У., ля афіцыянтак у Саюзе крэкча і аблізваецца, як памаўзлівы кот, з Bs. праблемы адзюльтэра сучаснага па дзве гадзіны ў дзень на праходках ранішніх і вячэрніх вырашае, дык хіба яму „перастарэкацца” можна — скажы? Гэта мне ўжо хутчэй даравальна, хоць, праўда, недаравальна, як У., пісаць.

Лепш ужо зусім не пісаць, што я і раблю — не без поспеху.

Спытай у акына Шаха [Шахавец Уладзімір Міхайлавіч — празаік, на тую пару загадчык рэдакцыі перавыданняў у выдавецтве „Мастацкая літаратура”], з чаго (ці з каго?) яны мяне збіраюцца маляваць (для кніжкі, калі тое будзе). А то я сапраўды ім здымак адсюль прышлю: валасы нам 2 см дазваляюць, кляйма на ілбе няма, ноздры не вырваныя, а гольф я ў каго-небудзь, хто на волю будзе ісці, на 5 хвілін, каб сфатаграфавацца, пазычу.

А ты здагадвайся, да чаго я ўсё гэта вяду і на што „намякоўваю”.

Бывай. Міхась. 12.VI.82”.

Рэцэнзіі Міхась Лявонцьевіч так і не напісаў. Не перасільваў сябе, не высільваўся. Ахоўваў усё ж перш-наперш „права быць самім

сабой”. А чэхаўскае „кукарэканне” згадвалася нездарма, вядома. Былі, мабыць, асабістыя падставы меркаванні тыя мець. Але хто ж з вялікіх так ці інакш не „кукарэкнуў”? І ці быў выключэннем Міхась Стральцоў? Але зноў жа, згадаю яшчэ раз — жонка ці каханка таленту — гэта таксама талент. Некалі не чуць, не бачыць, не ўмець слова вымавіць. Некалі — чуць тое, што не было прамоўлена, бачыць тое, чаго не было, мовіць словы, калі вусны сцятыя крыўдай і няўладзіцай. У Міхася Стральцова таксама была свая чалавечая гісторыя, свае, так бы мовіць, „вытворныя множнасці”, свая непаўторнасць выпадкаў і фактаў. І зямны шлях ужо перакінуўся на другую палавіну — для Стральцова да крыўднага малую палавіну... Хаця ён разумеў гэта і не меў ахвоты разумець. Ён быў паэтам... Ён марыў пра Вялікае Каханне і не страціў надзеі на яго.

*Вось і вясна. Которая. Якая?*
*Каторая — у лесу запытай.*
*Якая — што за марамі блукае?*
*Лепш не пытай, а лепш душой адтай.*

Міхась Стральцоў верыў і не верыў, мабыць, у гэтыя вёсны. Кожным выпадкам любіў і адчуваў існасць існавання. Верыў у вялікую сілу Быцця.

*Ускраіна абвалаклася дымам.*
*Гараць, гараць бадылле і лісцё.*
*Пад гэтым небам, сінім і любімым,*
*Не верыцца чамусьці ў небыццё.*

Але гэта было пазней — а туг пакуль быў камуфляваны іроніяй адчай: „кляйма на ілбе няма”, „ноздры не вырваныя”... Таму і мае лісты на тую пару важылі нашмат больш іх рэальнай чалавечай каштоўнасці. Ён прайшоў праз страшэннае прыніжэнне і, здаецца, захаваў відавочную ці пакрыёмую крыўду за яго. Але — ці вярнуўся б ён да ўнармаванага жыцця, каб не Мазыр? Не ведаю. І не кідаю камень абвінавачвання тым, хто спрыяў ягонай „ссылцы”. Быць з ім побач, калі ён раскалыхваўся адчайна на арэлях жыцця: узлёт — бездань, было, мабыць, вельмі няпроста. Хаця — я асабіста не змагла б даць такой рызыкі: здаецца, усё гэта было зроблена прымусова і не самым далікатным чынам. Маю на ўвазе выпраўленне ў Мазыр.

Так ці інакш і гэта адбылося. І Стральцоў лічыў дні ў сваёй высылцы.

## „Паклічу мару...”

„Добры вечар, — кажу гэты раз і гляджу ў акно, за якім і сапраўды вечарэе, але на Захадзе ні барваў, ні бліскавак, хоць па-навальнічнаму пахмурна і ветравана [у лісце так]. Зеляніна нейкага вайскова-адчужанага, без тонаў, колеру, бо замгліла неба, а ці надоўга, не ведаю.

Учора атрымаў твае пісьмо, адпісаў, нават заклеіў, і вось яно ляжыць на стале, як не маё ўжо, без маёй улады на яго, якраз такое, якім прачытаеш яго, якім яно табе падасца. А якім, не ведаю. Рэчы, мусіць, таксама ведаюць адчужэнне, як і праніклівасць, можа, сваю. Я, напрыклад, рэдка бываю ў згодзе з імі, і яны, мусіць, адчуваюць гэта, бо ніколі не затрымліваюцца ў мяне, як бы баяцца нейкай неўладкаванасці самога гаспадара — мо, найперш, душэўнай.

Дык вось, пісьмо табе ляжыць неадпраўленае і будзе ляжаць аж да панядзелка, прыйдзе разам з гэтым, а мо і не — на тое ёсць свае паштовыя дзівосы.

Значыцца, так. Надвор'е, мяркую, і ў вас сапсавалася, і ты, мусіць, так і не здзейсніла мой наказ павандраваць па крэсах нашага раёна з „французской книжкою в руках” a la belle Таццяна, намаркоціцца ля возера ў часы, калі там мала ўжо вульгарных купальшчыц і купальшчыкаў, але яшчэ і не затаіўся ў прыбрэжных хмызах сумна-задумліва Пан, каб высочваць нетутэйшых наяд, — не пагражае табе, хіба сустрэча з маім імгненна-прывідным ценем над той вадой: ён нагадвае табе, можа, лермантаўскія радкі, якія згадваў я некалі над тым, з дазволу сказаць, возерам. Вось такія радкі:

*Окончен труд дневных забот.*
*Я часто о тебе мечтаю.*
*Бродя вблизи пустынных вод,*
*Вечерним выстрелам внимаю.*
*И между тем, как чередой*
*Глушит волнами их седыми,*
*Я плачу, я томим тоской,*
*Я умереть желаю с ними.*

Кажется, так[1]. А ўспаміналіся мне там, можа, „иные берега, иные волны”. А цяпер я хачу бачыць цябе менавіта на нейкіх здратаваных берагах нейкага менскага возера, — і крый Божа, не ў Палангах і не ў Адэсах шумных! Крый Божа!

Ці не эгаізм гэта? І па праву якому, га?

[1] У цытаце М.Лермантава недакладнасць, першы радок трэба чытаць так: „Окончив труд дневных забот...”

Як бы там ні было, пасылаю табе трохі „божых слёзак". А наогул жа, няхай анёлы з табой гуляюць, а ты, калі хочаш, узносся з імі на неба — ненадоўга, праўда, бо ў мяне забаляць вочы глядзець на анёльскае гэта відовішча.

Бывай. Пішы. Жыць асабліва не спяшайся. А маркоціцца — тым болей.

Міхась.

12.06.82".

Ён умеў быць высакароднa-шчодрым — Міхась Стральцоў. Мог высокай думкай сваёй узнесці на „небясі", надаць шчымліва-чыстую кампанію, кінуць крылцы-пасачкі — не шкада. Хай, маўляў, пацешыцца: я толькі-толькі знялася з трохмесяцовай бюлетэневай котвіцы, ён гэта ведаў. І неяк знаходзіў — там! — і добрыя словы, і „божыя слёзкі". Крыху сентыментальна? Магчыма. Але — ведаючы ягоны эгацэнтрызм, не як норму паводзін, а як засяроджанасць творцы і імкненне да абароны таго самага „права быць самім сабой", тым больш духоўным дарункам мелася лічыць ягоны мякка-іранічны клопат. А па-чалавечы — разумела, што яму лацвей ведаць, што і яшчэ нехта не гойсае па якіх прывабных і далёкіх мясцінах, а сціпла трымаецца блізкіх ваколіц. Яму і тыя ваколіцы былі краем абетаваным. Ці не таму ён так падрабязна ў згаданым ужо пісьме ў Каралішчавічы апісвае маршруты падарожжаў, што яму здаюцца такімі звабліва-ымі, і ці не таму сочыць сцежкі, па якіх ён нязмушана і звыкла столькі папахадзіў, а зараз тыя пуцявіны далёкія, нібыта якія шляхі на Марсы. Ці не таму, як цярплівы настаўнік, перапытваў: „Я табе паказваў хадзіць там і там — ці ходзіш?" (Ліст ад, 17.VI.82). Я бывала ў тых мясцінах, дарэчы, было халаднавата, то там амаль нікога не было — любата. Пра што і згадвала Міхасю, а тым часам вельмі ж асцерагала ад Масковіі. Перш-наперш — не ўяўляла яго сабе там. Што яму рабіць у тамтэйшых мясцінах? Беларускаму пісьменніку? Усё ж — свая зямля, то яна свая. Ці трэба яе самахоць кідаць? Ды і неяк больш сутыкалася ў жыцці з агрэсіўна актыўнымі сталічнымі дамамі. І ўвогуле маёй мястачковай, схільнай да splendid isolation натуры, маскоўская мітусня была чужой, а камільфо, што неслі на сабе „особый отпечаток", сустракаліся мне толькі зрэдзьчасу. Пра тое неяк і распявала я Міхасю Лявонцьевічу.

„Добрай раніцы, Міхась!

Не паспявае мае лянотнае і неспрактыкаванае пяро за тваёй імклівай думкай. Вось не адказала на адзін ліст — а ты адшкадаваў

мне яшчэ адно. Кручуся ў нейкім непатрэбным чыноўным і хатнім клопаце. Раблю зараз мемуары Паўла Малчанава ў так званай апрацоўцы Галавача. Ці звар'яцею, ці скіруюся да ўзроўню „літпраўшчыка”. Але хопіць пра гэта. Хаця — дзіўлюся, як гэты чалавек, Галавач, гэтулькі год рабіў рэдактарам.

Сёння папнуся ў тыя мясціны, якія ты старанна раіў. Халаднавата, мабыць, будзе незавозна. Во і добра.

Якраз учора пабачыла Рыгора [Барадуліна] і падаспеў твой ліст з яго вершыкам, на жаль, пасля сустрэчы. То Рыгор даводзіў — з чаго гаворка! Ён! Ды не здасі — каго! — Міхася Стральцова. Пра што гаварыць, людзі добрыя! Аж ты ўсё гэта і сам добра ведаеш.

Мне таксама падабаецца назва „Яшчэ і заўтра”. Дарэчы, і наконт хутара ў мяне пісалася не дзеля апрашчэнства твайго, а дзеля гэтага — яшчэ і заўтра. Хто табе будзе там патрэбны — не ведаю. Мяркую толькі, што некаторыя вароны ў жыце і трансцэндэнтныя капітулянкі — не той варыянт. А да Барадуліна тым рэфлексанткам нават і па дыпламатычнай парафіі далёка. „Маладзік прарэзаўся танклявы, быццам малады Міхась Стральцоў”. А, дарэчы, ты памятаеш, як мы з табою сустрэліся ў выдавецтве акадэмічным?”

І я распавяла пра тое, што прамоўлена на пачатку майго допісу. У лісце ж далей было: „Мяне, між іншым, Вера Сямёнаўна [Палтаран] распытвала, ці ёсць у цябе час. Па яе агентурных звестках, ты працуеш у бібліятэцы. Але ж я распарадку твайго дня не ведаю. Сам не пішаш, то мне распытваць няёмка. Сказала толькі ёй, што вольных хвілін у цябе амаль што няма”.

„Дзень добры, Ала!

О, у мяне не такі ўжо і благі быў дзень! Як бы там ні было, тоесёе ўтаргаваў усё ж у цябе. Цяпер хаджу, надзімаюся, як паўлін, ну а ты — ці адчуваеш сябе павай? Магчыма, можа, але не з той нагоды, як хацелася б мне. Во пакруціў я тваё пісьмо і так і гэтак і бачу, што вялікі ты дыпламат. Абвяла мяне вакол пальца, папярэдне не паманіўшы нават! Хітранькая ты! Усе захады мае абышла ды яшчэ мне, як Анегін нейкі ў спадніцы, марал вунь які за мае прамаскавецкія сімпатыі (быццам бы) прачытала. А наастачу яшчэ напалохала тамтэйшым востранькім каблучком, які непазбежна патопчацца па мне. Да апрашчэння завеш, але не з сабой (SIC!), акулярчыкі мне спрытненька ўціраеш, а сама смяешся. Кіпцюрыкі-шпілечкі, маўляў, нехта іншы пакажа няхай... Не, давядзецца мне, мусіць, аб'яву ў тую рыжскую газету, якую ты згадвала неяк, пісаць. А што? Закажы на будучае выразкі ў менскім бюро даведак — пацеха будзе!

Але чакай. Я нейкі іншы ход прыдумаю супроць цябе. Мы яшчэ паваюем! Напалохалася?

Тады будзем пра іншае” (21.VI.82).

„І праўда дачакаешся, калі будзеш пісаць мне сіберныя лісты, што нападзе на мяне немата, як тады, мусіць, у далёкім тым выпадку, пра які згадваеш ты. І лістоў ад мяне другіх не будзе — табе, вядома, усё роўна, а мне крыўда і душэўнае крушэнне.

А што ты пішаш? І нос, маўляў, задзіраў, і над падлогай ледзь не лунаў ці лётаў, і маланкі, як Юпітэр, выкрасаў, а таго і не ведаеш, што калі нешта падобнае і было, дык няйначай ад перапалоху і перапуду. А ты думала, што я S. які, і павінны прымушаць ваша племя трапятаць. Выдумала такое! Я, можа, што і другое помню... таксама выдавецкае. Як пранізала мяне адноечы ад вашай ягамосці нетутэйшымі флюідамі нейкімі, дальбог, — і было ўжо гэта ў тым благаслаўёным выдавецтве, што ля гасцініцы „Менск” [нейкі час выдавецтва „Мастацкая літаратура” месцілася каля гасцініцы „Менск”] — на першым паверсе, ля касы блізка, ці што, дзе S. (зноў S.!) панаваў над усімі, як Александрыйскі нейкі стоўп. А тут і ты мільганулася, і мо позірк мой цябе пераняў... Далей я табе нічога не скажу, хоць і помню.

Вось табе адпаведзь за „недаткнёнтасць”.

А наогул жа ніякі мой варыянт не прымаеш ты, і мне, не надта спадзеючыся на паштовую прозу, адказаць табе хіба вершыкам, і ты ўбачыш тады, на якую дарогу ты мяне падбіваеш і якую папірачку мне падаеш. Чытай і ад згрызотаў пакутуй. А то во яшчэ і вершык вазьму ды і ўсенародна прысвячу табе. І так адпомшчу. Напалохаў? (Не, без дазволу не буду.)

*Кіну, рыну — пакіну*
*Гэты дом на гары,*
*Горкі дым успаміну*
*Хай развеюць вятры.*

*Хіба гэтак няможна?*
*Дзе пасцелецца цень*
*Ад капы прыдарожнай,*
*Там і будзе пасцель.*

*На Ясельду ці Піну*
*Ці на Пціч, Вілію, —*
*Або на лугавіну*

*Я слязу пралію, —*

*Каб зрабіліся парой*
*Над ракой, над ракой,*
*Каб здружылася з хмарай*
*Талакой, талакой,—*

*І каб кані крычалі,*
*Прадчуваючы гром.*
*Каб на вольным прычале*
*Здрыгануўся паром.*

Вось так мы перайшлі і да вершыкаў. Не зразумеў толькі я, чаму гэта D. выкінуў адзін верш. (У рыхтаваным зборніку.) Я выкрасліў даволі, найбольш слабое, і ўсё ў пісьме, здаецца, да Паўлава, пазначыў па (не на) старонках — у дзвюх кніжках. Там, у пісьме, аж дзве шарэнгі старонак. Спытай у Валодзі [Паўлава], хоць ён і *тумарэсік* вялікі (ведаеш такое слова?). <...>

Барадуліну напісаў, адказу пакуль няма (у адказ на ягоны ліст). Пачакаю. Ты хоць пішы. А то лянуешся. Адсюль цябе пісьмамі цяжка разварушыць (не дзеля справы адной!), а там наогул ад мяне хаваешся. Але, калі вярнуся, шпацырамі рознымі буду табе ўсё ж надакучаць, а то і зважу ў Ракаў да польскіх кабет і бабулек — там трохі яшчэ ёсць. Ты ў карты з імі пагуляеш, а я цябе за жонку буду выдаваць і казаць, што ні ў карты не гуляю, ні гарэлкі не п'ю, бо цябе баюся? Згода?

Пра жыццё-быццё сваё, „дыярыуш", так сказаць, свой я табе так ці інакш выкладаю — адно і тое ж, распарадак усяму галава, таму і мне не цікава, і табе зачапіцца не будзе за што. А што Вера Сямёнаўна? Скажы ёй, што тут сумна, як сярод У.-скай прозы, — няхай не палічыць гэта замахам на яе зямляцкія пачуцці. У мяне вось А. ў земляках ходзіць — і то нічога. Ну і што? Хітрунчык М. таксама. Яшчэ нехта ёсць. А ўсе яны не вартыя аднаго п'янтоса Гаўрусёва.

На Вялюгіна я прасіў Рыгора навесці. Можа, і сам напішу, калі адказу ад Рыгора не будзе. Паглядзім. <...>

Але ну іх, справы! Нешта сумна і самому стала, і нецікава пісаць.

„Нового мира" я тут не бачу, як і шмат якіх часопісаў. Хіба трапляецца „Юность" і „Неман", з нашых — „Вожык" і „Р[аботніца] і ся-л[янка]". <...>

У бібліятэцы тое-сёе трапляецца са старога — перачытваю. Выпадкам трапіла кніжонка дачкі Л.Андрэева — Веры Андр[эевай] — „На Черной речке". Пра дзяц[інства] на фінскай дачы. Цікава наогул. Тым

больш што я „Детство” Вадзіма Андр[эева], сына, некалі чытаў. А чытаць, калі праўду казаць, няма калі. Дурная, марная, абразлівая трата часу. Хоць я ў гэтым сэнсе і наогул не вялікі ашчаднік (колькі часу таго патрацІў), але, як ворагу рэгламентацый, выць, іншым часам, дальбог, хочацца — почему не минула чаша сия? А F. мне нават, нахабнік, неяк напісаў, што цярпець трэба і пра нейкую працу думаць. Адказаў (о, адказаў!) — не адказвае і не адкажа. Гумару няма ў некаторых людзей — вось табе і казань уся. Прыдуркамі лагернымі прыкідваюцца — мо так лепш?

Але я злавацца пачынаю. А ўсё таму, што пра распарадак В[ера] Сям[ёнаўна] папытала. Але ж яе памяншальныя суфіксы да любога парадку прыдадуцца — ці не так? Не буду.

Давай лепш напішы, што ты бачыла ў маіх (цяпер быццам нашых) мясцінах, калі не жартавала, пішучы як бы пра нейкае „падарожжа”. Ці ты на Лысую гару трапіла? Не трэба. Мо лепш паедзем у Ракаў.

Я ведаю яшчэ адно добрае месца. За аэрапортам, пры выездзе са Слуцкай на Брэсцкую шашу і далей па Брэсцкай: там гадавальнік вялікі і рэшткі старой садовай планіроўкі, і проста лес ёсць, і жывёліны рознай у лесе многа маецца, і... не ведаю яшчэ што, але мне там падабалася. А ў Курасоўшчыне можна ўкінуцца ў цягнік і ехаць у Ваўковічы — і там я таксама трохі ведаю, і там таксама ёсць лясніцтва (начаваў там некалі з Карамазавым і гарэлку піў), і матэль, але гэта ўжо зусім не тое, як і піянерскія лагеры, якіх там хапае. Там хіба восенню добра. Гэта я ведаю: я ў тых ваколіцах бульбу некалі студэнтам капаў, і, як ні дзіўна, адна знаёмая хата дагэтуль засталася (гэта ўжо не ў лясніцтве).

Колькі табе ўсяго нагаварыў — а карысці?

Але нічога!

Вось: ты нешта абяцала мне, ну, нешта такое сентыментальнае, але паводле маёй вымогі? Маўчу.

Паспрабуй цяпер не напісаць мне доўгі ліст! А я вазьму во яшчэ і падражнюся: con amore[1].

P.S. Смяешся?

30.V1.82. Міхась”.

Нешта сентыментальнае — здымак. Я так і не выслала яго. Прысвячэнні? Іх таксама не было. Як ён сам пазначаў, „адрасат нават для самога сябе праясняецца апасля”. Я прыняла гэта як адзіна магчымы

[1] З любоўю (фр.).

і верагодны варыянт. Пазней, праўда, я не адмовіла сабе ў магчымасці пачаць артыкул „Калі браць пробы на глыбіні...” так: „Чалавек напісаў нізку вершаў. Жанчыне. Пазней, публікуючы, ён не рабіў прысвячэнняў. І быў, як мастак, правы. Каму б ні прысвячаліся тыя вершы, яны сталі фактам мастацкім. У нейкай меры адчужаныя нават ад свайго творцы і ад той, што была нібыта непасрэднай прычынай напісання вершаў”.

Змяніліся абставіны. З'явіліся рэальныя „пейзанкі” З рэальнымі абрысамі. У рэальным атачэнні. Жыццё знаходзіла рэальнае рэчышча.

Дарэчы, кнігі свае „Мой свеце ясны”, куды ўвайшлі вершы з лістоў, і нават „Пячатку майстра”, дзе я была рэдактарам, ён мне не падараваў. Ажно, калі, прыйшоўшы ў „Нёман”, я прэзентавала іншым, але не яму, сваю толькі што надрукаваную кніжку „Слова сапраўднага лад”, ён пакрыўдзіўся, прынёс з кнігарні асобнік і прымусіў зрабіць надпіс. А на маё запытанне адказаў: „Што я буду падпісваць? Ты — гэта я”. Я ведаю, што так гаварыў сваёй жонцы Ю.Алеша, А.Сахараў — Е.Боннэр, і тут можна было спакусіцца салодкім самападманам. Але — даверлівасць не была маёй дабрачыннасцю. Безумоўна, тут была нейкая іншая прычына. Якая — не ведаю. З даверу я ў яго не выйшла. Ён аддаваў мне некаторыя свае чарнавікі: прынамсі, верша, прысвечанага Барадуліну („Стаяў і я на гэтай кручы...”), пераклады пушкінскіх вершаў („Элегія”: „Гады былыя шалам весялосці...”; „Заклён”; „О, калі праўда, што ўначы...”; „Горад пышны, непрыветны...”). У яго была задума перакласці і напісаць пра паэтаў пушкінскай пары. Ён настойваў, каб я рабіла сцэнарый дакументальнага фільма пра яго, каб удзельнічала 22 красавіка 1987 года ў вечарыне ў яго гонар, каб прыйшла ў апошні дзень перад аперацыяй...

Загадка „назскіх натур”...

І ўсё гэта было пазней. А пакуль было ліставанне.

„Дзень добры, Ала!

Нічога, нічога, пакуль прабачаю, а там паглядзім. [Зноў за хатнімі і службовымі мітрэнгамі я спазнілася пісаць ліст.] А папраўдзе, дык, можа, і раўную трохі цябе да нейчых чужых (для мяне, вядома) бядотаў і турботаў, не адчуваючы пры гэтым ні пакаяннасці, ці хоць збольшага сораму. Чалавек, такім чынам, эгаіст, і я ў тым ліку. Эгаіст — гэта б яшчэ нішто, а то і зайздроснік, і ўласнік. Ён нават і нечай увагай да нечага болю распараджацца хоча, а не выйдзе — і таму, чужому болю, зайздросціць будзе. Некаму ўвага, а чаму не мне? Пра сябе ён успомніць, абавязкова ўспомніць! І паралелі, і вышукі адпаведныя знойдуцца, і вось пачне ён думаць неяк так. Маўляў, некалі на

перакладных, у паштовых карэтах, у рыдванах розных падарожнічалі — і не толькі дзеля ўласнай ахвоты — не! Сон марнавалі, вантробы растрасалі ці шлункі, салдафонаў розных дарожную ўладу цярпелі... А тут... самалёты, паязды, шасейкі, гладкія, як велікоднае яйка, скрозь паслужлівыя заляцаншчыкі на ўласным транспарце (толькі міргні!)... — нічога! Ніхто ні да каго не спяшаецца, ніхто нікога адведаць не хоча. І на чорта тады той тэхнічны прагрэс? А камандзіроўкі і камандзіровачныя тады, урэшце, навошта? Падумай і скажы.

А тут яшчэ Дэрптам нейкім душу мне скаламуціла, бо як прачытаў я, што ты недзе там з „гетынгенам" нейкім стаяла блізка свяшчэнных камянёў нейкіх, аж пацямнела мне ўваччу, дальбог, — думаю, скуль там побач увішны студэнт з ФРГ з'явіўся? Даражэнькая, пардон, растлумач. А можа, гэта эстонцы імёны нейкія несусветныя пабралі? Зноў жа — стаяць ты побач стой, а ў сённяшняй рэляцыі вунь пра якую даўніну не трапляй. Богам кажу, рэўнаваць стану. І дойдзе да таго, што розных там пеўнікаў на вежах талінскіх і рыжскіх да бліскавак у вачах неўзлюблю, нават верш Забалоцкага, дзе пра пеўніка сказана, што „таинственный разум созвездий непременно присутствует в них", з памяці сатру — цяпер ты разумееш, якая страшэнная штука рэўнасць?

А падарожнічаць, вядома, будзеш толькі са мной, а эти всякие разные самостоятельные мысли вы при себе оставьте, потому что мы очинно даже это не уважаем, это все экивоки и вертижи. Потому что мы сами деликатесы культурные знаем и даже знаем иностранный стишок:

*Вчара тибе чакала,*
*Варум ты не пришов?*
*Я не такая фрава,*
*Каб ждать па семь часов.*

А ежели вы интересантов каких насупротив нам имеете и делаете им приятный монплезир, так мы и тем недовольны и ревуар вам тоже сделать умеем. Потому что то, как вы нас обманывали, орёр, орёр, орёр!

Кавово я тебе мораль прочитал?

Будзеш ведаць, з кім справу маеш.

Але нічога: мы з табой Лешчанку [маецца на ўвазе спявак Леў Лешчанка] не любім абое, можа, на гэтай аснове паразумеемся: ня станем у нашым падарожжы адно аднаму патлы выдзіраць. Як ты думаеш?

Падарожнічаць будзем, я рашуў ужо, у Піцер: там хоць немцы і англічане абруселыя, і многа рознай „мари, чуди и чухны", і фін дзікі

напіваецца ля помніка Пятру Вялікаму — а славянскаму сэрцу гэта прыемна. Ты ўсё гэта абдумай.

А пакуль табе вершык.

*Как фармазона,*
*Без лишних слов,*
*Втолкнули в зону —*
*И будь здоров!*
*Изведав палку*
*И поводок,*
*Я хавал пайку*
*И срок волок.*
*Теперь смекай-ка.*
*Я стал здоров*
*И славлю пайку*
*И прапоров!*

Пішы, асабліва не лянуйся.

Міхась.

15.07.82".

Ліст — што практыкаванні ў розных жанрах. Аналітычныя саманазіранні — нібыта і не самога аўтара, а таго самага „лірычнага героя": „Чалавек, такім чынам: эгаіст, і я ў тым ліку. Эгаіст — гэта б яшчэ нішто, а то і зайздроснік, і ўласнік. Ён нават і нечай увагай да нечага болю распараджацца хоча, а не выйдзе — і таму, чужому болю, зайздросціць будзе". Туг і нешта, не падобнае на звычнага Стральцова: мазаічны дывертысмент, знакі адносін, якія ён пазначае, сведама бярэ з ірэальнай рэальнасці і рэальнай ірэальнасці. Логіка „фравы" і „логіка" зоны — вось табе. Каб верыла ягоным разважанням і не давала веры. Тут я адчуваю, што калі знойдзецца выдавец і — раптам! — знойдзецца чытач, дык вось тут чытач абурана адсуне чытво — гэтай нахабніцы пісалі шчырыя лісты, а яна мала што друкуе, дык яшчэ і пхнецца аналізаваць. Гвалт! Расслойванне інтэлектуальнай аўры. Але — мушу думаць, что і сам Стральцоў, не задумваючыся, падсвядома ўсё ж адчуваў літаратурны кшталт нашага ліставання.

Ну, а вандроўка ў Мазыр была адкладзена да грэцкіх календ. І ў „Піцербурх" мы таксама не трапілі, і па Ракаўскай шашы да польскіх бабулек не завітвалі. Разумеў прывіднасць вандровак больш як хто сам Стральцоў — „бо разнасцежана акно: табе адно, а мне другое".

...Сябры Стральцова рабілі ўсё, каб ён мог вярнуцца ў Менск.

Заканчвалася рэальна-прывіднае эпісталярнае суіснаванне. Як згадваў Стральцоў, „так хочацца пабачыць цябе — і... схавацца куды-

небудзь. Не здзіўляйся. З радасці („той грустной радости”) ці са смутку, што ты так нядаўна належала мне па праву „затворничества” хіба, і што вось надышоў час развітвацца з пэўнымі прывілеямі — з прывіднымі прывілеямі, на жаль. Што ты на гэта скажаш? Ах, Піцербурх! Няўжо аднаму падавацца на вуліцу Бродскага і ў Рускі музей?”

„Прывілеі” нашы і сапраўды касаваліся. Але з нашым бюракратычным ладам Міхась Стральцоў затрымаўся ў Мазыры ажно да зімы — апошні яго ліст пазначаны: 2.XII.82 г. А пакуль быў яшчэ ліпень. І 1982-гі год лічыў месяцы па грэгарыянскім календары. І я атрымлівала лісты.

„Дзень добры, Ала!

Итак, свершилось, матушка! — атрымаў, нарэшце, ад цябе пісьмо. Пачаў чытаць, а там недаўменне, чаму не пішу. І тут я пачухаў патыліцу. Бо пішу і адказваю — у той жа дзень, як атрымліваю пісьмо, — і не таму, што я такі акуратненькі-дакладненькі, а таму, што не церпіцца з табой хоць так, ліставейна, паразмаўляць, выклікаць цябе на ўласныя вочы і як бы адчуць тваю прысутнасць ледзь не дых у дых. Во як — не смейся!

<...>

Як бы там ні было, я ўзрадаваўся твайму пісьму, бо пачаў думаць ужо немаведама што. А цяпер вось шкадую, што не чытаў „бергманска-антаніёніеўскае блюзнерства” і не ўведаю, што гэта такое. Я, калі не памыляюся, пісаў табе пра „Піцербурх”, што наконт гэтага думаеш, не вем. Хоць, кажу наперад, „сунічных палян” [маецца на ўвазе фільм І.Бергмана] там няма, ёсць марошка, — ці не яе прасіў, паміраючы, Пушкін?

Добрая душа, ты спяшаешся прарочыць мне блізкую дарогу. У лепшым выпадку гэта будзе — цьфу, цьфу, цьфу! — у верасні. І то — каб жа! <...>

Пісаць я нічога не пішу — з каранцінам скончылася мая пісаніна, як ты ведаеш хаця б па вершыках, даўно. Няма часу. Думаць няма калі. Рэцэнзіі на мне вісяць — яшчэ не зрабіў. Паспрабую мо хіба для „Ліма”. А мо ўсяму віною К. — адвярнуў ён мяне ад „творчасці”, дальбог. Бо мусіў яго збольшага, праз сілу, прачытаць. Такім дурным, неістотным паказалася ўсё гэта — наша пісаніна наогул.

Але вось ляжыць тут у мяне томік лермантаўскага „Героя...” — даўно ўжо не перачытваў яго — гады чатыры ці пяць. Баюся. Можа, тады перачытаю, калі сам што-небудзь пачну ў прозе рабіць. Цуд канструкцыі і жывапісных проста-такі „ракурсаў” і „рэфлексаў” пры стварэнні перспектывы, аб'ёмаў і планаў. І так лёгка самому Талстому

руку падаў. Нехта там выводзіў некага з гогалеўскага „Шыняля”, а Толстой дык, дальбог, з лермантаўскага „Валерыка” скокнуў. Маштаб. Памятаеш ягоную „Спрэчку”? „У Казбека с Шат-горою был великий спор”. Проста-такі панарама з касмічнага карабля! І тут жа якая-небудзь „Молитва” (іх, здаецца, дзве), тая, дзе „с души как бремя скатится сомненье далеко: и верится, и плачется, и так легко, легко”. У гэтым жа радзе: „Ночевала тучка золотая...”, „Горные вершины...” — якое ўменне адрынуць ад бур і скрух душэўных, па-дзіцячы бязгрэшна паплакаць перад прыгажосцю Боскай і зямной. Вялікія „перапады”, амплітуды рухаў душэўных — ці не гэта адно выдае імгненную гатоўнасць душы „к соображению понятий”, душэўную рэактыўнасць, назаві гэта вышэйшай ступенню таленту, мацартыянствам, ці як? — усё роўна.

Што табе сказаць яшчэ, чаго не пішуць нашы лянотныя літаратуразнаўцы? Прачытай у Лермантава „Штосс” — пачатак нечага рамана, можа. Мне заўсёды здаецца, што так пачаць мог бы Дастаеўскі. Няхай ранні, часоў „Хозяйки”, „Голядкина” и т.п.

Не ведаю, навошта гэта пішу. Паводле выпадковых асацыяцый? Але ці выпадковыя яны — не асацыяцыі (нашы), а факты, што за імі? „Нет на земле ничтожного мгновенья” — у панараме духоўнага развіцця (і літаратурнага) заканамернасцей, безумоўна, шмат — і тут не трэба быць Сашам Яскевічам, каб зразумець гэта (ці, можа, убачыць). Гэтак жа я, напрыклад, бяруся даказаць, што такі „эпік”, як, напрыклад У., належыць да дрэнна зразуметай коласаўскай традыцыі, хоць сам ён чамусьці думае, што выйшаў з Чорнага і пераплюнуў Мележа, які таксама, дарэчы, памыляўся, ведучы сваю „радаслоўную” ад Чорнага (хочучы так — суб'ектыўна, бо Чорны некалі яго падтрымаў). Чорнаўскай традыцыі у нас, на жаль, не пашанцавала, як і купалаўскай, калі разумець традыцыі не ў ларчанка-навуменкаўскім сэнсе. У нас, можа, калі і быў хто, дык Купала і Чорны, Багдановіч і Гарэцкі. На жаль, не так і многа.

Пра сённяшніх не будзем казаць — рана. Але я думаю, што мы не дажывем да такой ганьбы, каб прызнаць у бліжэйшы час „класічнымі” зубрамі (?) з аднаго боку У., а з другога — Z. А мо да гэтага дойдзе? Не, трэба, каб нехта новы прыйшоў у літаратуру: каб яго блізкім прыходам пачало ўжо дыхаць наваколле — ці чуваць там нейкае „смущение” і „возмущение” ў прыродзе? Хоць ты паслінь палец вазьмі і вытні на вецер.

Канчаю, даражэнькая! Бо, можа, кажу не тое, бо, можа, вяла і нецікава думаецца. Ды яно і праўда – добра прарочыць і бубніць збоку. Лепш, можа, справай нейкай канкрэтнай займацца, хаця... Вунь

D. корпаецца ў нейкім пазаддзі і думае, што яму помнік за гэта паставіць калі не на Паркавай, дык у N. павінны. Прыйдзе час, помнік ставіць не збяруцца — пачне крычаць, што ягоны талент вялікі выдавецкія мітрэнгі згубілі, што аўтары зеллем знарок малайца спаілі, што асабістых крытыкаў праз пасаду не займеў, а тое ў галаву не прыйдзе, што найперш трэба навучыцца хаця б пісьменна адчуваць і думаць, не кажучы ўжо аб тым, каб граматна пісаць, — бо і гэта не зашкодзіла б. А паказваць сябе мэтрам і вялікім дзеячам перад Е. ці Стрыгалёвым, з якімі гарэлку п'еш, па-мойму, несур'ёзна: ці сядзі, ці дамоў ідзі.

Во ўспомніў, загаварыўшы пра выдавецтва... што там Івашчанка? Мне нешта перастаў пісаць. Ці здаў ён рукапіс? Прабач. Скажаш, усе лаюць выдаўцоў, і ўсе ад іх нечага хочуць. Але ж я без прэтэнзій, па-хатняму, так сказаць.

<...>

Во яшчэ ўсномніў. Я прасіў цябе ў нейкім лісце, мусіць, у тым, які не атрымала, дазнацца, што гэта за пастаноўка „Наш Купала” ў купалаўцаў. Я падумаў быў, што, можа, Раеўскі адрадзіў нашу даўнюю задуму (напісаную) пра Купалу, тое, што часткова прайшло некалі на тэлебачанні як фільм. Цяпер, праглядзеўшы недзе ў газеце, бачу, што не тое. Гэта мантаж з купалаўскіх спектакляў, перасыпаны „говорениями” ад сябе (і пра сябе) акцёраў пад выглядам, як гэта заўсёды бывае, што пра некага іншага. Няхай.

І гэта я так закругляюся! Прабач, што напэцкаў, пісаў апошнія старонкі на рабоце, выдаючы кнігі, лаючыся з-за газет, — хочацца, каб пісьмо пайшло заўтра ж. Напішы, ці скора дойдзе, наогул. Нешта дзіўнае выйшла з нашай перапіскай.

Бывай. Да лепшых часоў.

28.07.82. Міхась.”.

„Дзень добры, Ала!

А папраўдзе, добры вечар! Не бяруся сказаць, што робіш ты ў гэты час, хоць і спрабую ўявіць цябе па-хатняму, „у халаце і пантофлях”, і за кухоннымі турботамі нават, — дальбог, не ўдаецца мне гэта! Мо чытаеш, седзячы, як школьніца, за сталом (не возлежишь на канапе?), мо гаворыш з кім па тэлефоне; мо паліваеш на балконе кветкі; мо пазычаеш суседцы тэлепраграму, робячы гэта тым больш ахвотна, што сама, можа, як і я, той тэлевізар не глядзіш; мо вырашаеш, што лепей выпіць нанач — каву, гарбату... ці люмінал? — а мо абмежавацца, паводле ёгаўскай рэкамендацыі, шклянкай халоднай вады? Думаеш так і раптам спахопліваешся, што ўсё гэта лухта ў параўнанні з

пакутамі W, ад ягоных „удоў”, як называе т-х пасій St., — скажы, які занятак прыдумаць яшчэ табе?

Я дык вось пішу і думаю, што перапіска наша збілася з пісьменнага (граматнага) рытму і пачала нагадваць тутэйшую радыёфікацыю. Вось, напрыклад, аб'яўляюць вячэрнюю паверку, і я па сваім бібліятэчным дынаміку чую гэта, як рэха, тое ж самае з рэпрадуктара, што ля сталовай, — але я, натуральна, веру таму, што бліжэй, дынаміку над сваім вухам. Гэтак жа і цяперашняе тваё пісьмо: яго рэальнасць, а твой адказ на яшчэ адзін мой ліст шкуматае ветрам недзе ля „сталовай” — дзе твой адказ? „Адрэдагуй” ты неяк гэтую „тэхніку”!

Я табе ўсё расхвальваю St.-Pg. [Sanct-Petersburg], а ты маўчыш! Дачакаешся восені ці зімы, а які Пецярбург зімой? Яго зімнім нават ніхто з літаратараў-пяцярбуржцаў не пісаў, калі не лічыць някрасаўскае „Пра надвор'е”. Як гэта? „Государь мой, куда вы бежите? — В канцелярию, что за вопрос? Я не знаю вас. — Трите же, трите поскорей, Бога ради, ваш нос! Побелел! — Ну а мой? Лучезарен. — То-то принял я меры! — Чего-с? — Пейте водку в мороз. Сбережете свой нос, на щеках же появятся розы!” Не, яшчэ ёсць, як ні дзіўна, у Дастаеўскага — дзе, дакладна не памятаю, але памятаю, што там зімовае неба над горадам, перапаласаванае марозным дымам ад каміноў, здаецца настолькі фантастычным, што прыходзіць думка, што і сам горад уздымецца з гэтымі дымамі і сплыве куды-небудзь.

Не, ну яго, зімовы той Пецярбург! Даражэнькая, ну іх, Эрмітажы, Пецяргофы, — мы ў Царскае Сяло паехалі б! І кожны дзень ездзілі б ці нават сталі б пастоем у якой мясцовай чухонкі, калі яны яшчэ не перавяліся там, — надумай, даражэнькая! І юны *нкшП*, то гарачлівы, то нечакана маўклівы, з вечна абірызанымі пазногцямі, нячысты ў начных сваіх помыслах, пра што не пасаромеўся сказаць пятнаццацігадовы у сваім „Пробуждении”, — пачаў бы *занимать наше воображение*. Калі ты любіш рамантычпыя пачуцці, дык стала б мне расказваць пра патаемную любоў сего *вьюноша* да жонкі Карамзіна, які жыў летам тут, у студэнцкія пушк[інскія] гады, а я, як цынік, нагадаў бы табе, як Наталля Мікалаеўна бегала адсюль у казармы да Дантэса, полк яго стаяў непадалёк. Цікава, га? Праўда, было гэта ўжо не ў ліцэйскія гады, вядома, а калі шаноўны А.С., ці то дзівячыся, ці то жахаючыся, усё больш пачаў адчуваць сябе ў эфіопскай скуры прадзеда Абрама Пятр[овіча], калі пачаў пераконваць сябе, што маўр Атэла „не ревнив” і г.д.

Не ведаю, як яшчэ пераконваць цябе і як адбіць у цябе ахвоту да розных Курляндый і Эстляндый.

Нейкія даручэнні круціліся ў мяне ў галаве, але вось, разгаварыўшыся, забыў. Вось. У Макарэвіча на радыё мае вершы — што ён думае з імі рабіць? Чамусьці не адказвае мне. А вершы ідуць, здаецца, у „Полымі” — нехта чуў абвестку па радыё (у жніўні). Радыё запозніцца — і тады ўсё ў кош. Пазвані Макарэвічу... Ой, даражэнькая, не! прабач. Усё пераблытаў. Цяпер скажы, што я заклапочапы сваімі літарат[урнымі] справамі? Усё наадварог. Макарэвічу трэба званіць не наконт „Полымя”, а наконт „ЛіМа”. Там жа новыя вершы. З „ЛіМам” трэба ўзгадняць, бо „ЛІМ” гэны маўчыць. Калі паспееш зрабіць, зрабі. А, можа, ужо тым часам „ЛіМ” выйшаў. Наогул жа, пра гэта ўсё адпішы.

<...>„

Датаваны ліст 8.08.82 года.

**„Ужо даспеў твой лістапад...”**

Да Эстляндый, Курляндый і Дэрптаў ахвоты ў мяне нават Міхась Стральцоў не адбіў. Да гэтай пары. Балтыя мае вялікую прынаду для мяне. Сама па сабе. Ніякіх прыемных асабістых падзей там не адбывалася. Годны, „вселенский” спакой восеньскай Юрмалы... А „Санкт-Піцербурх”...

*И страны, по которым нам*
*Хотелось бы пройти,*
*Исчезли — их теперь уже*
*На карте не найти.*

А ці трэба шукаць?

Што ж мяне здзівіла — чаму Міхась не згадаў Блокава: „Она пришла с мороза раскрасневшаяся...” Праўда, ён не любіў хрэстаматыйна вядомых узораў... Тонка разумеў умоўнасць і „літаратурнасць” нашага ліставання:

„Слухай, калі вярнуся, ці змагу я прэтэндаваць на колькі твайго часу і ўвагі тваёй? Я разумею, што табе цяпер не да мяне: але я і зразумею нават малую ўвагу адпаведна, надаўшы ёй цаны. Я не такі ўжо капрызлівы і не такі эгаіст, толькі мне цяпер так хочацца, каб нехта, як малога, пагладзіў па галоўцы, каб першай парой я не баяўся за той ці іншы душэўны рух, каб адвучыўся трохі ад душэўнай зацятасці, якая, на жаль, бывае непазбежнай у пэўных абставінах і ўмовах. Адным словам, калі многа нельга, чалавек, хоць і нехаця, задавальняецца і роллю спажыўца нейчай „філантропіі”, а хіба я выклю-

чэнне? Проста, мне не шанцуе так, як і іншым, а ім „несть числа" ўсюды і заўсёды. Такая апартуністычная ці плюралістычная „філасофія".

Івашчанку не толькі паўшчувай пры выпадку за мяне, але „и власть употреби" — хіба так можна: не адказваць на пісьмы, схавацца сярод хахлоў і тым цешыць сваю лукаво-сентиментальную" душу? А сапраўды: цікава гэта атрымліваецца [нечытэльна] у хахлоў: сантыменты і рознае іншае несентыментальнае. Ты не заўважыла? Панаглядай.

Як мы сустрэнемся? Не буду загадваць, бо сурочыць баюся. Тэлефоны ўсё ж прышлі.

Барадул[іну] прывітанне перадай — хай бы напісаў мне што духаўздымнае, лайдак! У зняволенні добра было сядзець хіба якому Беранжэ: віно, дамы, візіты, Жюдиг (?), агнём наэлектрызаваная грамадская думка; а што казаць нам, грэшным, калі нават да Ал[ександра] Сярг[еевіча] не на край свету, а на Пскоўшчыну завіталі хіба два чалавекі, якімі ён душэўна даражыў — Пушчын ды „п'яніца" і „рохля" Дэльвіг. А „лукавый", зноў лукавый, царадворца Жукоўскі адпісваўся пахваламі: „Борись, силач!.." і г.д. Дык той жа ўжо на той час новым Дзяржавіным мог сябе адчуваць, а тут..."

Безумоўна, то быў папрок. Мне, Барадуліну, іншым... Наконт іншых — не буду меркаваць. Сама ж я і цяпер упэўнена, што пацвельванні наконт майго прыезду былі таксама больш умоўнымі: „літаратурным" ходам. Не ведаю, ці было б лепш, каб я раптам рушыла ў той Мазыр... Пад які настрой Стральцова трапіла б...

Ці не была б тая сустрэча чарговай „невстречей"... Вобраз — ён вышэйшы за чалавека...

Тым часам я „пребывала" ў Каралішчавічах.

І атрымала ад Міхася вось гэты ліст. „Пошты ўчора, як заўсёды ў суботу, не было, а сёння прыйшло ад цябе аж два пісьмы. Чытаю і перачытваю іх у бібліятэцы — пад нуднае чваканне і пялёхканне дажджу за акном, а перад вачмі — твае Каралішчавічы, на якія міжволі пераношу і тутэйшую непагадзь: не вельмі ўтульна, мабыць, там і табе.

Уяўляю „нубійскую конніцу", якую додж загнаў пад дах, да тэлевізара і транзістараў — во дзе калоцяцца сцены! Памятаю гэта па тых жа Каралішчавічах у канікулярны час, калі мае ўласныя дзеткі, увогуле слухмяныя, выраблялі там Бог ведае што, каб не адстаць, вядома, ад іншых. Цяпер у тых дзетак свае дзеткі, а бацька адлучаны ад бацькаўскіх ды дзедаўскіх клопатаў. І, сучасны чалавек, можа, і не надта перажывае з-за гэтага. Пазбавілі нейкай там выхаваўчай ролі?

Дык выхавацеляў у нас і так даволі. Куды ні кінь вокам, усюды Песталоцы, то з пернікам, то з дубінай, і дальбог, чалавеку сама пара хавацца ад іх, што ён і робіць, пачынаючы са школы, — спачатку ў славутай „падваротні", а пасталеўшы, і за тымі варотамі, што надзейна акантаваны казённым арнаментам. І там ужо яго справа думаць ці не думаць пра добрыя намеры выхаваўцаў і пра тое, „что под жизнью беспутной и путной разумели людские умы".

Даражэнькая, нешта робіцца з „ячэйкамі" нашымі. У дзяцей няма бацькоў, бацькі ходзяць нейкімі навейшымі каралямі Лірамі. І выходзіць, што сапраўды ворагі чалавеку „сямейнікі" ягоныя, што наогул жыве ён не ў сям'і, дзе ў падпечку тоіцца старэнькі, трапятлівы, з дзіцячым мудрым сэрцам дамавік, і кватаруе на „съезжей" — з клапамі, з „околоточным", з прыбіральшчыцай Дунькай, якая зранку крычыць не дакрычыцца, каб пусцілі яе ў нейкую Еўропу — ці не затым, каб адукаваць тамтэйшых наконт нейкага раўнапраўя? Бо розныя Аўроры Дзюдэван даволі слаба дзейнічалі па гэтай частцы, і сказаць ім дзякуй можна хіба за моду на мужчынскія штаны — гэтую ваяўнічую мімікрыю чаму не ацаніць? Даражэнькая, даруй, не фемінафобства гэта, а проста нешта накшталт раздражэння з выпадку таго, якія часам пачварныя формы набывае „жаночае пытанне", узведзенае неразумнымі людзьмі ў неразумны ранг — так, што, урэшце, найбольш церпіць ад гэтага і сама жанчына, і „ячэйка" нейкая, і псіхалагічны тонус грамадства.

Кажу гэта не як „пацярпеўшы": проста такі-сякі ўласны вопыт прымусіў паглядзець на каторыя праблемы, як ні дзіўна, не пасуб'ектывісцку, суб'ектыўная (псіхалогія) мне ўсё ж павінна быць бліжэй, паводле майго занятку. Памятаеш, у „Фаўсце"? „Мне нечего сказать о солнце и звездах — я вижу на земле страданье человека?" Я пісаў табе, здаецца, ужо неяк пра гэта.

У мяне тут было не тое каб даволі часу (яго забіраў распарадак і розная звязаная з ім нікчэмнасць і лухта), даволі ўсё ж, каб паразважаць над тым, над гэтым. Той час, што фільтраваўся з гэтай нікчэмнасці і лухты, проста шкада было аддаваць дробязям свайго „я", тут, можа, было і падсвядомае жаданне нейкай кампенсацыі вымушанага марнатраўства — падсвядомы разлік.

Ведаеш, я зразумеў, што адзінота не так і згубная ў маім узросце. Цяпер я ведаю гэта, тым больш што яна звыклай была для мяне і раней, бо твой пакорлівы слуга пазбаўлены так званых талентаў „общительности" і трошкі „загартаваны" ў гэтым сэнсе. Мой „экзістэнцыялізм" памагаў мне.

Нешта загаварыўся я і „воспарил". Не буду.

Давай пра што іншае.

У Пальміры розныя я без цябе не паеду. Вось што мушу табе сказаць. Сёлета ўсё роўна позна. Гэта вучыцца толькі ніколі не позна, як, дарэчы, мондра разважалі тыя „соревнователи просвещения”, якія дбаюць пра твой надзённы і духоўны правіянт. Вучыся і адпавядай пасадзе. Хлеб апраўдваць трэба, і вялікім пачынанням спрыяць трэба таксама.

Пра Скрыгана скажу, што гэта ў яго „пункцік” — з імёнамі мудраваць. Сам ён то Янка, то Ян (а жонка, здаецца, заве Янчыкам), то ён Ів[ана] Сіпак[ова] падаб'е Янкам звацца, то Цвірку закапыліць нос на манер Гадзіцкага нейкага, то мяне Міхалем хрысціў, а на благі выпадак — Міхалам — слухай толькі яго! А ты завіся ўжо лепей Алінай, калі хочаш, а я табе нагадаю пушкінскі вершык:

*Алина, сжальтесь надо мною!*
*Не смею требовать любви:*
*Быть может, за грехи мои,*
*Мой ангел, я любви не стою,*
*Но... и т.д.*

Макарэвічу не звані. Навошта яму вершы друкаваныя? Я пасылаў яму „лімаўскія”, думаючы, што паспее да публікацыі пракруціць, дадаўшы, можа, што з таго, што змарнавалі мінулы раз. (З „палымянскіх” — памятаеш?) Ён змоўчаў. З гэтым народам ні ў лазні парыцца, ні ў менскім метро (дарэчы, што яно?) на „чарнілы” прасіць. Цьфу! — прабач!

Бывай. Пішы хутчэй. А часу — часу яшчэ хапае. Я ў верасні яшчэ буду тут, мусіць, сядзець.

Міхась.

22.08.82”.

Наконт Скрыгана — гэта я распавяла Міхасю Стральцову, што раіў Ян Аляксеевіч мне вярнуцца да свайго нармальнага, дадзенага бацькам імя — Альбіна. І нядрэнна было б матчына ці бабчына прозвішча згадаць: Чапкоўская ці Зорыч.

А давялося марнавацца Міхасю Лявонцьевічу там яшчэ ажно да снежня. І быў яшчэ час падумаць і пра марнасць нашых высілкаў грамадскіх наконт розных там „эмансіпэ”. Намёк тут быў таксама. Пісаў ён адной з самых цяжкіх ахвяр таго раўнапраўя. Маю на ўвазе звіх псіхалагічны. Паталагічны. Хранічны.

Экзістэнцыялізм — ён быў філасофіяй нашага пакалення. Пра тое ўжо згадвалася. Тут, дарэчы, і тлумачэнне шматлікіх драм нашых равеснікаў. Драм відавочных і драм, што не відаць староннямy воку.

Выявіць сябе ў нейкім сацыяльным, грамадзянскім сэнсе, не ўваходзячы ў канфлікт з уласнымі прынцыпамі, з уласным сумленнем і — галоўнае! — уласнымі схільнасцямі, было немагчыма. Дарэчы, маю вялікае сумніва — ці магчыма гэта ўвогуле калі-небудзь. І ў тым самым быцці-для-сябе, што ствараецца з быцця-ў-сабе, у тым свеце феноменаў, што быў адзіна рэальным для нас, у свеце рэчаў і падзей — тая „ячэйка”, пра якую вядзе гаворку Міхась Стральцоў, была зусім немалаважнай. Была яна, хаця і хісткім, не апірышчам, вядома, але прыстанкам для душы. І мала каму па-сапраўднаму шчасціць на тую „ячэйку”, нават калі перайначваюць, мяняюць, спрабуюць варыянты. Ці трымаюць яе як дот, дзот, бамбасховіпіча, выскокваючы адтуль на „разведку боем” ці дзеля рызыкі „пагуляць з агнём”.

Надзея ўскладвалася на самадастатковасць душы. На роднасць душ. На шчаслівы выпадак... А на таго „старэнькага, трапятлівага, з дзіцячым мудрым сэрцам дамавіка” мала каму шанцавала. Не шанцавала, здаецца, і Міхасю Стрельцову. Ці сам ён быў у тым вінаваты? Ці хто іншы? Не ведаю. Але нездарма ён пакутліва і многа думаў пра тое. Ці мелі гэты вялікі талент жанчыны, што былі побач з ім? Згадаю яшчэ і ячшэ. Быць жонкай, каханкай таленту, ахоўніцай хатняга ачага... Не проста гаспадыняй, што ўмее смажыць, варыць, прыбіраць, даглядаць дзяцей, а — ахоўніцай дому і берагіняй таленту? Ці мелі талент разумення, самаахвяравання, такту? Нездарма, мабыць, адзін талент толькі зрэдзьчасу сыходзіцца з другім талентам. Хто ж не ведае гісторыю адносін Аўроры Дзюдэван і вялікага музыкі с Жалязовай Волі, Барыса Пастарнака і яго першай жонкі, мастачкі Яўгеніі Лур'е-Пастарнак... І... І... Хіба што Луі Арагон і Эльза Трыале? А асабісты лёс Максіма Багдановіча?

Сам Стральцоў у „Загадцы Багдановіча” ў раздзеле „Мадонны” так вядзе думку пра згрызоты душы Максімавай: „Багдановічу не асабліва шанцавала ў каханні... Сказаўшы так, мы маем права задумацца — чаму? Тое, што Багдановіч быў варты кахання і сам быў несумненна здольны на моцнае пачуццё, — даказваць гэта сёння не трэба, і колькі пылкіх сённяшніх паклонніц ягонага таленту з радасцю захацелі б узнагародзіць яго за колішнюю несправядлівасць лёсу? Толькі Багдановічу сёння гэта не трэба, ды і не ўпэўнены мы, што, каб з'явіўся Багдановіч сёння, усё не паўтарылася б спачатку”.

Міхась Стральцоў, здаецца, не быў абыдзены ўвагай жанчын. І апошнія гады, пасля звароту з Мазыра, на свой літаратурны круг, ён зазнаваў вялікі жаночы інтарэс да сваёй асобы. Бескарыслівай, карыслівай, імгненнай, сталай. Капланкі кахання, закаханыя толькі ў яго, Стральцова, вечныя курсісткі, якія павінны былі мець абавязкова

суб'ект захаплення — акцёра, паэта, скептычнага мысленніка... Рыбылоцманы, якіх вабіла слава Міхася Стральцова, хай не вельмі гучная, прымглёная, але бясспрэчная, надзейна „забяспечаная” ў часе, жанчыны, для якіх каханне магло быць сэнсам жыцця, урэшце — кабеты, якіх зваблівала і яго сапраўднае літаратурнае „я” і няпэўнасць сямейнага статуса: ён не ўзнаўляў афіцыйна шлюб з Аленай Дзмітраўнай і не рабіў з гэтага таямніцы. Было і тое, пра што яго вялікі і любімы ім папярэднік пісаў: „Быть может, и на мой закат печальный блеснет любовь улыбкою прощальной?” (Нездарма, мабыць, перакладаў Міхась Стральцоў „Элегію”.) Дык была і гэтая, развітальная, успешная „улыбка”, Але ці была тая, адзіная, жанчына? І ці ўвогуле, згадаю зноў і зноў, ці можа яна быць — адпаведная вобразу, мары? І хіба кожны з нас, меўшы нейкі жыццёвы і начытаны вопыт, не пацвердзіць гэта? І — хто ведае, ці можа: паэт! — быць аднoечы і назаўсёды закаханы. Ці мелі б мы лірыку Аляксандра Сяргеевіча, калі б ён сустрэў сваю Ганчарову гадоў у -наццаць, ажаніўся і былі б яны верныя адно аднаму дзень пры дні? Не ведаю. Ці калі б наш Багдановіч не меў пакут сэрца, хіба прачыталі б мы:

*О, як прыгожы-дзіўны ты!*
*Двойной красы аблік ядыны!*
*Ажыў у ім твой вечны цэль,*
*Мадонн тварыцель, Рафаэль!*

Пастарнак правы. Хаця „прататып” пачуцця, мары — ён існуе ў часе і прасторы, і мае больш ці менш дасканалы і адухоўлены выгляд. Але ж — ці ў падзейнай рэчаіснасці рэальная Любоў Мендзялеева была тоеснай Чароўнай Даме, якую ведае свет? „Величавая Вечная Жена” — яна таксама была ўвасабленнем платонаўскіх і піфагарэйскіх міфаў. Эзатэрычная зададзенасць цыкла вершаў пра Чароўную Даму, уяўленне паэта пра „Уладарніцу Сусвету” як ахоўніцу таямніц быцця і трагедыя рэальных узаемаадносін — Блока і Мендзялеевай — ці не яскравы ўзор таму? Блок і Багдановіч — блізкія Міхасю Стральцову паэты. І мара пра Жанчыну Жыцця, як і ў іх, заўсёды была з ім. Менавіта — так. Мара пра Чароўную Даму. Ці быў нехта, хто рэальна адпавядаў гэтаму вобразу ці мог бы аднавядаць — не ведаю. Тэарэтычна здаецца — наўрад. Ці бывае эквівалент мары? Хто адпавядае кожнай рысачкай — яму, Вобразу? Тут трагедыя паэтаў, і тым шчаслівы іх лес, што Мара выяўляецца ў Вобразе. Вобразе, што з'явіўся дзякуючы нейкай рэальнай жанчыне, пэўнага росту, пэўных параметраў, з рэальным колерам вачэй, у канкрэтных строях. Жанчыне, вабліва далёкай ці спакусліва блізкай.

Адсюль — і донжуаны ўсіх часоў. Тут і Блокава, жорсткае: „Да, есть печальная услада В том, что любовь пройдет, как снег”, „Нет, с постоянством геометра Я числю каждый раз без слов Мосты, часовню, резкость ветра, Безлюдность низких островов”. І гэтыя іранічныя радкі М.Кузьміна (таго самага, з Цэха паэтаў, акмеіста і кларыста): „И снова я влюблен впервые, Навеки снова я влюблен”, — ці няма тут нейкай усмешлівай ісціны? Адсюль — вершы, музыка, танец, адсюль — той стан і настрой, што ўзвышаюць над будзённым днём, над звычаёвасцю.

Настрой гэты быў добра вядомы Міхасю Стрельцову.

Я не памятаю, што я пісала ў сваім лісце (чарнавіка не было), але атрымала з Мазыра ліст, у якім, па сваёй звычцы, Міхась Стральцоў зноў шчыра падманваў сябе. Зноў — песціў сваю Мару. Ствараў вобраз Яе. Так склаліся абставіны, што зноў мела да таго дачыненне я. І — талент ягоны. У які ён верыў і не верыў. І — творчасць. Пра якую ён згадваў, думаў, спапяляючы сябе сумнівам, аддаючы сваё пяро эпісталярнаму імгненню, перагараючы думкай у словах інтэрлюдый.

„Дарагая Ала!

Дзякуй за харошае, духаўздымнае пісьмо. Чытаць яго было і прыемна, і, ведаеш, трошкі балюча. О, не трэба чалавеку заглядаць далека ўперад! Не трэба, можа, каб яму і гаварылі, што ён нечага варты, нешта зможа, каб захацеў і г.д. Ты, вядома, не гаворыш так, бо ты разумніца, але вось пасля твайго ліста я падумаў чамусьці, што ў мяне, мусіць, мала самалюбства (аўтарскага, у дадзеным выпадку) і што я да гэтай пары (а пара, мусіць) так і не вырашыў для сябе пэўна, добра гэта ці блага. У тое, што нешта патрэбна тваё, мае ці іншых нейкіх другім іншым, тым больш у такой меры, якую ты па дабраце сваёй кладзеш, верыць мне, скептычнаму, калі хочаш, рамантыку, асабліва не выпадае. Мне даволі было б і ўсведамлення (узрост, пра які ты пішаш), што я, скажам, нейкім чынам патрэбны аднаму чалавеку: ці не даволі гэтага для таго, каб аддаць яму, як найлепшае ў табе, ашчаджаную з гадамі пяшчоту, веру без прыніжэння яе падазрэннем ці разлікам, удзячнасць за непрымушанае парыванне — усё тое простае і пазначанае вечнай навізной, што ўціхамірвае нас у сталасці і ўстрымлівае ад хапатлівай пагоні за „асалодамі” („насалодамі”, як піша Караткевіч), дае неганарлівае адчуванне ўласнай асабістасці — без боязі патануць ці панішчыцца ў агульным. Вырасце цырбулька дзядоўніку ці ліст конскага шчаўя пасля нас — якая розніца? Верыць у сустрэчу „в лице ином” немагчыма хаця б таму, что нам не дадзена „там” памяці пра былое сваё існаванне, не дадзена

ўспаміну „там” — якая ўжо „сустрэча”! Вось чаму ў чалавека на гэтым свеце, акрамя жыцця, ёсць яшчэ адна толькі ўзнагарода — успамін, тое, што жывіць мастацтва — акрасу гэтага жыцця. „Природа знать не знает о былом” — гэта, здаецца, Цютчаў. Чалавек — ведае. Даражыць імгненнем, а не ганяцца за ім, зрабіць імгненне асацыятыўнааб'ёмным (вось дзе патрэбны ўспамін) — гэта чалавечы космас (і мікра, і макра), а усё астатняе — пустата, „Холодные миры”, ачоскі туманнасцяў, і няхай Калмагораў гаворыць пра магчымасць „думающей плесени” — суцяшэння мне ці каму ад гэтага мала. Адным словам, няхай жыве ўспамін!

Вось табе трохі „філазофіі”, а з якой нагоды — сам не ведаю. Мо з той, што проста ты патрэбна мне — думай пра гэта як хочаш.

А на чалавекаў я, наогул, не крыўдую. Даўно паблажлівы — можа, залішне нават. Многім гэта здаецца абыякавасцю, хоць гэта і не заўсёды так. Мяжа тут усё ж ёсць.

Здаравенькая будзь. Не сумуй. Ніякі ты не ныцік. Чалавек, у якога ёсць свой свет, не адзінокі ўсё ж.

Міхась. 26.08.82”.

Няхай жыве ўспамін! Ці мае там, у сваім „вялікім ніколі”, Міхась памяць ці адчуванне, ці інтуіцыю? Ці ведае ён пра мае гадзіны, дні, месяцы — сам-насам з ягонымі лістамі? Маімі лістамі? І што я павінна была рабіць тады? Досыць залітаратураная асоба? Можа, трэба было кінуць усё і ўсіх і бегчы... Спяшацца... Куды? Навошта? Ратаваць? Дапамагаць? Падмацоўваць духаўздымным настроем? Прысмакамірыштункамі? І з'явіўся б нечуваны творчы імпэт? Шыбаваць у „Піцербурх”? І тады з'явіліся б неспазнаныя шэдэўры? Не, я вельмі скептычна ставілася заўсёды да сябе ва ўсіх іпастасях. Нават у гады блакітных align мараў і ружовых спадзяванняў. (Таму, дарэчы, і не задумвалася, калі падпісвала першыя спробы пяра — ат, як ні назавіся, хоць гаршком, аднак пазней зразумела: нават сціплыя допісы павінны быць падпісаны адпаведным імем. Хаця — Стрельцову была не патрэбная гэтая аздоба: ён быў Стрельцовым.) Дык ні месіяй, ні місіянеркай, ні музай, ні ахоўніцай, ні выратавальніцай я сябе не адчувала. І ставілася з пэўнай іроніяй да прэтэнзій іншых. І нават да шчырых парыванняў — на ролю выратавальніц і ахоўніц.

Ды і той год сам па сабе свет, само існаванне былі для мяне дарункам лёсу. Усё адчувалася наноў. Сонца? Шчадроты Бога. Дождж? Дар нябёсаў. Кубачак кавы? Рытуал. Быццё было самадастатковым. Мне было вернута жыццё. І рытм жыцця здаровага чалавека. Мне здаецца, такое адчуваі не павінна было быць у Стральцова пасля вяр-

тання. Воля! Ніякага рэжыму. Чалавечыя, неўнармаваныя паводле законаў казармы, умовы жыцця...

Да таго ж, у Міхася Лявонцьевіча былі складаныя, адгалінаваныя сямейныя стасункі. У мяне — сям'я. Ці думаў пра гэта ён? Не ведаю. Але — ён быў Паэт. „Слагаются победы Из опыта потерь”. Яму была вядомая гэтая ісціна, таямніца якой адчынена толькі абраннікам светлай Багіні Красы. Ён не баяўся страціць. Наноў. А я, маючы надзейную ахову маіх гадоў, што, згадаю яшчэ, траха перакуліліся за грэцкае акмэ, і сякую-такую літаратурную і жыццёвую загартоўку, разумела нашы эпісталярныя дачыненні як неабходную яму гульню, як практыкаванне душы. Як неабходнасць нейкага сенсорнага спажывання. Урэшце, зноў жа, зноў, — як тое, што Міхась піша ўсё гэта Вобразу, што ствараў сабе там, у замкнёнай прасторы, на самоце. Я ж мела тое, што ў мяне ніхто не мог адабраць, не мог увайсці за мной, мог толькі здагадвацца пра гэта, адчуваць. Так, свой свет у мяне быў. І я бараніла яго. І ведала — там я сама сабе: не каралева, не, — але істота цалкам незалежная. Ні ад абставін, ні ад людзей, ні ад чыіх учынкаў. Ні ад Удачы, ні ад Поспеху. Ні ад няўдач. І скрухі. Міхась адчуваў гэта. І мне, можа, вышэйшая жыццёвая ўзнагарода — гэтыя ягоныя словы: „Чалавек, у якога ёсць свой свет...” Нясціпла? Не ведаю. Гэты свет я не змагла, мабыць, выславіць, увасобіць у вобразы, хаця грэшная — ад спакуслівага граху прозы я не пазбавілася, друкавацца — не спрабавала (адзіны выпадак, калі я вульгарную падробку пад традыцыйную прозу насіла аднаму скептычнаму рэдактару, не залічваю, падрабленне — заўсёды помсціць, нельга спрабаваць пець не ў дадзенай табе прыродай актаве).

А ў тым свеце былі і Блок, і Эмілі Дзікінсан, і Шэкспір, і Гётэ, і Булгакаў, і Брыль, і Стральцоў... Той Стральцоў, што належаў мне, як і тысячам іншых чытачоў, з якім я заўсёды магла весці гаворку, незалежна ад яго настрою, ад абставін, ад яго стаўлення да мяне. Гэтага — у мяне ніхто не мог адняць, ніхто не мог мяне пазбавіць. Нават ён, Стральцоў. Як ніхто не мог бы адняць сонца, аблокі, дрэвы, пошум ветру, дажджы, снег, птушыны шчэбет. Шапэна. Баха... І дачыненні да высокай існасці Боскай...

І той „свеце ясны”, што быў светам Міхася Стральцова і ў якім раскашавалі ўсе мы, ягоныя чытачы. Ці трэба было ў тым свеце прыдбаць куточак і мне? Мабыць, не. Ці трапіў у той свет ідэал ягоны, стральцоўскі? Не ведаю.

Воля ўжо блізілася і выдавала пакуль што сваю ману. Міхась нерваваўся. У мяне тым часам прыходзілі па тры-чатыры „хуткія” за ноч. Да маці. Зноў я не заўсёды магла адразу адказаць на ліст. Ноч

без сну, праца, аптэка, пошукі лекаў, пошукі падарункаў для ўрачоў і фармацэўтаў (наша знакамітая бясплатная медыцына!)...

„Прабач мне маё назалянне, але тое, што ты маўчыш, пачынае непакоіць мяне. Думаецца рознае. Найперш, вядома, пра хатнія твае турботы. Дзяліцца імі, зразумела, неабавязкова з кожным, але для мяне, павер, важна ведаць, як ты і што. Мне заўсёды хацелася заслужыць хоць колькі твайго даверу, ды вось бачу, што не заслужыў. Мне вельмі крыўдна і шкада сябе. А мо пісьмо маё не атрымала? Думаецца яшчэ, ці не ўшчамілася сюды (прабач грубае слова) якая плётка? Хоць і не бачу прычын са свайго боку для гэтага, дапускаю, што непаразуменне якое-небудзь магло выйсці. Ад гэтага ніхто не беражоны, на жаль. Толькі вось непаразуменні, калі яны ўзнікаюць, неяк трэба „здымаць” — пры ўзаемным даверы. А мне хочацца думаць, што я магу разлічваць на твой давер.

Можа, я ўсё тут перабольшваю, можа, проста выдумляю сам сабе — толькі ўяві і мой стан. Каб я хоць мог табе пазваніць!

У мяне тут усё пакуль няпэўна. Бібліятэку, можа, пачну перадаваць днямі. Колькі гэта працягнецца, не ведаю. Потым — павінны быць яшчэ аж дзве камісіі — медыцынская і судовая. Калі — таксама дакладна не ведаю. Вакол мяне адны пытальнікі. Гэта — тут. А ў Менску іх колькі!? Я не надта бядую, але нервы наструнены.

Слухай, падрыхтуй мне нешта накшталт спіса таго, што мне, вярнуўшыся, трэба будзе прачытаць у першую чаргу. Што мяне цікавіць, ты ведаеш: пачні хаця б з часопісаў. Збяры, што можна, да адной кучы. А я табе падару за гэта „Голубой чертополох романтизма” аднаго аўстрыяка, Айзенхарда [правільна — Айзенрайха] — нешта і ад Музіля, і ад Шніцлера, і ад Ст.Цвейга нават, і ад Кафкі дзе-небудзь — адным словам, „венская школа” — не „пражская”. Гэта — апрача розных іншых дробязяў (не кніжных), якія хачу табе падарыць.

Не буду размахвацца на пісаніну. Можа, заўтра будзе ад цябе пісьмо. А на гэта ты ўсё адно адказвай.

А мне усё ж трохі сумна. Бывай.

Міхась.

6.09.82”.

У 1984 годзе, калі ўсе развітваліся з маёй маці, зайшоў і Міхась. Народу было процьма — з Наваградка, з Гародні, менскія, блізкія і далёкія знаёмыя, амаль усё выдавецтва „Мастацкая літаратура” (я тады рабіла там — і яшчэ раз спазнала ў горкія хвіліны, якія спагадлівыя і добрыя людзі побач са мной), са службы майго мужа. Кветкі, кветкі, кветкі... І маці — строгая, у чорным, загадзя падрыхтаваным строі. Я

гляджу толькі на яе — тры дні, як то павінна быць у хрысціян. І раптам адчуваю: кветкі паклаў Міхась Стральцоў. Падымаю вочы — яго ўжо няма. „Стральцоў?” — пытаюся ў мужа. „Так”.

А праз тыдзень адышоў з гэтага свету бацька Міхася Лявонцьевіча...

Былі, былі нейкія паралелі і перакрыжаванні...

„Даражэнькая!

Вечар добры, а калі хочаш, то дзень ці раніца! Гэта ўжо як табе патрапіць. А я ўвечары пішу, у той дзень, як атрымаў тваё пісьмо. Дзень няўдалы для пошты: заўтра субота, а потым нядзеля. З Эолам не адашлеш табе пісьмо: галубоў, што жывуць у паддашку тутэйшай лазні, і добрай жардзінай, каб была, не выганіш у вялікі белы свет: аблянелі [нечытальна], як нашыя прапары, — бо харчоў, здаецца, хапае. Не люблю я чамусьці гэтую птушку. Хоць яна і сімвал нечага, — пошлая і, мусіць, недалёкая, як газетная кіяскёрка. Чаму кіяскёрка? — Бог яго ведае, нешта прыйшло ў галаву раптоўна — і напісаў. Пісьмо ўсё ж, можа, патрапіць да цябе раней нашага кардоннага тэрміну — таму яго зваротнаму адрасу ўвагі не надавай — так трэба. А літару мне, калі хочаш, можаш не пісаць. Наша паштарка цяпер у адпачынку, і пошту я сам забіраю: сваё пісьмо знайду і сам сабе ўручу. Вяртаецца яна (паштарка) у канцы верасня, а я месяц тут, пэўна, праседжу, — нешта ўжо і спадзявацца на дарогу перастаў. І ты неяк неімпэтна, прабач, пішаш, і надзей у мяне на нешта добрае няма, і зіма скора, і турботаў, як у Чыгрынава славы, наперадзе, і радасці не бліщчыць, — жыццё ўяўляецца нейкім прымыльнікам ці то дзяжурным міліцэйскім пакоем. Брррыда!

Хоць бы ўжо табе неяк здатней ды весялей пачувалася, і то мне было б цяплей!

Горка мне чытаць было пра Сцяпана Захаравіча [Гаўрусёва], шкада магутную сілу, але падумаўшы, быць В.-мі ды У.-мі — не такі ўжо і вялікі „прыварак” бядотнаму чалавецтву. Сцяпан Захаравіч хоць гусарыць умеў, і то добра, а куды яно пайшло ўсё і навошта і на што пойдзе — нам не дано предугадать, сапраўды. Але, цвяроза разважыўшы, Т.-чаў вершыкі ягоныя пераживуць, як і вершыкі іхнія таксама. Истинно, истинно говорю тебе... Малое суцяшэнне, канечне, — але што ж рабіць? Ты вось не абяцаеш мне ні ласкі, ні спагады, а я табе пішу, і мне добра, пішучы, і я забываю, што многа ёсць сіл і клопатаў, якія рвуць чалавека на часткі, і нават часу сабраць сябе зноў няма, не тое што спадзявацца, быццам некаму патрэбны твае шарыкі ды вінцікі.

Я ў апошнім пісьме, якое ты, калі адпісвала мне, мусіць, яшчэ не чытала, збаяўся якой-небудзь брыды — не за сябе, за цябе, а цяпер бачу, што трывога дарэмная — і дзякуй Богу!

„Чтиво” ты маё будучае ўсё ж сплануй — я пісаў сур'ёзна.

Не зразумеў, чаго паляцела ты ў Наваградак, — нейкая своевольная комета в кругу расчисленных светил. Узяла б лепш камандзіроўку ды на нашу браму зірнула: бачыш, рэўнасць ува мне загаварыла. Слаб человек. Я табе сур'ёзна кажу: хочаш апекавацца (нават хоць трохі), шукай мне добрую жонку, бо сам я, бачаць богі, не знайду. У Персію мяне ніхто не пусціць, на сцэнарныя курсы ў Маскву я не траплю, бо не маю ніякай драматургічнай жылкі, ні хэнці мець яе. У вёсцы жыццё яшчэ жарстчэй, сіберней, чым у горадзе (я гэта ведаю), а гаспадарыць я не ўмею. Да таго ж вось і развaж, што мне рабіць? Думай, даражэнькая, бо я перабраў у думках шмат чаго: нават на топшчыка ў Каралішчавічах меціў, ды, з аднаго боку, малады, незагартаваны п'яніца мару падкасіў [нечытэльна], з другога — Сцяп[ан] Зах[аравіч] той жа, дай Бог яму здароўя, раней за мяне там сабе маёнтак агораў.

Абавяжу лепш цябе пакуль пісаць мне праз дзень пісьмы і ў кожным даводзіць, што я цаца, што я харошы, мне мяне, як буду ісці ў суд на раздзел жылплошчы, хоць здалёк перажахнеш, што ў мой халасцяцкі пакой ката з парога ўкінеш, што кветкі на балконе, калі той будзе, прымусіш пасадзіць увесну, калі да вясны (о!) дажыву і калі паспею памяняць да той пары кватэру. О! Наогул, я не жартую, я праўду напісаў, што клопатаў у мяне будзе, як у Іцкі знаёмых.

Надакучыў я, адчуваю, сваімі фразамі і перафразамі табе, ды яшчэ не ўцяміў, што на гэткай паперы варта было з аднаго боку пісаць [папера амаль бібулковая, толькі папяросы рабіць], — і будзе табе мэнка і раздражненне, чытаючы. Прабачай.

Пішы, даражэнькая, а я чакаць буду і дні лічыць. І спадзявацца, што, можа, мы з табою сёлета па зялёнкі і радоўкі ў лес з'ездзім. Як ты глядзіш на гэта?

Кветкі ў мяне пад акном каторыя адцвілі, каторыя яшчэ чапурацца: кветкі, наогул, познія. І два каштаны мае падраслі, і лазіна, у якой я абразаў адзін ствол, вунь як угору за лета пайшла — узрадавалася расці. Ластаўкі тут за акном сядзелі летам на правадах, міла шчабяталі — адляцелі цяпер. Прылятае на кветкі чародка чыжоў — прыгожыя і рахманыя птушкі. Жулька, што ў гарачыню ў сваёй пячоры пад кветкамі спала, цяпер ляжыць удзень на ўгрэве збоч асфальтаванай дарожкі — ласкавае такое і разумнае стварэнне. Я думаю, яна асабіста ведае кожнага ў зоне і ведае кожнаму цану.

І гэта я так закругляюся! Загаварыў цябе, а ты зноў зробіш выгляд, што не заўважыла тое, што было перад тым (во стыль) — пардону прашу!

Бывай. Пішы.

Міхась.

10.09.82”.

Сцяпан Захаравіч... Ён пайшоў з гэтага свету, не нашмат перажыўшы Міхася. Любіў зайсці ў рэдакцыю — спачатку „Мастацкай літаратуры”, потым „Немана”: „Ну што, высакавольтная?” (Гэта нейкі мой допіс падаўся яму такім „энергаёмістым”.) Гаўрусёў усё і ўсіх чытаў, любіў добрае слова кінуць. Пра Міхася Стральцова гаварыў ціха, важка, неаспрэчна: „Геній”.

У тую пару, калі пісаў Міхась Лявонцьевіч, Гаўрусёў узяў шлюб з пакаёўкай Дома творчасці (не ведаю, ці афіцыйны) і жыў у маленькім дамочку на тэрыторыі Дома. У яго пагоршыўся зрок, нешта, здаецца, пакульгваў, але — заўсёды ў чысцюткай белай кашулі, высокі, паглядны, ён згадваў: „Якія вогнішчы мы тут палілі з Пысіным! Верталёты прыляталі — праверыць”. І гаварыў, расказваў пра свайго сябра з Магілёва. Паэт пра Паэта.

Гаўрусёў недзе за дзень да сваёй смерці зайшоў да нас у рэдакцыю „Нёмана”, выклікаў мяне з планёркі, падараваў сваю апошнюю кнігу... Паэт...

Былі на тэрыторыі каралішчавіцкага Дома творчасці і тыя „Джэры і Джульбарсы”, пра якіх пісаў Міхась. Тым летам — „афіцыйны” сабака Валет і „неафіцыйная” Пальма. Пальма таксама ведала, здаецца, усім цану. Вельмі любіла нашчадкаў Пімена Панчанкі. Пасля іх ад'езду доўга жыла ў нас на верандзе. Але гэта ўжо іншы аповед. Іншая драма, між іншым.

**„У расстанні ёсць вялікі сэнс...”**

„Добры дзень, дарагая!

Гэта, як уздых, — трохі стомлены, трохі безнадзейны — трохі з надзеяй на палёгку. „Даражэнькая” і „дарагая” — адчуваеш розніцу? Адчуўшы, адчуеш і мой настрой. Ну іх к Богу, нашыя праблемы і нашыя клопаты, наша свядомае ці міжвольнае хітраванне з самім сабой! Бо як падумаю, што чалавеку ў гэтым жыцці, па сутнасці, так мала трэба і што гэтае „малое” з такімі вялікімі пачаткамі (Дастаеўскі неяк прагаварыўся, што гэтае „малое”, „простае”, можа, настолькі сапраўды простае і малое, што чалавеку ў яго немагчыма паверыць),

бо калі падумаеш так, сапраўды робіцца не па сабе і ад усялякіх нашых слоў, і ад нашых зважанняў на чужыя ці свае акалічнасці, і ад апраўдання гэтых нашых зважанняў — і тады нейкі лісток засохший, безуханный гаворыць нашаму розуму і пачуццю больш, чым усе нашыя акалічнасці. Ты добра зрабіла, што прыслала мне гэты лісток, запытаўшы тым часам, ці не пакрыўдаваў і г.д. Пакрыўдаваў-такі, мусіць, даражэнькая (вось тут яно на месцы) і гэта ты, можа, адчуеш з майго трохі бурклівага пісьма, не гэтага. Адчуй і будзь са мной трохі шчырэйшай. Крый мяне Божа папракаць цябе ў няшчырасці наогул! Мне проста здаецца, што ты ў нечым щадишь мяне ці аберагаеш, а ў чым, зразумець не магу, — і ў гэтым недагаворанасць нейкая. Мо мне і здаецца. Вось пабачу цябе на ўласныя вочы, пачую твой голас — і зразумею, можа, у чым тут справа і сакрэт.

Не памятаю, ці пісаў табе (а больш, здаецца, каму?), што мая малодшая дарослая дачка пачала мне пісаць апошнім часам і нават прыслала свае вершы. Што яна піша, я ведаў і раней, а тут пабачыў на ўласныя вочы. Здаецца, нешта ёсць (кажу гэта аб'ектыўна). Але больш мяне суцяшае яе сур'ёз, неблагая філалагічная адукацыя, наогул, па-мойму, даволі мізэрная ў наш час у дзяўчатак (і не толькі) яе ўзросту. Я напісаў „адукацыю", а трэба было — пісьменнасць: адчуванне стылю, што мне асабліва даспадобы. Я гэта ўсё да таго, што хацеў бы, каб ты неяк пазнаёмілася з ёй і ўзялася кіраваць хоць збольшага юнай душой: я гэта не ўмею ды і баюся адчужэння пэўнага — у жанчын узаемапаразуменне, можа, прасцей. Я прасіў Вераніку пазваніць табе (даруй, што без твайго дазволу, бо, дарэчы, прасіў даведацца, чаму вашэці маўчыць), прасіў, а званіла яна ці не, не ведаю, бо ты нічога не пішаш, а яна не адпісала пакуль.

Прыгарні, калі пазвоніць, да сябе дзіцё: мне, дальбог, хочацца, каб нехта меў на яе харошы жаночы ўплыў — інтэлектуальны і псіхалагічны.

Што ты думаеш пра ўсё гэта, напішы, але ведай, што мне хочацца настойваць на сваім хаценні.

Вершы „дитё" піша чамусьці па-руску, а варта было б скіраваць на што іншае, тым больш, што і вучыцца ў універсітэце на бел[арускім] аддзяленні. Вядома, я скажу пра ўсё гэта ёй і сам, толькі не ў лісце, можа, і не адразу. Не адразу, бо хачу, пабачыўшы пасля году адсутнасці, уцяміць, што і як. А ты зачапі яе як-небудзь цяпер — зразумей толькі мяне правільна: я, можа, бянтэжуся трохі сваёй ролі і таму прашу ў цябе дапамогі, але не толькі таму. Галоўнае — ў маёй упэўненасці, што твой уплыў можа быць найбольш дзейсным. Ты, можа, пасмяешся з маіх гэтых старанняў; але ж мне ў глыбіні душы

ўсё ж нешта лесціць, што ў малой прысутнічае-такі філалагічная жылка і што яна можа аслабнуць без пэўнай увагі, бо вучыцца малая на вячэрнім (а мо цяпер і завочным?) адзял[енні], а дзе там літаратурнае асяроддзе і г.д.?

Пра маю ўяўную чытацкую дасведчанасць ты, здаецца, трохі перамяніла думку,бо сапраўды — якое тут у мяне было чытанне? Канечне, я не чытаў тут, як не чытаю наогул, розную выпадковасць, лухту. Тое-сёе цікавае для сябе я і тут прачытаў, але вось навінкі?! А навінкі ўсе ў цябе, ды яшчэ вунь якія! Якраз усё тое, што трэба мне. Я чытаў з таго, што ты згадваеш, толькі Ресэ — і „Воўка”, і „Гульню ў бісер”.

Фільмы, вядома, не бачыў. „Амаркорд” асабліва хацеў бы паглядзець. Феліні чамусьці мой любімы рэжысёр. „Хрысціянскі” пачатак у ім цаню, адсутнасць бяздумнай жорсткасці і чалавечнасць і адухоўленасць сімволікі. Наіў, можа, пры гэтым. Наогул наіў у мастацтве люблю — гэта нешта накшталт супермастацтва, ці што.

Але — даволі. Бібліятэку я перадаю, але — марудна, ты пакуль мне пішы. Зразумела? Калі прыйдзе час „закругляцца” — вестку падам.

Не журыся, а я буду думаць пра сустрэчу.

Міхась.

27.IX.82”.

З Веранікай мы сустрэліся пазней. А той парой яна акуратна патэлефанавала мне, сціпла-інтэлігентным голасам спытала пра здароўе. Але бацьку — як згадвала пазней яна сама — паспавядала добра. І ён тлумачыў нашы стасункі: мы сябры, „маю права на такую раскошу”. Вераніка паказвала мне гэты ліст бацькі ў першы дзень нараджэння Міхася Лявонцьевіча пасля яго смерці, 14 лютага 1988 года. Пасля могілак мы з Веранікай паехалі да мяне і доўга гаварылі. Пра яе, пра яе бацьку...

А пазнаёміліся мы ў тых жа Каралішчавічах. Быў семінар маладых. У 1984 годзе. У снежні. У Веранікі з'явілася некалькі цікавых рэцэнзій у друку. На семінары іх высока ацаніў такі сур'ёзны літаратуразнаўца, як Алесь Яскевіч. Прыемна было сказаць сваё слова і мне. І не таму, што пра гэта прасіў некалі бацька. Таму што сапраўды падаваў надзею тонкі крытык — крытык паэзіі. Вершаў сваіх на семінар яна не давала. Вельмі прыгожая — класічная, арыстакратычная прыгажосць — яна трымалася з годнасцю, трошкі адстаронена. Я таксама не стала парушаць „дэмаркацыйнай лініі”.

Сапраўднае наша знаёмства адбылося, калі я прыйшла рабіць у „Нёман”. У тое цяжкое лета 1987 года, у бараўлянскія, апошнія тры месяцы Міхася Стральцова, мы часта сустракаліся, тэлефанавалі адна да адной — і ўранку, і ўвечары... Захавалі добрыя адносіны, і калі яго не стала. „Дамы-патранэсы” з мяне, праўда, не атрымалася. Па розных прычынах. Ды, мабыць, апекаванне — не мая роля. Я заўсёды не хацела быць назолай. Не любіла і не ўмела настойваць на нейкіх сваіх высновах. Заказвала Вераніцы некалькі рэцэнзій, як прыйшла ў „Нёман”. На кнігу Веры Вярбы яна зрабіла прафесійны, з настроем, матэрыял. Нешта не напісала. Часта заходзіла да бацькі — мы рабілі разам з ім са снежня 1986 года да таго, як ён лёг у канцы мая 1987-га ў шпіталь. Тады і пазначыліся нейкія прыязныя нашы адносіны з ёю. Пры жыцці Міхася Лявонцьевіча — і калі яго ўжо не было побач з намі. Натура тонкая, выбуховая — Вераніка то з'явіцца нечакана ў навагоднюю ноч, як снягурка, з вялізным пакункам апельсінаў, то дашле на дзень нараджэння мілую, натхнёную тэлеграму...

А тым часам, у 1982 годзе, было яшчэ некалькі лістоў, у якіх Міхась, упадабаўшы ролю рамантычнага скептыка, дакараў маю сумотную шэрасць і папракаў у квакерстве, фарысействе і розных іншых смяротных грахах. Можа, і не варта было б цытаваць адзін з яго апошніх лістоў, але ж у ім так відаць той самы „талант общения”, які ён сам у сябе адмаўляе. Талент, так бы мовіць, маналагічнага дыялогу. Тое, чаго няма ў яго творах, і тое, што, можа, не заўсёды было заўважнае ў жыцці — ён быў негаваркі, больш моўчкі назіраў, пасміхаўся, даваў раптам нечаканую характарыстыку.

„Даражэнькая! Ала!

Сіберны твой скразнячок прасвістаў маю істоту навылёт. Во і цяпер нешта казыча пад лапаткамі, але я абтросся ад дрыжыкаў і мушу ўсё ж сказаць, што нешта не падабаешся ты мне сёння, даражэнькая! Дарэчы, вось я заўважыў, што і „даражэнькім” ты мяне хрысціш, як не ў гуморы. Буду плаціць табе тым жа і я, даражэнькая.

А цяпер скажы, на якое ліха мне Аг. (добра хоць не У.), навошта S.S. — нават ён, душу і розум якога я сапраўды цаню, — навошта мне яны, калі мне трэба нешта, што абарочвалася б табой, крупінкай тваёй увагі ды нейкай няхай прыхамацінкай, бо няўжо ты не зразумела, што я стаў тут капрызлівы — не на чытанне, — не, не на яго, а на чалавечае слова і жэст, і мне сапраўды крыўдна, калі ты адмерваеш нейкую „дыстанцыю”, якая табе магла прымроіцца толькі тады, калі ты пра сябе ці пра мяне падумала блага — а можа, і пра абодвух. Не падабаецца мне, што ты рядишься в этакую просвирню или сваху от

Александра Серг[еевича], а мне от него оставляешь каких-то А.П. [Анну Пятроўну Керн], Е.К. [Елізавету Ксавер'еўну Варанцову], — почему бы еще и не Собаньскую! Последнюю А.С. любил, может, правда, в известном смысле. Ну что, получила? „Секс-бомбочки” под меня подкладываешь? А? А сама захінулася У.-каўскай хусткай-канаплянкай і перастарэкаеш! А сама ўсміхаешся сабе хітранька і думаеш: ухопіць тую бомбу ці не?

Халера яго ведае, за якую „бомбачку” я, прыехаўшы, ухаплюся і які „бікфордавы шнур” падпалю! Вось панаглядаеш, але наперад скажу, што ва ўсім толькі ты будзеш вінаватая, бо жорсткім сэрцам ды яшчэ і супрацьжонкавых ірвоў вакол сябе накапала, „ежей”, аж чарнее і курчыцца ўвачавідкі любы бедны лісток надзеі! Хіба можна так?

Ты як-небудзь у вольную хвіліну ўсё гэта вазьмі вось і разваж, значыцца, так: ты не крыўдуеш на мяне за „адповедзь”, як я на цябе за „сівер” — згода? а „чтиво” якое-небудзь часопіснае і нечасопіснае падбяры, спагані са сваіх знаёмых даўгі. Я што прачытаю, што хоць вокам пракіну, „веласіпедна”, як пісаў некалі Гершэнзон, кажучы пра чытанне „пехам” і пра тое, што завецца „галопам”, а ў яго, бы, — „веласіпеднае”! У яго ёсць увогуле „пешак” чытання на прыкладзе „Онегина” — многа дробязей, але цікава, праўда.

Не сварыся, даражэнькая, калі ласка, са мной, умягчайся душой, думай часам не толькі пра каралішчавіцкіх сабачак [я яму апісвала гісторыю разумніцы Пальмы], але і пра тое, што і чалавекі іншым часам бываюць удзячныя і верныя нават — хаця б у дружбе.

Выдавецкія навіны мяне чамусьці мала кранулі, хоць я і рады за [прызначэнне] В. Ён хлопец, здаецца, сур'ёзны і не амбітны, і не хварэе, здаецца, на D.-скія комплексы абойдзенага ды пакрыўджанага — а это уже последнее дело для литератора и первая проба для чиновника от литературы. D., к сожалению, чиновник, и его беда в том, что боится признаться себе в этом. С такой половинчатостью карьеру делать трудно, а D. надо делать карьеру, пока не поздно — последние часы окончательного решения прошли! Прошляпит, боюсь. И обозлится еще больше. А так можно стать понеприятнее и Е. Вот видишь, как я бываю зол. И не такой уж я паинька.

Но... полюбите нас черненькими, а беленькими мы сами себя полюбить можем. Каково?

Пиши. Ты не спрашиваешь, что мои дела, и правильно делаешь, потому что ничего определенного еще не знаю. Пиши, пиши.

Міхась;”

Тут прамільгнула тое, што я ведала, адчувала і што потым сцвердзіў Міхась — ён быў верны ў сяброўстве і ўдзячны. „Дыстанцыя” ж, пры якую і згадвае Стральцоў, паводле майго ліста, дыстанцыя паміж Талентам Стрельцовым і аматаркай Красы, якую часам даймае сверб пісьма, — дыстанцыя гэтая „огромного размера”. Тое ж, што ў наступным лісце сам Стральцоў называе сябе „аматарам ад пісьменства прыгожага” — то тут боль: і ад крыўды — наноў пачынаць жыццё? І боль ад няспраўджанага, ад нязробленага. І тая скруха, што магла праняць каго хочаш, калі ён даведаўся — а хутчэй за ўсё такі даведаўся — пра словы адной з літаратурна-кіруючых асоб: „Сядзіць там, у ЛПП, і хай сабе сядзіць”. Сябры Стральцова вялі перамовы наконт датэрміновага вызвалення пісьменніка.

Увогуле магу сабе ўявіць адчай ягоны — там, у Мазыры: „втолкнули в зону — и будь здоров”. Што ж тады ўсё зробленае ім? Усё напісанае? Ён, аўтар „Загадкі Багдановіча”, „Смалення вепрука”, чалавек, што стварыў „Адзін лапаць, адзін чунь”, — ва ўладзе „прапоров”. Чаго ж вартае тады ўсё, што зроблена? Яшчэ раз мушу падкрэсліць — я не бяру на сябе смеласць вінаваціць тых, хто спрыяў яго знаходжанню „ў зоне”, не ведаю, ці было нейкае іншае выйсце ці не. Але магу ўявіць увесь жах яго цвярозага ўяўлення, калі ён апынуўся — без суда і следства, без крымінальных прычын — за агароджай зачыненай установы. Ён, тонкі філосаф, паэт, чалавек трапяткой натуры... „Ён быў падобны да спітага Бога”, — пісаў пра Поля Верлена Жуль Рэнар. На каго падобны быў Міхась Стральцоў? На Бога за кратамі, Бога грэшнага і бязвіннага? Вінаватага і невінаватага?

Тым часам той грэшны бог лічыў дні. Да звароту.

„Можа здарыцца так, што пісьсо гэта сам даганю ў Менску. Але — пішу „с той горькой радостью” і т.д. Бацюхны-светы! Больш за год прайшло, адмалацілася, адгрукалася — і года, папраўдзе, не так шкада, як таго, што час упушчаны не для пісаніны нават (Бог з ёй!), а для вырашэння спраў жыццёвых і неадкладных. Вось выйду, а сам у цянётах большых і шчыльнейшых, чым быў раней. Вось што раз'юшвае! О багі!

Пазваню табе з дарогі, калі надарыцца, пакуль жа — і сумна, і няпэўна ў мяне на душы, і адчуванне, што воля як быццам і не радуе, што быццам нечага і шкада — няволі? Кветкі мае тут завялі ўсе (незнарок як у Рубцова выйшла: „Алые цветы мои в садике завяли все”) — наогул. Сіратлівасць і пустэча. У каго яшчэ... „Мокнет, осыпается весь мой бедный сад, листья пожелтевшие по ветру летят”? Але гэта

так, дзеля мінору, можа, прафілактычнага — журба. Будзем лічыць, што журба — пачуццё здаровае.

Каб у цябе хоць усё добра было! Матухна. Малю некага і малюся! Мысленна не на вежах Гедымінавых нават, не на ірвах наваградскіх, а на кручы маёй надсожаўскай — на паляпшэнне лёсаў чалавечых, а не на злом галавы! Быць таму! І — аман!

А так — клопату таго, што Z.-ны будуць хадзіць у майстрах нароўні з якімі італійскімі ці фряжскими. У нас усе майстры — і К., і У., і Р., і К., і М. Ну іх! Я радуюся, што ў мяне хоць зайздрасці чорнай няма. Я — аматар ад пісьменства прыгожага. І даволі.

Бывай мо да сустрэчы.

Міхась.

11.10.82”.

Зайздрасці ў яго сапраўды не было. Але грэблівасць нават нейкая да ваяўнічага графаманства натуральна прысутнічала заўсёды. Увогуле ён, як Рэмі дэ Гурмон, лічыў: „Няхай сабе жывуць; мяжу мы адзначылі, ёсць два тыпы пісьменнікаў: тыя, хто ўмее пісаць, і тыя, хто не ўмее пісаць, — таксама, як ёсць спевакі безгалосыя і з голасам”. Так, ён згадзіўся б з дэ Гурмонам: „...узнікла літаратура без стылю, падобная на вялікі шлях, дзе няма ні травы, ні ценю, ці прахалодных крыніц”. А сапраўды — колькі ў нас тых бальшакоў — голых, шэрых, нудотных. Гладкіх, як блін, ці ў выбоінах. Але ж жывога, прыгожага, на што кінулася б вока, мала. Аднак — кніга за кнігай, публікацыя за публікацыяй. І пакуль што ані так званая перабудова нічога ў нас на Беларусі не змяніла, ані рынак не зменіць. (Ды кірмаш той — наўрад ці спрыяе сапраўднай літаратуры. Ледзь не ў кожнай краме — ці Агата Крысці, ці які бестселерчык з малапрыстойнымі малюнкамі.)

Былі кастрычнік-лістапад 1982 года. Рабіліся афіцыйныя захады наконт вызвалення, лісты былі кароткія, пахаплівыя, што тэлеграмы.

„Дзень добры, Ала!

Я дарэмна абнадзейваў цябе, думаючы, што траплю ў Менск 12-га. Гэтага не здарылася, бо не сабраўся высокі суд. Не хачу зноў лунаць во облацех, але спадзяюся на 19-20. Калі так, адказаць мне ўсё роўна не паспееш. Таму развітваюся да сустрэчы.

Пішу таму, што не хачу, каб ты нервавалася дарэмна: можа, не праз мяне наогул, а праз маю нягжэчнасць, нядбайнасць аб прыстойнасці — хаця б у тым, што датычыць перапіскі.

На сконе свайго тутэйшага жыцця я чамусьці стаў спакойны, як трансфарматарная будка. Ох, не к дабру гэта, мусіць. — Паглядзім.

Пакуль бывай. Як сустрэнемся?

Міхась.

14.X.82”.

„Дарагая Ала!

Увёў, увёў я сябе і цябе ў зман дачасна і міжволі! Заела мой лёс, як патрон у казённіку — ні стрэліць, ні назад падаць. Адно добра — бібліятэку я перадаў і ўздыхнуў з найвялікшай палёгкай. Камісіі прайшоў. Чакаю суда. А суддзі то хварэюць, ці з чужымі бабамі, паводле Чэхава, недзе ў фінскай лазні начуюць. Можа, і не так. Кажуць, усё ж хварэюць. А я хварэю на нудоту, на халодную злосць, на боязь асеннезімовай слаты і прымаразкаў — і душа асенняя, падшэрхлая і ачарсцвелая. Пахукай мо на яе, га?

Можа, у аўторак, 26-га, можа, не.

Як і абяцаў, пазваню ці з дарогі, ці адразу, прыехаўшы.

Так хочацца цябе пабачыць.

Бывай. З табою мае малітвы.

Міхась.

22.X.82.

P.S. Два дні, як пацяплела. Цёпла і пахмурна. Падгнілай лістотай хораша пахне, раніцай зямля пацее — апошняя задуха перад зімой. Сініцы ганяюцца па дрэвах адна за адной і неяк па-сарочы чачэкаюць.

М.С.”

„Дарагая Ала!

Я, можа, і сапраўды *дабіваю* недзе апошнія свае дні тут (не падумай, што я крыўляю якого-небудзь Хаіма ці Шмёлку). Як хочаш: наогул: дабіваю, дабываю, але каб сапраўды так.

Пісьмы твае я атрымаў усё ж, неўзабаве пасля пісьма Вераніцы. А вось ці атрымала ты мае? Я там табе агаворваў ролю нейкай бадай што патранэсы, настаўніцы моладзі і г.д., але вось ты пішаш, што размова ваша тэлефонная была паспешлівай, няўцямнай, ці што. Усё ж Вераніка мне напісала, што голас у А.І. *прыемны і малады* — ты гэта адзнач. Гаворыць усё ж, заўважай, жанчына. Нешта ды значыць.

Напісала мне яшчэ ледзь не трактат наконт пасрэдніцтва, няўмяшання і г.д. Як табе гэта падабаецца? Мне бадай што спадабалася. Гэта добра, калі малыя прынсіпы свае заяўляюць.

Калі ўсё ж табе пазвоніць яшчэ (а я хацеў бы), прынаравіся неяк не на хапок пагаварыць: яна летам была ў тваёй любімай (чаму?) Рызе — паахайце адна перад адной з выпадку тамтэйшых дзівосаў розных. Вы, жанчыны, гэта ўмееце.

Навін у мяне ніякіх. Бібліятэку, лічы, перабралі, — на тым справа і стаіць. Трэба акты, спісанне і г.д., а мае рэвізоры каторы дзень не паказваюцца. Сягодня субота, заутра нядзеля, а што ў панядзелак, невядома.

Думаў я трапіць да вас пасля 7-га (Кастр.), ды, мусіць, не. Каб хоць у сярэдзіне месяца. І то б нічога.

Як сустрэнемся? Ты мне столькі, яшчэ больш. чым Ніка (Вераніка) „маралаў" начытала (за ўвесь час), можа, не „маралаў", а блакаду нейкую павяла, пэўна — можа, столькі напамахвала перада мной і амаль незаўважна, як харошая дрэсіроўшчыца, смирительным стыком, што старыя рэфлексы мае затармазіліся, новыя — не выпрацаваліся — і я стаю перад фактам разбурэння асобы як яна ёсць. Вось што ты нарабіла!

Узваж, узваж усё гэта, даражэнькая, і перамянні гняўлівасць і жорсткасць на літасць.

Ну, але тым часам чакаю тваіх лістоў пакуль, пішы — не лянуйся.

Скажу табе штосьці харошае ў другім лісце, калі твой, праўда, не будзе надта сіберным.

Бывай пакуль.

Міхась.

2.XII.82".

Гэта быў апошні ліст. Міхась Стральцоў вярнуўся ў Менск.

Я знайшла запіс у сваім дзённіку ў студзені 1982 года: званіў Міхась. А гаворку я памятаю. Гаворка была звычайнай. Пра нейкія навінкі ў часопісах. Пра выданні Пераверзева (літаратуразнаўцы), што толькі што з'явіліся. Яшчэ пра нейкія літаратурныя і калялітаратурныя навіны.

### Пры ўрачыстым святле дня

Сустрэліся мы, канечне ж, выпадкова. Я спяшалася да хаты з Дома кнігі, пасля чарговай ночы з „хуткімі дапамогамі", без сну, зусім „не в лице", і пабачыла спачатку нейкі недарэчны руды калматы каўнер са штучнага футра на шэрым паліто, а потым за каўняром згледзела знаёмую ўсмешку: Міхась. І ён быў заняты нейкімі сваімі дум-

камі, сваім клопатам. Неяк гмыкнуў іранічна: „Ну,восъ — сустрэліся”. Таксама, мабыць, згадаў „урачыстае святло дня” і „сталёвы пярсцёнак”.

Пазней прынёс Айзэнрайха і маленечкаую драўляную скульптуру: жанчына, з палец, у стылі ўлюбёнага ім прымітывізму. Сапраўды я збірала яму чытаць нейкія часопісы, ён прыносіў мне толькі што набытыя ў кнігарні кнігі.

Стасункі нашыя набылі ранейшы, звычны прыязна-дыстанцыйны кшталт, з інтэрлюдыямі-гаворкамі па тэлефоне, выпадковымі сустрэчамі. Часам, праўда, па тэлефоне ён згадваў напаўжартам, як той вялікі, з Польшчы: „Збяжым у Тамашуў”. Былі, можа, як у Тувіма, свой Тамашуў і яшчэ якія падарожжы. Але гэта былі ўжо іншыя гісторыі. Больш рэальныя. З канкрэтнымі дзейнымі асобамі. Не са мной. І тут — толькі канстатацыя факта. Не роспач. Не журба. Не шкадаванне. Не „уничижение” — нават тое, што „паче гордости”. Інакш не магло быць. У жыцці кожнага з нас кантрапункты пазначаліся паасобку. Лініі існавання ішлі паралельна. Паводде Еўкліда. Толькі часам выяўляючы логіку казанскага матэматыка — і перакрыжоўваючыся. Каб зноў сысці ў далёкія паралелі. І эпісталярныя нашы стасункі скончыліся выхавана-гжэчным шматкроп'ем. Ніякіх меладраматычных клічнікаў і пытальнікаў. Ніякіх кропак над „і”.

Тым часам здавалася — хаця дыстанцыя нашага зямнога існавання перайшла даўно на другую палавіну, і ўсё ж — да той, канечнай, падзеі далёка.

А пакуль — кожны са сваёй самазасяроджанасцю. Раўнавага быцця. Раўнавага суіснавання. Ідылія духоўнай блізкасці. На адлегласці.

Ажно „провидение” да ідылій і ілюзій не так часта ставіцца паблажліва. Драмы лёсу не было. Але фінал нашых адносін усё ж стаўся трагедыяй. 23 жніўня 1987 года Міхась Стральцоў пайшоў з жыцця. І трагедыя — не таму, што надышоў канец зямнога існавання: гэта натуральна. Трагедыя — таму, што не зжыў пазначанага біблейскага веку. (Хаця ў нас ад нязбытнага сацаптымізму і пра васьмідзесяцігадовых пішуць: заўчасна памёр.)

Перад тым — мы рабілі разам у часопісе „Нёман”. Перад тым — ён святкаваў свой пяцідзесяцігадовы юбілей. Перад тым — была ўсё ж вандроўка.

У Слаўгарад. У Сычын. Рабілі тэлефільм пра Міхася Стральцова. Ці — больш правільна — перадачу пра Міхася, дзе быў дваццаціхвілінны фільм. На тэлебачанні вырашылі выехаць на радзіму Стральцова. І былі тры цудоўныя дні: 20, 21, 22 студзеня 1987 года. Перад тым

стаялі страшэнныя маразы — да 30 градусаў. А як нам ад'язджаць — пацяплела, недзе толькі 10. Усё сляпуча-белае, блакітнае. Тэлебачанне едзе на сваім „рафіку", мы: Міхась Стральцоў з малодшай дачкой (ад другога шлюбу) — светлай, лагоднай Алесяй, Рыгор Барадулін, Алесь Пісьмянкоў і я — аўтобусам. І гаворка, здаецца, ідзе звычаёвая, і п'ем мы звычайную каву з тэрмаса, што прынесла Алена Дзмітрыўна (разам з іншымі ванзэлкамі, прызначанымі сваякам Міхася Лявонцьевіча), і ямо звычайныя піражкі з яблыкамі (майго вырабу), і нічога асаблівага не адбываецца, але прысутнічаюць у аўтобусе нейкія флюіды паразумення і разумення, што не выяўляюцца ў словах і ўчынках, але адчуваюцца неяк інакш (сёмым, дзесятым чуццём?). Настрой гэты — недзе ў паветры, у кіламетрах, метрах дарогі, у сыпучым, ясным снезе, у праменьчыках сонца. Мы ж едзем да тых дрэў, да тых стромаў, дзе гуляюць блакітныя вятры даўняй Стральцоўскай мары. Маладога яго наіву. І юных парыванняў душы. І за вокнамі аўтобуса — стоеныя, таямнічыя лясы, абрусы заснежаных палёў, утульныя вёсачкі, гасцінныя гарады. Ідылія заснежаннай прасторы, ідылія з адлегласці, ідылія нязгаданага і згаданага, ідылія падарожжа — турботы і штодзённы клопат засталіся ца тых кіламетрах, што адлічылі колы нашага „Ікаруса", а мы недзе ў рэальных, але і прымроеных нашым уяўленнем прасторы і часе. У вэлюме добразычлівасці і нават крыху сентыментальных ілюзій „радаснага саду", аддзеленага ад астатняга свету не толькі аўтобусам, але і агульнасцю вось гэтых, нядоўгіх, крухкіх, ламлівых сувязей, суадносін — гэтага падарожжа.

І былі сустрэчы з аднавяскоўцамі Міхася Стральцова, з яго маці, што так спакойна, нібыта яна ўсё жыццё давала інтэрв'ю тэлебачанню, гаварыла: „Я заўсёды лічыла, што ён некім будзе. Літаратарам нейкім", з жанчынай, у якую ў юнацтве быў закаханы ўпершыню Міхась, з тымі дрэвамі, хатамі, — з той зямлёй, што памяталі Міхася Стральцова, якому яшчэ толькі наканавана было стаць творцам, Майстрам.

Там, у Сычыне і Слаўгарадзе, ішло сваё, недатычнае да нас і не залежнае ад нас жыццё. Быў звычайны клопат дня. Але ў дачыненні да героя нашага падарожжа ўсё набывала асаблівы сэнс: жанчына, што мыла бялізну ў палонцы, цікаўныя вясковыя дзеці (іх было няшмат), вольныя, не прывязаныя, але не бадзялыя, хатнія сабакі. Пажоўклыя здымкі ў хаце, дзе гадаваўся Міхась, каляндар прыроды, што вёў яго бацька. Нават зусім пашорхлыя, амаль неарганічныя ўжо, вязкі нейкіх зёлкаў пад столлю хаты, нават старыя табурэты і яшчэ нейкія седалы ў хаце і ў сенцах. І тая круча ў Слаўгарадзе, над якой Міхась чытаў свой верш, і старыя гасцінцы Магілёўшчыны. Там зараз

— і надоўга — нячутная і нябачная бяда. Але я не хачу распавядаць пра яе тут — тады пра гэта яшчэ мала хто ведаў (Чарнобыльскія сакрэты захоўваліся пільна), — мы таксама занятыя былі іншым.

Нават і вячэры — у Сычыне, у Слаўгарадзе, у Доўску (на шляху ў Менск) — былі не тое каб рытульна-ўрачыстыя, але ў іх адчувалася магія прысутнасці талентаў — Міхася Стральцова і Рыгора Барадуліна, незаўважны гіпноз падпарадкаванасці ўсіх астатніх іх асобам. Усё другаснае набывала нечаканую галоўнасць існага і важнага, усё ўзбуйнялася, набывала новыя адценні, нюансы, стваралася асобая атмасфера. Хаця не было сур'ёзных гаворак, спрэчак — нейкія аскепкі, бліскаўкі, іскры. Але бліскаўкі — вясёлкі, іскры — месячнага святла, аскепкі — вялікай казкі жыцця.

Гэта было і пазней — калі ў Менску запісвалі сваё слова Васіль Вітка, Віктар Карамазаў, Карлас Шэрман. І потым працягвалі студыйную гаворку ў кавярні. І маўклівая мудрасць Васіля Віткі, нейкія філасофская лагоднасць і ціхамірнасць Карамазава, якая раптам выбухала нечаканай весялосцю. Усё гэта жывілася прысутнасцю Міхася Стральцова. Героя, юбіляра. Ён з нейкай добрай радасцю глядзеў на свайго сябра, які ўзяў ды і прайшоўся кругам упрысядку ў кафэ. „Віця", — неяк заўсёды пяшчотна і злагадна згадваў Карамазава Міхась.

Так, былі перад'юбілейныя дні. І перадача з фільмам выйшлі да юбілею. І я гарэла ад сораму. Усе выдатна гаварылі, усе былі на экране роўныя самі сабе ў жыцці. Але той перадачы і таго фільма, які я сабе ўяўляла, не атрымалася. Не толькі таму, здаецца, што я не мела вопыту ў кіно і на тэлебачанні. Рабіла я сцэнарый (па просьбе Міхася — я ўжо распавядала, гэта была яго ідэя, калі ён даведаўся, што збіраюцца рабіць фільм пра яго) паэтычна-лірычны. Прыехаўшы ў Слаўгарад і пазнаёміўшыся з рэжысёрам, я зразумела, што мы маем на ўвазе розныя рэчы. Добра перамовіліся, я ўсю ноч не спала і вырашыла вяртацца ў Менск. Дзеля чаго я тут? Няўломак, няўдаліца. Міхась Лявонцьевіч і Рыгор Іванавіч неяк усё гэга „стушевали", але я па сутнасці толькі прысутнічала пры тым дзействе. Уладзімір Таміла рабіў усё, што ён лічыў патрэбным. Рэдактар Саня Шлег ажно квітнеў ад радасці — фільм пра сябра. Аператар лавіў настрой героя і прыроды. Рыгор Іванавіч высакародна ўзяў на сябе ролю вядучага. І абодва яны — Міхась Стральцоў і Рыгор Барадулін — разумеючы мой афронт, зрабілі рабочую няўдачу ўдалай жыццёвай імпрэзай.

Міхась пазней усё суцяшаў мяне: „Не перажывай. Мы паедзем да цябе ў Наваградак, зробім фільм пря Янку Брыля". Янка Брыль — не толькі любоў удзячнага вучня. Ён быў „дарагі яму літаральна кожным радком". І ў гэтым абзацы з „Пячаткі майстра" — стаўленне да пісь-

менніка і чалавека выяўляецца, можа, найбольш выразна: „Брыль нагогул пісьменнік, надзелены вялікай здольнасцю пастаяннай апрабацыі вышэйшых маральных каштоўнасцей і ўдакладнення іх для сябе і для сваіх герояў. Гэтая якасць, пры яшчэ надзвычайнай духоўнасці брылёўскага мастацкага свету, выгадна вылучае яго сярод сучасных нашых празаікаў — гэтым ён прыналежны да непарушных традыцый вялікай літаратуры".

Вось гэтае — „апрабацыя вышэйшых маральных каштоўнасцей і ўдакладнення іх для сябе і для сваіх герояў", мастацкі свет Брыля — было для Міхася Стральцова неабходным, патрэбным, мецiла яго ўласную філасофію існавання, надавала ёй, мне так здаецца, важкасць і пэўнасць. Часам ён, мабыць, і не пагаджаўся ў душы з Іванам Антонавічам, але ўласныя, яго, Стральцова, разгубленасць і разумовыя пошукі, яго „няшчасная свядомасць" (Гегель), яго „пункцірны" сацыяльны і асабісты побыт — знаходзілі тут і сталую грунтоўнасць усведамлення, і ахоўную свядомасць, і нібыта блізілі яго да нейкіх першасных, анталагічных асаблівасцяў нашага быцця ў свеце. І блізкасць мастацкага метаду недзе набліжала, а недзе адштурхоўвала Міхася Стральцова ад Брыля („Смаленне вепрука", напрыклад). Але Брыль быў заўсёды неабходны Стральцову. І ў апошнія дні Міхася Лявонцьевіча — калі яму на нейкі час стала лепш — яны паўтары гадзіны вялі размову. Гэта было 2 жніўня 1987 года, пазней мы ўсе заходзілі ў палату на хвіліну — аддаць паклон. Рыгор Барадулін з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай (дарэчы, як мне здаецца, менавіта той жонкай, якую шчасціць мець мастаку, прыгожай, разумнай, мудрай), акцёр Дубашынскі, Вераніка Стральцова і я.

Янка Брыль вёў рэй і ўлетку, у ліпені 1986 года, калі быў вечар Міхася Стральцова. І пазней, на вечарыне ў дзень юбілею ў доме Міхася Лявонцьевіча і Алены Дзімтраўны за хатнім багатым сталом. Знешне нішто, дарэчы, не нагадвала пра „падводныя плыні" ў іх сямейным жыцці. Было гасцінна, утульна, смачна. Было весела і цёпла. Праўда, дарослых дачок ад першага шлюбу — Вікторыі і Веранікі — не было.

У 1987 годзе Міхась Стральцоў — гэтаму вельмі спрыяў Рыгор Барадулін — наладжваў некалькі вечароў. У сакавіку — у Доме літаратора, пазней — у Гародні, недзе яшчэ. Тады многім здавалася: мнагавата. Нават і мне. Хаця ў Доме літаратара, напрыканцы красавіка, я таксама брала чынны ўдзел. Здаецца, крыху больш удалы, як у тэлевізійнай перадачы.

Міхась Стральцоў ціха-здаволена згаджаўся на ўсе вечары. Ці таму, што ўсё гэта было пацвярджэннем ягонага вяртання ў літаратуру і

літаратурны свет, ці таму, што прадчуваў — ужо апошнія месяцы жыцця. Так ці інакш — добра, што былі вечары, што ён зноў адчуў сябе прызнаным, слынным літаратарам.

Між іншым, калі Стральцоў вярнуўся з Мазыра, як сведчыў у гаворцы са мной згаданы ўжо Вечаслаў Івашчанка (ён на тую пару заходзіў да Міхася Лявонцьевіча, што якраз супала з нашай працай над кнігай Івашчанкі), быў той замкнёна-разгублены, пачуваў сябе адстаронена і адчужана ад звычнага літаратурнага атачэння. І тут нельга перадаць увагі ўчынкам Рыгора Барадуліна і Анатоля Кудраўца. Рыгор Барадулін, як мог, спрыяў заказам на нейкія пераклады, уключэнню ў план яго кніг, тэлефанаваў Міхасю і ўранку, і ўвечары, нават, як гаварыў сам Стральцоў, купляў яму месячны білет для праезду ў менскім транспарце.

Анатоль Кудравец, галоўны рэдактар часопіса „Нёман”, вядомы празаік, не збаяўся папярэджанняў адміністрацыйных асоб: што, Стральцова на сталую працу? А было гэта ў гады, калі за складам рэдакцый пільна сачыла не адна ўстанова. Міхась Лявонцьевіч быў узрадаваны і ўражаны — пазваніў! запрасіў! сам галоўны радактар! Праца ў аддзеле крытыкі — спачатку літсупрацоўнікам, потым рэдактарам (загадчыкам) аддзела — вярнула яму яго грамадскае рэнамэ. Не творчае — гэта ў яго ніхто не мог забраць, а менавіта літаратурнаграмадскае. Ён вярнуўся ў пэўнае кола. Не толькі як таленавіты творца, але і як чалавек, што здольны выконваць службовыя абавязкі. Чалавек, што адпавядаў пэўным нормам. Для таленту нават і супрацьпаказанае — норма, але для вяртання „на круги своя” патрэбны ўчынак. Міхась Лявонцьевіч адчуў грунт пад нагамі. Ды і з грашмі стала лягчэй. З'явіўся невялікі, але сталы заробак.

Ці не пярэчу я сабе? то сцвярджала, што Міхасю Стрельцову патрэбны быў маёнтак, рэнта — і раптам... Як мне здаецца, на той момант, калі ён пасля ўсіх пярэкрутаў лёсу вярнуўся ў Менск, сталая праца, служба былі яму неабходны. Як неабходныя былі стасункі з Янкам Брылём, Васілём Віткам, Алесем Адамовічам... З сябрамі: і толькі што згаданымі, і з Віктарам Карамазавым, Анатолем Грачанікавым, Васілём Зуёнкам, Таццянай Арловай, Міхасём Тычынам, Аляксеем Гардзіцкім, Аляксандрам Станютам... Яму былі неабходныя прыязнасць і разуменне Алеся Разанава, Генадзя Шупенькі, Варлена Бечыка, Анатоля Сідарэвіча... Пільная ўвага маладых: Леаніда Дранько-Майсюка, Сяргея Дубаўца, Уладзіміра Арлова, Адама Глобуса, Алеся Асташонка...

Міхась Стральцоў збіраўся вызваліцца ад службы, зноў вярнуцца выключна да творчай працы. Гэта ўжо пад час хваробы. У шпіталі.

Як адбылося б, каб Бог і Лёс адшкадавалі яму яшчэ добрую рэшту жыцця — цяжка згадваць...

Прадчуванне канца — ці было яно ў яго? Мне здаецца, калі і было, падсвядомае, інтуітыўнае. Не выслоўленае. Не выяўленае канкрэтна. У маі і красавіку 1987 года ён пару разоў прыходзіў на працу страшэнна бледны. Тлумачыў — нешта з сэрцам. Гэта, мабыць, і радыяцыйны боль (у яго быў рак стрававода). Потым нечакана лёг у бальніцу. Нікому нічога не сказаўшы. Ляжаў у 2-ім шпіталі. Калі мы з Тамарай Аляксееўнай Нікіфаровіч (карэктаркай „Нёмана”) наведалі яго, быў знерваваны, раздражнёны. Хаця неяк пасвятлеў, палагаднеў, кажучы: „Бачу адсюль тваю хату, Томік” (да Тамары Аляксееўны). Выпісаўся таксама нечакана. І знік. Яго жонка з дачкой Алесяй былі тым часам на курорце.

У ліпені Міхась лёг у анкалагічную клініку ў Бараўлянах. Ездзіла да яго — ён ужо мала што еў; везла арбуз, чарніцы, чарэшню. Нейкім разам мы сышліся ў яго выпадкова: Карлас Шэрман, Анатоль Сідарэвіч і я. Карлас Шэрман зрабіў слайды і пазней аддаў іх Сідарэвічу, у часопіс „Крыніца”, там, дзе мы ўдваіх з Міхасём Стральцовым, — падараваў мне. Дзе Сідарэвічавы — не ведаю, адзін давала „Крыніца”, мой раптоўна знік пасля таго, як я паказвала яго навагоднім вечарам разам з маімі італьянскімі слайдамі. Я перавярнула дагары нагамі ўвесь дом — няма, хоць плач. Няма.

Перад аперацыяй я ўвечары прыходзіла да Міхася Лявонцьевіча, ён пагладзіў кветкі, паглядзеў на чарэшню... Быў супакоены, лагодны. Спадзяваўся на дактароў. Папрасіў, каб Алена Дзмітраўна — яна была ў яго — праводзіла мяне. Мы абедзве супакойвалі Міхася, спасылаючыся на ўсе шчаслівыя выпадкі.

17 ліпеня Міхасю Стральцову зрабілі аперацыю. І з рэанімацыйнага адзялення ён ужо не выйшаў... 6 жніўня, калі яму стала лепш, прыехалі да яго ўсе: ужо згаданыя. У апошнія дні прыходзіў да яго Дранько-Майсюк.

Усё лета я тэлефанавала Вераніцы, Рыгору Барадуліну, Карласу Шэрману. Яны — мне. Ніхто не ад'язджаў далёка ад Менска.

Вестка пра смерць Міхася Стральцова заспела мяне на Іслачы — той Іслачы, пра якую пісаў Міхась Лявонцьевіч. У Дом творчасці (ён толькі адчыніўся) Стральцоў так і не паспеў прыехаць. Я ж апынулася там з прычыны рамонту: у маёй хаце яго распачалі яшчэ ў траўні, калі Стральцоў быў, здавалася, здаровы — ўзяла адпачынак, Так і ездзіла адтуль на працу. Трэба было весці аддзел. За абодвух.

Пасля таго як усе мы, яго сябры, праводзілі Міхася Стральцова ў апошні яго шлях, лёсу было заўгодна кінуць мяне паводле лепшых

традыцый „усадебной культуры” (ўжо згадвалася — Міхась любіў яе) — за мяжу. У Італію. Можа, дзеля таго, каб там, дзе на кожным камяні — адзнака тысячагоддзяў, згадаць аб ratio vivendy[1]. Зірнуць на свет sub specie aeterni[2]. А можа, каб проста парадавацца жыццю. І за яго таксама... За Стральцова... „Небо Италии, небо Торквата. Прах поэтический древнего Рима...” Баратынскі...

Каго працытаваў бы тут Стральцоў? Што „загадаў” бы пагля-дзець?

Працытаваў... Загадаў... Непапраўны прошлы час... Мінулы...

### „І ўспомніць душа святло...”

Загадка Стральцова... Ён панёс яе з сабой. Пакінуўшы нам класічныя ўзоры майстэрства. Многа ці мала? Як вымераць радкамі высокае мастацтва?

Ён быў супраць слотнай няўклюдзіцы слоў. Супраць цягамотных, раскілзаных сюжэтаў, супраць бясконцых аповедаў пра некага, пра нешта, дзеля нечага... Ён спавядаў лірычна-філасофскі водгук на жыццё, на такое перажыванне светапарадку, што мела б на ўвазе і надзейнасць класічных арсеналаў, векавых канонаў — і пазалагічна-мантажныя выяўленні ўражанняў і падзей: не разумовае бязладдзе, але ўменне знайсці новыя пошукава-некананічныя ўстаноўкі.

Я зноў перачытваю невялічкае эсэ, шэсць слупкоў тэксту, непрэстыжны падпольчык літгазетаўскай (маскоўскай) паласы (гэтая газета, дарэчы, ніколі не адшкадавала цэлай паласы ні Івану Мележу, ні Янку Брылю, ні Максіму Танку, ні нават Янку Купалу ці Максіму Багдановічу). Сціплы такі на выгляд артыкульчык. Аднак і цяпер, праз некалькі год, калі столькі пісалася і друкавалася — забойнага, сенсацыйнага, разумнага — радкі Стральцова выдаюць спакойнай прадуманасцю, глыбінёю думкі, дыстынктоўнасцю стылю.

„Я не пастрашуся прамовіць, што мяне цікавіць пытанне мастацтва самога па сабе” (там, на расейскай мове, гэта гучала так: „Я не побоюсь сказать, что меня интересует вопрос достоинства искусства как такового”). Міхась Стральцоў ніколі не баяўся гэта сцвярджаць — словам прозы, словам крытыка. Ці былі ў яго магчымасці, моц на спраўджванне? Мне здаецца, былі. У спрыяльных умовах. Моцартавы склад таленту ўвесь час цярпеў ад усмешкі скептыка-аналітыка, які сядзеў у Стральцове, і перапыняў занатоўванне імгненнага. Цярпеў ад

[1] Сэнс жыцця (лац.).
[2] З пункту погляду вечнасці (лац.).

крыўдлівых усмешак нядобразычліўцаў. Ад кпінаў лёсу. Ад прадонняў у самасвядомасці. Сам ён у згаданым артыкуле пазначыў так: „Я... быў заняты, І нават досыць сур'ёзна, годным уладкаваннем уласнай асобы і свайго ўнутраннага свету...”

Міхась Стральцоў (пра гэта сведчаць і яго лісты) не быў з тых, хто ўмее старанна і абавязкова кожнага дня гнаць свае радкі. А настрой, той палётны, натхнёны, ён легка парушаўся... Памятаеце? „Аповесцейку сваю я колькі разоў губіў тым, што, загарэўшыся ёю, ужо як бы адчуўшы цалкам, не садзіўся ў час за стол — і перагараў. Вось яшчэ чаму самадысцыпліна ў працы – ўсё ж вялікая рэч”.

Чаму не садзіўся за стол? Хто вінаваты? Ці толькі абставіны? Ці ўсё ж — ён сам? Ці тыя сацыяльныя прычыны? Абставіны трагічнага лёсу беларусаў? Памятаю, як нейкім выпадкам, яшчэ да Мазыра, асцярожненька „агітавала” яго пісаць. Ён скрушна давёў: „А каму гэта патрэбна?”

Міхась Стральцоў — пісьменнік элітарны. І — беларускі пісьменнік. То дзе ж ён — быў ці ёсць — ягоны чытач? Дзе тыя беларусы, што разумеюць „філасофію ўсясветнай выпадковасці быцця” (А.Роб-Грые), што ўмеюць спасцігнуць тыя аблічча існага, што ўмеў стварыць Міхась Стральцоў? Іх так мала. І было, і ёсць. І таму так выйгравалі ў „масавасці”, „папулярнасці”, „знакамітасці” тыя, хто займаўся простым паўтарэннем, пералічэннем розных карцін рэчаіснасці, канкрэтных, на ўзроўні будзённага ўсведамлення. Ці быў ён абыякавы да гэтага? Ён не быў зайздроснікам. Ведаў цану таннай славы. Крыўда, па-мойму, была. Нават больш — пакута. Ён не быў у суладдзі са светам. А свет — з ім. Аднак ён жыў адчуваннем гармоніі. Меў тое, дадзенае выбраннікам, сузіранне, што „ахоплівае субстанцыю рэчы ва ўсёй яе цэласнасці, меў магчымасць вытусаць *сэрца* альбо *душу* рэчы з усяго, што засцяняе сутнасць” (Гегель).

Што было б, калі б ён быў жывы?

Наўрад ці сёння падаўся б у члены якой партыі, наўрад ці займаў бы трыбуны, наўрад рабіў бы нататкі „на злобу дня”. Ён быў філосафам, сузіральнікам, мысленнікам. Ніколі не лавіў за крыла момант.

Што б ён рабіў? Цяжка згадаць...

Проза, вершы, крытычная проза... Эпістальярная проза. На ўсім пячатка майстра.

Многае не спраўдзілася. Але — „душа сбылась”.

Бэзавы попел... Згадваю „матыў лірычны, адмысловы”, і „красу арабінак”, і лес „у асеннім агні”. І сыплецца, спадае бэзавы попел успамінаў...

І ўспамінае душа святло...

*Іслач.*
*Жнівень 1990 г.*
*Верасень 1992 г.*

## ЗМЕСТ